

*Рэмбрандт. Адрачэнне святога Пятра.*
*1660 г. 154х169 см. Палатно, алей.*
*Амстэрдам, Дзяржаўны музей.*



*Казімір СВАЯК*

# Гімн да Бога

Заўсёды, о Божа, дзіўлюся Табе я…
Ці ў ночы спакойнай, ў зорках неба ясных,
Ці як стогне бура, як шуміць завея,
І ў блысках сонца, і ў маланках страшных.

Дзіўны Ты, о Божа, ў кождым кветку польным,
У кождай расцінцы, ручайку прытольным;
Дзіўны ў стварэнні так дзіўнага свету,
Ты даеш прыгожасць і пагоду лету.

Дзіўлюся Табе я ў душы маёй, Божа,
Дзе скарбы закрыты ад злоснага вока,
Жыццё дзе асобна, а Ты яго, Божа,
Ажыўляеш ласкава — таёмна — глыбока.

Найболей дзіўлюся Табе я, Прадвечны,
Што Ты у натуры сваёй Безканечны:
Хоць усё загіне, свет пачнецца новы,
Ты Вечнатрывалы — вечны Твае Словы.

*1913*



У нумары 1/2010
НАША ВЕРА



# Рэмбрандт. Адрачэнне святога Пятра

Рэмбрандт Гармэнс ван Рэйн (1606—1669) — адзін з найбольш вядомых у свеце мастакоў. Універсалізм яго творчасці, здавалася б, заўсёды забяспечваў славу яго імені і творам. Пра Рэмбрандта не забываліся ніколі, нават далёка ад яго родных Нідэрландаў. Напрыклад, рускія дыпламаты набывалі яго карціны і гравюры на працягу ўсяго XVIII стагоддзя і везлі ў Пецярбург, у царскія калекцыі. Таму ў Эрмітажы склаўся унікальны збор «рэмбрандтаў». Але па-сапраўднаму талент вялікага галандца быў ацэнены адносна нядаўна, пасля трыумфальных выставаў твораў на радзіме мастака ў 1956 годзе. Упершыню ў Рэмбрандце ўбачылі не толькі прадстаўніка эпохі, але і найярчэйшае ўвасабленне нацыянальнага духу, а таксама агульначалавечую каштоўнасць яго творчасці. Падобна Шэкспіру, ён зразумелы і блізкі мільёнам людзей у розных кутках планеты.

На пачатку 1980-х гадоў некалькі гравюраў Рэмбрандта разам з эрмітажнай выставай гасцявалі ў Мастацкім музеі Беларусі ў Мінску. Я сустрэўся з імі, як са старымі сябрамі. Успомніліся заняткі спецкурса па творчасці Рэмбрандта, якія праводзіў з намі эрмітажнік Юрый Кузняцоў. Словы настаўніка гучаць дагэтуль у яго кнігах: «Рэмбрандт стварыў жывапісную мову, у якой галоўную ролю адыгрываюць тонка распрацаваныя прыёмы святлаценю, насычаны, эмацыйна напружаны каларыт і экспрэсіўная манера малявання. Уменне мастака пранікнуць у сутнасць рэчаў і падзеяў, у глыбіні чалавечай псіхікі працягвае хваляваць нас не менш, чым яго сучаснікаў»[1].

Але адносіны жывапісца і яго сучаснікаў былі вельмі пераменлівымі. Рэмбрандт, які абагнаў свой век, не быў да канца зразумелы сваім пакаленнем, што і стала прычынай яго чалавечай драмы.

Будучы мастак нарадзіўся ў горадзе Лейдэне, услаўленым перамогамі над іспанскімі каланізатарамі ў нацыянальна-вызваленчай вайне, якая ў 1609 годзе спынілася 12-гадовым замірэннем. Рэмбрандт выйшаў з сярэдняга класу Нідэрландаў, першы калектыўны партрэт якога з сімпатыяй намаляваў іспанец Дыега Веласкес у карціне «Здача Брэды» (1634). Бацька мастака працаваў мельнікам, потым набыў уласны млын. Старэйшыя браты сталі пекарамі і шаўцамі. Не выпадкова адной з асноўных рысаў мастацтва Рэмбрандта з'яўляецца дэмакратызм. Першыя ўрокі жывапісу юнак атрымаў у родным горадзе ў мастака Ван Сванэнбурга. Потым вучыўся ў Амстэрдаме ў Пітэра Ластмана. 1630-я гады — шчаслівы перыяд у яго жыцці: ён ажаніўся з каханай дзяўчынай Саскіяй ван Уйленбург, якую мы пазнаем у шэрагу твораў мастака. Рэмбрандта пратэжыруе штатгальтэр Нідэрландаў Фрэдэрык Аранскі. Эліта ахвотна набывае яго творы. Мастак разбагацеў, сабраў вялікія калекцыі зброі і твораў жывапісу. Здавалася б, можна да канца ісці па роўнай дарозе кар'еры і прызнання. Але ў душы мастака няма творчага спакою і самазадавальнення. Як напісаў французскі даследчык Робэр Жэнэй: «У ім адбываецца барацьба паміж схільнасцю да барока і памкненнем да класіцызму пад уплывам твораў Тыцыяна і Рафаэля»[2]. Вынікам творчых пошукаў і жыццёвага досведу становіцца хвалюючы і чалавечны рэалізм мастацтва Рэмбрандта.

Палатно «Адрачэнне святога Пятра» належыць да позняга перыяду творчасці Рэмбрандта. Слава і прызнанне засталіся ў мінулым. Смерць блізкіх людзей, поўнае разарэнне ў выніку экана-

мічнага крызісу сталі фонам для трагічнай змены яго сацыяльнага становішча. Пакінуты ўсімі, нават вучнямі, мастак жыве ў самоце, не маючы сродкаў на існаванне. Ён ужо не задавальняе густы сваіх сучаснікаў. Яны любяць гладкую манеру малявання, халодны каларыт, выразныя контуры выяваў, а Рэмбрандт робіць усё наадварот, ён адкрывае новыя далягляды еўрапейскага жывапісу. Гэта напоўніцу бачна ў амстэрдамскай карціне.

Укрыжаванне Сына Божага вызначыла той трагічны дзень у Ерузалеме, але было не апошнім злачынствам ворагаў веры. Яны імкнуліся знішчыць вучэнне Хрыста, пачалі пераслед Яго вучняў. Усё прадбачыў Збаўца. Напярэдадні Ён сказаў апосталу Пятру, што той тройчы адрачэцца ад Яго да наступнай раніцы. Пётр не паверыў Хрысту, горача пераконваў у адданасці і гатоўнасці да ахвяры. Але ноч яшчэ не скончылася, цемра пануе над светам, які не спазнаў цуда Уваскрасення...

У карцінах Рэмбрандта святло заўсёды адыгрывае надзвычай важную ролю. Але гэтым разам яго плынь — не сімвал жыцця і Божай ласкі. У амстэрдамскай карціне яно становіцца сапраўды зброяй ненавіснікаў хрысціянства. Невялікая свечка гарыць у руцэ служанкі, але яе святло, як маланка, вырывае са змроку постаць і твар Апостала, і мы нібы чуем жаночы голас: «І гэты быў з Езусам Галілеянінам». Мастак гаворыць нам пра тое, якую вялікую бяду можа выклікаць дробная здрада дробнай асобы.

Нямецкі мастацтвазнаўца Фрыц Эрпэль пранікнёна апісаў святога Пятра ў гэтым палатне: «Чалавек на ростанях. Чалавек, які адракаецца — і ўсё ж ён пакліканы ісці далей сваім шляхам, выконваць сваю місію. Чалавек у разломе, у супярэчнасці: сучасны чалавек. Такі, якім яго прадстаўляе крытычна і глыбока спачувальна мастацкая дыялектыка Рэмбрандта ў выпрабаваннях жыцця»[3]. Постаць Апостала нагадвае выявы біблейскіх прарокаў у творах Мікеланджэло (такой наближанасці да вялікага папярэдніка мы бадай больш не сустрэнем у іншых работах Рэмбрандта). Пасярод цемры фігура святога Пятра матэрыялізуецца, нібы высечаная з мармуровай глыбы. Не дзіва, што антыхрысты пазналі ў ім паслядоўніка Укрыжаванага. Пётр паварочвае галаву на голас здрады, узнімае левую руку. Ён адракаецца... Твар Апостала з доўгім прамым носам і стомленымі вачыма не адлюстроўвае страху. Ужо потым, калі ён выйдзе за браму і заспявае певень, Пётр заплача ад сораму і адчаю.

Цэнтр кампазіцыі карціны вызначаецца драматычным кантрастам. Насупраць твару Апостала — зацемнены твар служанкі, якая захінае свечку рукою, каб лепш асвятліць твар Пятра. У прыцемках угадваюцца прыгожыя рысы маладой жанчыны, якая творыць зло. Яе ярка асветленая паўфігура з'яўляецца адзіным месцам на палатне, дзе мастак працуе не тонамі, а колерам. Абвострана, з выклікам гучыць гама крывава-чырвонага і асляпляльна белага. Па агульнай дыяганалі кампазіцыі цяжар канфлікту прымаюць на сябе дзве фігуры жаўнераў у левай частцы карціны. Самы крайні з іх — гэта змрочная істота, схематычна вылепленая шырокімі мазкамі пэндзля. А побач з ім мастак больш завершана вымалёўвае фігуру жаўнера з брутальным тварам. Жаўнер ўсеўся на краі калодзежа і збіраўся каўтнуць з сасуда, але, пачуўшы голас служанкі, спыніўся і грозна глянуў на святога. Чырвоныя рэфлексы і залатыя блікі злавесна гуляюць на яго шлеме і мячы, што ляжаць побач з ім. Гэтыя антыгероі, мабыць, былі сёння на Галгоце, яны хацелі б завяршыць сваю злачынную працу.

Прызвычайваючыся да змроку і святла ў выяве першага плану, мы не адразу заўважаем фігурную групу на фоне справа, а між тым гэта цудоўная знаходка Рэмбрандта — каларыста і апавядальніка. Можна нават гаварыць аб катэгорыі часу, якая заяўляе пра сябе ў жывапісе вялікага майстра. Мы не адразу ўжываемся ў атмасферу палатна. Паступова, крок за крокам разгортваецца перад намі яго дзея. Крык служанкі прыцягнуў увагу і тых, хто сядзеў у дальнім кутку заезда. Усе яны павярнулі твары ў той бок, дзе ўспыхнула свечка. Твары напружаныя і варожыя. Адзін з іх прыўстаў з месца і адбіўся змрочным ценем нават пасярод слабога святла і глухой цемры...

На першы погляд манера малявання Рэмбрандта вызначаецца бліскучай лёгкасцю і беспамылковым экспромтам. Але на самай справе (гэта бачна на здымках, зробленых у інфрачырвоных праменнях) паўсюль на палатне існуе шматслойны жывапіс. Мастак дасягае жыццёвай выразнасці ў выніку маруднай працы, стварэння сапраўднай жывапіснай пластыкі.

Творы Рэмбрандта — жывая класіка хрысціянскага мастацтва. Яго амстэрдамская карціна — як казанне мудрага святара. Яго творчасць — гэта служэнне хрысціянскаму ідэалу.

*Валеры Буйвал*

[1] Кузнецов Ю.И., Линник И. В. Голландская живопись в музеях Советского Союза. Ленінград, 1984. – С. 19–20.
[2] Robert Genaille. Dictionnaire des peintres flamands et hollandaise. Paris, 1967. – С. 172.
[3] Fritz Erpel. Rembrandt. Berlin, 1979. – С. 18.

**Валеры Буйвал** – мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.



# Прамова Святога Айца Бэнэдыкта XVI на агульнай аўдыенцыі для каталіцкіх біскупаў Беларусі падчас візіту *Ad limina apostolorum*

Дастойны ксёндз кардынал,
шаноўныя браты!

Я вельмі рады вітаць кожнага з вас у доме Наступніка апостала Пятра, якому Хрыстус даручыў заданне пасвіць свой статак *(пар. Ян 21, 15–19)*, умацоўваць братоў у веры *(пар. Лк 22, 32)*, зберагаць і развіваць касцёльнае адзінства *(пар. Lumen gentium 22)*. Дзякую біскупу Аляксандру Кашкевічу за прамову, у якой ён распавёў пра шлях Касцёла ў Беларусі, выявіўшы таксама выклікі, што яго чакаюць наперадзе.

У сустрэчах, якія я меў з вамі, я высока ацаніў пастырскую руплівасць, з якою вы выконваеце вашае служэнне, вашыя імкненні і намаганні, скіраваныя на ўсё большае паглыбленне сярод вас супольнай адказнасці, еднасці і сумеснага прыняцця рашэнняў, каб вашае служэнне станавілася ўсё больш плённым. Сапраўды, надзвычай важна з аднаўленым запалам і з новымі сіламі абвяшчаць непрамінальнае Евангельскае пасланне ў грамадстве, безабаронным перад пагрозамі секулярызацыі, геданізму і рэлятывізму, што знаходзяць выяўленне ў праблемах спаду нараджальнасці, нетрываласці сем'яў і ілюзіях аб здабыцці багацця па-за межамі сваёй краіны. Перад абліччам гэтых выклікаў неадкладнае заданне пастыраў у тым, каб паказваць сілу веры — веры, укаранёнай у трывалай традыцыі, каб гэта паспрыяла захаванню глыбокай хрысціянскай тоеснасці народа, у поўным павагі дыялогу з іншымі культурамі і рэлігіямі. Каб дасягнуць гэтай мэты, вам неабходна, успрымаючы як заклік словы псальма: «як добра і як прыемна, калі браты жывуць разам» *(пар. Пс 133 (132), 1)*, прыкладаць вялікія намаганні дзеля стварэння праграмаў і павышэння эфектыўнасці ўсё больш адпаведных душпастырскіх захадаў, а таксама дзеля рэалізацыі рашэнняў Канферэнцыі Біскупаў. Такое аднаўленае сведчанне адзінства будзе карысным не толькі для абвяшчэння Евангелля, але таксама паспрыяе наладжванню адносінаў з дзяржаўнымі ўладамі і асабліва развіццю экуменічных кантактаў.

Іншы аспект, які я жадаю падкрэсліць, гэта спецыяльная ўвага, якую неабходна надаць адукацыйнаму вымярэнню пастырскай дзейнасці. Як я неаднаразова падкрэсліваў, сёння мы перажываем своеасаблівае «надзвычайнае становішча» ў гэтым далікатным і асноватворным сектары, і неабходна прыкласці больш намаганняў, каб даць належную фармацыю перадусім новым пакаленням. Таму я заахвочваю вас працягваць вашую працу, клапоцячыся пра тое, каб адпаведная катэхізацыя паказвала шлях веры на ўсіх этапах жыцця, і каб пры гэтым былі спрыяльныя нагоды *intra et extra Ecclesiam* (унутрыкасцёльныя і пазакасцёльныя), каб пад вашым кіраўніцтвам пасланне Хрыста данасілася да ўсіх асяроддзяў паствы, вам даручанай. Асаблівае значэнне набывае занепакоенасць тым, што датычыцца распазнання розных пакліканняў і клопату пра іх развіццё, асабліва пра святарскія і законныя пакліканні, а таксама намаганні, скіраваныя на эфектыўную рэалізацыю праграмаў, прызначаных для чалавечага і хрысціянскага развіцця моладзі. У сувязі з гэтым я заклікаю вас уважліва сачыць за тым, каб кандыдаты ў святары атрымлівалі грунтоўную і дакладную духоўную і тэалагічную фармацыю і мелі неабходнае кіраўніцтва ў сур'ёзнай і глыбокай праверцы Божага паклікання. Сітуацыя, якая сёння склалася ў нашым грамадстве, патрабуе асабліва пільнага распазнання паклікання. Такім чынам, для будучыні вашага Касцёла вельмі важна, каб у Гродне і Пінску і надалей маладыя семінарысты мелі магчымасць праходзіць поўны і кваліфікаваны фармацыйны шлях, а тое, што ў абедзвюх установах

поруч ідуць да святарства кандыдаты як у дыяцэзіяльнае, так і ў законнае духавенства, з’яўляецца каштоўнаю нагодаю для развіцця супольнай пастырскай дзейнасці. Гэта будзе прыносіць усё больш шматабяцальны плён, калі прапанаваная адукацыйная праграма і надалей будзе вынікам інтэнсіўнага супрацоўніцтва паміж біскупам і настаяцелямі законных супольнасцяў і дасць магчымасць ажыццяўляць таксама ініцыятывы бесперапыннай фармацыі. Будзьце заўсёды блізкімі да сваіх святароў, атуляйце іх штораз большым клопатам, асабліва тых, якія толькі пачынаюць пастырскае служэнне. Праявы айцоўскай увагі і сардэчнасці біскупа з’яўляюцца асноўным элементам дасягнення поспеху ў святарскім жыцці! Акрамя таго, трэба заўсёды мець на ўвазе, што вас як пастыраў Касцёла Пан Бог заклікае ўмець распазнаваць кожнае канструктыўнае для будаўніцтва цела Касцёла служэнне, у тым ліку свецкага, культурнага і грамадскага характару, каб усе маглі зрабіць свой унёсак у пашырэнне Божага Валадарства ў Беларусі ў духу сапраўднага і дзейснага адзінства, вяртаючы ў жыццё тыя хрысціянскія каштоўнасці, што адыгралі вызначальную ролю ў будаўніцтве еўрапейскай цывілізацыі.



Падчас агульнай аўдыенцыі ў Святога Айца.

Дарагія браты, старайцеся не пакідаць без увагі ніводнага ўнёску, карыснага для абвяшчэння і пашырэння Божага Валадарства, канкрэтнымі справамі даючы сведчанне братэрства, якое нараджае супакой; лагоднасці, якая з’яўляецца спадарожніцай справядлівасці; духу еднасці, які пазбягае праяваў эгаізму; любові, якая доўгацярплівая, ласкавая; не зайздросціць, не пыхлівая, не ганарыцца, не бессаромная, не шукае свайго, не гневаецца, не памятае зла, не радуецца несправядлівасці, але радуецца разам з праўдай, усё зносіць, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё церпіць дзеля любові Хрыста *(пар. 1 Кар 13, 4–7)*. У гэтым кантэксце таксама немагчыма абысціся без братняга супрацоўніцтва з Праваслаўнаю Царквою ў Беларусі, пастыры якой падзяляюць ваш клопат і разам з вамі шукаюць дабра для вернікаў. Праваслаўныя Цэрквы, таксама як і Каталіцкі Касцёл, грунтоўна разважаюць над тым, якім чынам адказваць на выклікі нашага часу, каб верна перадаваць пасланне Хрыста. Прымаючы заахвочванне, якое было выказана падчас нядаўняй каталіцка-праваслаўнай сустрэчы на Кіпры, трэба прыкласці яшчэ больш намаганняў на супольным шляху ў гэтым кірунку. Значны ўнёсак у гэтую справу можа ўнесці невялікая, але руплівая Грэка-каталіцкая супольнасць вашай краіны. Яна з’яўляецца важным сведчаннем для Касцёла і Божым дарам.

Некалькі месяцаў таму я прыняў спадара Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Падчас сустрэчы, якая прайшла ў атмасферы цеплыні і ўзаемнай павагі, было зноў пацверджана жаданне абодвух бакоў заключыць Пагадненне, якое цяпер распрацоўваецца. Акрамя таго, я падкрэсліў асаблівую ўвагу, з якою Апостальская Сталіца, таксама як і Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, сочаць за бягучымі падзеямі ў краіне, і намаганні дзеля плённага супрацоўніцтва ў пытаннях, якія ўяўляюць агульны інтарэс, з мэтаю спрыяць дабру грамадзянаў, з павагаю да сфераў кампетэнцыі кожнага.

Найдастойнейшыя браты, паўтараючы зноў маю падзяку, я заклікаю Маці Божую, якую так любяць на вашай зямлі, каб Яна падтрымлівала і накіроўвала вас, атуляючы сваім заступніцтвам. З такімі пажаданнямі і з асабліваю любоўю ўдзяляю вам, святарам, законнікам і законніцам, а таксама ўсім вернікам спецыяльнае апостальскае благаслаўленне і запэўніваю ў маёй малітве за ўвесь беларускі народ.

*Ватыкан,*
*17 снежня 2009 года.*

## Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч

# ДА АПОСТАЛЬСКІХ ПАРОГАЎ

## Развагі пра візіт *Ad limina apostolorum* каталіцкіх біскупаў Беларусі

З 11 па 18 снежня мінулага года беларускія біскупы ў трэці раз у сучаснай гісторыі Каталіцкага Касцёла ў нашай краіне наведалі Рым з візітам *Ad limina apostolorum* — да апостальскіх парогаў. Такія візіты ў адпаведнасці з Кодэксам Кананічнага Права адбываюцца рэгулярна: як правіла, кожныя пяць гадоў. Амаль штодня ў Вечным горадзе можна сустрэць біскупаў з розных куточкаў свету, якія прыбылі туды з такім візітам. Вялікія канферэнцыі біскупаў, напрыклад, такіх краінаў, як Бразілія, Аргентына, Італія, Германія, Францыя, Польшча, візіт *Ad limina apostolorum* праходзяць у некалькі этапаў, па рэгіёнах. Паколькі Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі складаецца толькі з шасці біскупаў, у Рым прыехалі адначасова ўсе беларускія іерархі, да якіх далучыўся таксама Апостальскі візітатар для католікаў усходняга абраду ксёндз архімандрыт Ян Сяргей Гаек MIC.

На першы погляд можа здавацца, што візіт *Ad limina apostolorum* — гэта толькі падарожжа ў Рым, сустрэчы з Папам, з кіраўнікамі ватыканскіх міністэрстваў і ведамстваў — Кангрэгацый і Папскіх Радаў. Але такое павярхоўнае ўяўленне далёкае ад праўды і не зусім адпавядае мэтам візіту да апостальскіх парогаў.

Насамрэч пачаткам візіту *Ad limina apostolorum* можна лічыць атрыманне з Ватыкана праз Апостальскую Нунцыятуру афіцыйнага паведамлення пра прызначэнне яго тэрміну і цэлага пакету папераў з пытаннямі, згрупаванымі тэматычна, на якія трэба даць дакладныя і падрабязныя адказы. Гэтыя пытанні ахопліваюць усе аспекты жыцця і дзейнасці мясцовай касцёльнай супольнасці. Адказы на іх павінны даваць вычарпальную інфармацыю пра духавенства, вернікаў, касцёльныя структуры, душпастырства, дабрачынную, культурную, навуковую, адукацыйна-выхаваўчую, выдавецкую дзейнасць, міжканфесійныя і міжрэлігійныя кантакты, сродкі інфармацыі, законніцкае і манаскае жыццё, дзейнасць касцёльных рухаў і супольнасцяў, адносіны з грамадствам, стан сужэнства і сям'і і многае іншае. У працы над пытаннямі не абмінаюцца таксама актуальныя праблемы і прапануюцца спосабы іх вырашэння.

Каб падрыхтаваць кваліфікаваныя адказы, патрэбны цэлы «штаб» адпаведных спецыялістаў. Звычайна адзін або некалькі чалавек працуюць над пэўнай тэматыкай або нават над паасобнымі пытаннямі. У выніку з'яўляецца дастаткова аб'ёмны праект патрэбнай дакументацыі, на падставе якога дыяцэзіяльны біскуп са сваімі памочнікамі падрыхтоўвае канчатковы варыянт, які за паўгады да прызначанай даты візіту *Ad limina apostolorum* праз Апостальскую Нунцыятуру дасылаецца ў Ватыкан. Такім чынам, у Апостальскай Сталіцы яшчэ задоўга да прыезду біскупаў ёсць магчымасць падрабязна пазнаёміцца са становішчам мясцовага Касцёла і адпаведным чынам падрыхтавацца да сустрэчы з яго прадстаўнікамі.

Сам візіт у Вечны горад праходзіць паводле складзенага Ватыканам плану. У яго праграму ўваходзіць сустрэча з Папам і наведванне Кангрэгацый і Пап-



Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч і біскуп Антоні Дзям'янка на прыватнай аўдыенцыі ў Бэнэдыкта XVI. Ватыкан, 14 снежня 2009 г.

скіх Радаў. Іерархі не заўсёды сустракаюцца з прадстаўнікамі ўсіх ведамстваў Святога Пасаду: неабходнасць тых ці іншых сустрэчаў вызначаецца ў залежнасці ад становішча Касцёла ў канкрэтнай краіне. Біскупы з Беларусі, напрыклад, не былі ў Кангрэгацыі Евангелізацыі народаў, якая займаецца місіямі. Гэта і зразумела: мясцовы Касцёл, у якім адчуваецца востры недахоп святароў і кансэкраваных асобаў, не мае вялікіх магчымасцяў пасылаць місіянераў, хоць асобныя выпадкі, калі нашыя святары і законнікі накіроўваюцца на місіі, усё ж ёсць.



Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч падчас прыватнай аўдыенцыі ў Святога Айца. Ватыкан, 14 снежня 2009 г.

Наведанне Кангрэгацый і Папскіх Радаў — гэта не «экскурсія» па Ватыкане. Звычайна сустрэчы ў іх праходзяць прыблізна так: напачатку адзін з біскупаў прадстаўляе тую ці іншую сферу дзейнасці Касцёла ў адпаведнасці з профілем ведамства і яе надзённае становішча. Потым кіраўнік ведамства — прэфект Кангрэгацыі або старшыня Папскай Рады — на падставе паведамленых біскупам і раней атрыманых звестак ацэньвае рэальную сітуацыю. Пры гэтым ён можа задаць дадатковыя пытанні, на якія неабходна адказаць. Аднак такая сустрэча не зусім падобная да сітуацыі студэнта на іспыце, бо і біскупы са свайго боку маюць магчымасць задаць кіраўніцтву ватыканскіх ведамстваў пытанні, якія іх цікавяць, і папрасіць парады ў пошуку шляхоў вырашэння надзённых праблемаў.

Асаблівае месца ў праграме візіту *Ad limina apostolorum* адведзена сустрэчы са Святым Айцом. Такіх сустрэчаў было дзве. Спачатку Папа паасобку прыняў кожнага ардынарыя разам з ягоным дапаможным біскупам. Падчас гэтай прыватнай аўдыенцыі біскупы распавядалі Святому Айцу пра становішча ў сваёй дыяцэзіі, пра актуальныя праблемы і перспектывы развіцця даручанай ім касцёльнай супольнасці. Падчас размовы Папа таксама задаваў біскупам пытанні пра жыццё мясцовага Касцёла і даваў пэўныя парады.

Другая, агульная для ўсяго беларускага епіскапату аўдыенцыя стала завяршальным і кульмінацыйным пунктам візіту *Ad limina apostolorum*. Старшыня Канферэнцыі біскупаў Гродзенскі ардынарый Аляксандр Кашкевіч прадставіў Святому Айцу агульную сітуацыю Касцёла на Беларусі, пасля чаго Папа звярнуўся да біскупаў з пасланнем, у якім па выніках візіту звярнуў увагу на асноўныя кірункі развіцця і праблемы, якія павінен вырашыць Касцёл у нашай краіне ў бліжэйшы час.

Сустрэча са Святым Айцом Бэнэдыктам XVI — гэта сустрэча з Пятром нашага часу, якому Хрыстус даверыў стырно чаўна святога Касцёла, што плыве сярод бурлівых хваляў неспакойнага XXI стагоддзя з яго небяспечнымі выклікамі. Гэтыя сустрэчы ўмацавалі нашую надзею на будучыню і далі ўпэўненасць у тым, што стырно Касцёла знаходзіцца ў надзейных руках дасведчанага пастыра і аднаго з найвыдатнейшых тэолагаў сучаснасці. Менавіта ён дзякуючы дапамозе Хрыста ўмацоўвае нашую веру, каб мы не баяліся цяжкасцяў і адважна, у Божай ласцы і з любоўю кіравалі Касцёлам на Беларусі. Вельмі важна і прыемна, што Папа ў сваім пасланні беларускім іерархам з вялікай любоўю сказаў пра нашу краіну і запэўніў у сваёй нястомнай малітве за беларускі народ. Падчас сустрэчы беларускія біскупы запрасілі наступніка святога Пятра наведаць нашу краіну з пастырскім візітам.

Сустрэчы са Святым Айцом Бэнэдыктам XVI і кіраўніцтвам ватыканскіх ведамстваў сталі сведчаннем вялікай зацікаўленасці Папы і Святога Пасаду як Касцёлам на Беларусі, так і нашай краінай і працэсамі, якія ў ёй адбываюцца. Было відаць, што дасланая інфармацыя пра мясцовы Касцёл уважліва вывучана і прааналізавана. Гэта зрабіла візіт асабліва плённым і дапамагло вырашыць многія важныя пытанні. Варта адзначыць, што ўсе, з кім давялося размаўляць у Рыме, выказвалі словы

ўдзячнасці беларускаму народу за захаванне веры падчас пераследу Касцёла і за дынамізм, з якім ён адраджаецца. З вялікай зычлівасцю нам шчыра жадалі Божага благаслаўлення і поспехаў.

Падчас візіту *Ad limina apostolorum* біскупы традыцыйна цэлебруюць святыя Імшы ва ўсіх вялікіх рымскіх базыліках — святога Пятра на Ватыкане, святога Паўла за Мурамі, святога Яна на Латэране і святой Марыі Вялікай. Для нас, біскупаў з Беларусі, гэта была унікальная магчымасць разам памаліцца ў гэтых святых месцах, звязаных з гісторыяй хрысціянства ад самых яго вытокаў, ад апостальскіх часоў.



У гротах базылікі святога Пятра. Ватыкан, 17 снежня 2009 г.

«Дзе біскуп — там Касцёл», — навучае святы Ігнацый з Антыёхіі. Падчас гэтых цэлебрацый у рымскіх базыліках Каталіцкі Касцёл на Беларусі праз сваіх біскупаў як быццам дакрануўся да апостала Пятра — скалы, на якой Хрыстус будуе свой Касцёл; дакрануўся да апостала Паўла — Апостала народаў, самага вялікага місіянера ўсіх часоў, які мужна нёс святло Евангелля язычнікам; дакрануўся да апостала Яна — любімага вучня Езуса; дакрануўся да Маці Божай — Маці Касцёла і асаблівай апякункі Беларусі.

Візіт *Ad limina apostolorum* дазволіў нам яшчэ раз асабліва чынам адчуць паўсюднасць Каталіцкага Касцёла. У ведамствах Апостальскай Сталіцы працуюць людзі з розных краінаў свету і дзякуючы кантактам з імі найлепей відаць каталіцкасць — гэта значыць паўсюднасць — Касцёла. Адчувалася яна таксама і ў нечаканых і незапланаваных спатканнях з біскупамі і святарамі з усяго свету, якіх заўсёды шмат у Вечным горадзе.

Падчас візіту да апостальскіх парогаў нам спадарожнічала малітва беларускіх вернікаў. І там, у Італіі, мы маліліся разам з нашымі суайчыннікамі, студэнтамі з Беларусі, цэлебравалі для іх святую Імшу. Студэнты таксама бралі ўдзел ва ўсіх святых Імшах, якія беларускія біскупы цэлебравалі ў папскіх базыліках. Безумоўна, нам было вельмі прыемна атрымаць такую цудоўную падтрымку, поўную шчырага маладога энтузіязму. Невялікая Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі падчас візіту *Ad limina apostolorum*, быццам футбольная каманда падчас гульні на выездзе, мела сваіх верных «заўзятараў». Выказваю вялікую падзяку ўсім вернікам, якія маліліся за нас на Бацькаўшчыне, а таксама сустрэтым у Рыме студэнтам.

Асабліва трэба падкрэсліць вельмі добрае асвятленне візіту *Ad limina apostolorum* каталіцкімі сродкамі масавай інфармацыі, найперш на інтэрнэт-старонцы Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі *Catholic.by*, на якой аператыўна перадавалася інфарамацыя пра ход візіту.

Візіт каталіцкіх біскупаў Беларусі да апостальскіх парогаў стаў своеасаблівым рахункам сумлення для Каталіцкага Касцёла на Беларусі і паспрыяў умацаванню яго сувязяў з Апостальскаю Сталіцаю і паўсюдным Касцёлам. Ён таксама стаў крыніцаю шматлікіх Божых ласкаў і адначасова заданнем як мага лепш выкарыстаць яго плён, найбольш поўна выказаным у пасланні Папы Бэнэдыкта XVI.

Трэці візіт беларускага епіскапату *Ad limina apostolorum* — гэта ўжо гісторыя, аднак гісторыя, якая не можа застацца толькі на паперы ў справаздачах, што будуць пакрывацца пылам на паліцах курый. Яна павінна рэалізоўвацца ў жыцці і прыносіць шчодры плён у будучыні Касцёла на Беларусі.

Няхай жа з Божаю дапамогаю так станецца!

# СВЯТАРСТВА — ГЭТА ЛЮБОЎ СЭРЦА ЕЗУСА



**19 чэрвеня мінулага года, ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса — дзень, традыцыйна прысвечаны малітвам аб асвячэнні святароў, у сусветным Касцёле распачаўся Год святарства, прымеркаваны да 150-годдзя *dies natalis* (дня нараджэння для Неба) святога Яна Марыі Віянэя, пробашча з французскага мястэчка Арс, апекуна ўсіх пробашчаў свету. Гэты год, мэта якога паспрыяць унутранаму аднаўленню ўсіх святароў дзеля больш моцнага і пераканаўчага евангельскага сведчання ў сучасным свеце, завершыцца ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў 2010 годзе.**

**Прапануем чытачам урыўкі з ліста Святога Айца Бэнэдыкта XVI на Год святарства, прысвечанага асобе святога Яна Марыі Віянэя.**

<...> «Святарства — гэта любоў Сэрца Езуса»[1], — так часта казаў святы арскі пробашч. Гэтыя кранальныя словы дазваляюць нам з замілаваннем і ўдзячнасцю згадаць пра тое, якім велізарным дарам з'яўляюцца святары не толькі для Касцёла, але і для ўсяго чалавецтва. <...>

У сувязі з гэтым павучэнні і прыклад святога Яна Марыі Віянэя могуць для кожнага стаць выразным арыенцірам: арскі пробашч быў у найвышэйшай ступені пакорным чалавекам, але разумеў, што як святар з'яўляецца велізарным дарам для свайго народа. «Добры пастыр, пастыр паводле Божага сэрца — гэта найбольшы скарб, які добры Бог можа даць парафіі і адзін з найкаштоўнейшых дароў Божай міласэрнасці»[2]. Ён казаў пра святарства так, як быццам быў не ў стане спасцігнуць велічы дару і задання, даручаных чалавечай істоце: «О, які ж святар вялікі!.. Калі б ён зразумеў сябе, памёр бы... Бог слухаецца яго: ён вымаўляе два словы, і наш Пан сыходзіць з неба на ягоны голас і заключае сябе ў маленькай Гостыі»[3]. А калі тлумачыў сваім вернікам важнасць сакрамэнтаў, казаў так: «Калі выключыць сакрамэнт святарства, мы не мелі б Пана. Хто змясціў яго тут, у гэтым табэрнакулюме? Святар. Хто сустрэў вашую душу, калі яна прыйшла на свет? Святар. Хто корміць яе, каб даць ёй сілы для праходжання яе пілігрымкі? Святар. Хто яе падрыхтуе да таго, каб з'явілася перад Богам, абмываючы яе апошні раз у крыві Езуса Хрыста? Святар, усё той жа святар. І калі гэтая душа раптам памірае <з-за граху>, хто яе ўваскрасіць, хто дасць ёй спакой і мір? Зноў святар... Пасля Бога святар — гэта ўсё!... Сам сябе святар добра зразумее толькі ў небе»[4]. Гэтыя словы, што нарадзіліся ў святарскім сэрцы святога пробашча, могуць падацца перабольшаннем. Аднак у іх выяўлена найвышэйшая пашана, з якою ён ставіўся да сакрамэнту святарства. Здавалася, ён прыгнечаны пачуццём бязмежнай адказнасці: «Калі б мы добра разумелі, што такое святар на зямлі, мы б памерлі, але не са страху, а з любові... Без святара смерць і цярпенне нашага Пана былі б марнымі. Менавіта святар працягвае на зямлі справу Адкуплення... Якая карысць была б ад дома, поўнага золата, калі б не было нікога, хто адчыніць дзверы ў гэты дом? Святар мае ключ ад нябесных скарбаў: менавіта ён адчыняе дзверы, ён з'яўляецца эканомам добрага Бога, распарадчыкам Ягоных даброт... Пакіньце якую-небудзь парафію на дваццаць гадоў без святара, і там пачнуць пакланяцца жывёлам... Святар з'яўляецца святаром не для сябе, а для вас»[5].

Перад тым, як ён прыехаў у Арс, невялікае мястэчка, дзе было 230 жыхароў, біскуп папярэдзіў яго, што ён сутыкнецца там з хісткім рэлігійным становішчам: «У гэтай парафіі няма вялікай любові Бога, Вы яе туды прынесяце». Такім чынам, ён у поўнай меры ўсведамляў, што павінен ехаць туды, каб быць увасабленнем прысутнасці Хрыста і сведчыць пра Яго збаўчую ласкавасць: «<Божа мой>, дай навяртанне маёй парафіі; я згодны прыняць любое цярпенне, якое Ты толькі пажадаеш, на ўсё маё жыццё», — з такою малітваю ён распачаў сваю місію[6]. Справе навяртання сваёй парафіі святы пробашч прысвяціў усе свае сілы, няспынна клапоцячыся пра хрысціянскае выхаванне дручанага яму народа. Дарагія браты ў святарстве, папросім у Езуса Хрыста ласку, каб і мы маглі засвоіць душпастырскую методыку святога Яна Марыі Віянэя! Перадусім мы павінны навучыцца яго поўнаму атаясамліванню сябе са сваім служэннем. У Хрысце Асоба і Пасланніцтва становяцца адным цэлым: уся Яго збаўчая справа была і ёсць выразам Яго «сыноўскага Я», якое спрадвеку стаіць перад Айцом у падпарадкаванні з любоўю Ягонай волі. У пакорным, але праўдзівым параўнанні таксама і святар павінен імкнуцца да гэтага атаясамлівання. Безумоўна, мы пры гэтым не забываемся пра тое, што істотная дзейснасць служэння не залежыць ад свя-

тасці служыцеля, але нельга таксама пакінуць без увагі таго надзвычайнага плёну, які можа нарадзіцца, калі аб'ектыўная святасць служэння супадае з суб'ектыўнай святасцю служыцеля. Арскі пробашч адразу ж распачаў гэтую пакорную і цярплівую працу па гарманізацыі свайго жыцця служыцеля са святасцю даручанага яму служэння, выражаючы ні больш, ні менш як літаральна «жыць» у сваім парафіяльным касцёле. «Адразу пасля прыбыцця ён зрабіў касцёл сваім домам... Ён уваходзіў у касцёл яшчэ да світання і выходзіў з яго толькі пасля вячэрняй малітвы „Анёл Панскі". Там трэба было яго шукаць, калі ён быў патрэбны», — чытаем у яго першай біяграфіі[7].

Пабожнае перабольшанне добрага агіёграфа не павінна скрыць ад нас таго факту, што святы пробашч умеў таксама актыўна «жыць» на ўсёй тэрыторыі сваёй парафіі: ён рэгулярна наведваў хворых і сем'і, арганізоўваў місіі для народу і парафіяльныя фэсты, збіраў сродкі на сваю дабрачынную і місіянерскую дзейнасць і распараджаўся імі, аздабляў свой касцёл і набываў для яго святыя рэчы, клапаціўся пра дзяўчат-сіротаў з *«Providence»* («Провід» — заснаваны ім прытулак) і пра іх выхавацелек, цікавіўся навучаннем дзяцей, засноўваў брацтвы і запрашаў свецкіх людзей да супрацоўніцтва з ім.

Гледзячы на яго прыклад, я жадаю паказаць тыя сферы супрацоўніцтва, што неабходна ўсё шырэй адкрываць для свецкіх вернікаў, з якімі святары ўтвараюць адзін святарскі народ[8] і сярод якіх знаходзяцца ў сілу службовага святарства, «каб весці ўсіх да еднасці ў любові, каб усе „любілі адно аднаго братняю любоўю, апярэджвалі адзін аднаго ў ветлівасці" (пар. Рым 12, 10)»[9]. У сувязі з гэтым варта згадаць пра гарачы заклік, якім Другі Ватыканскі Сабор заахвочвае святароў: «Няхай прэзбітэры шчыра прызнаюць і падтрымліваюць годнасць свецкіх і адпаведны ім удзел у місіі Касцёла... Няхай ахвотна выслухоўваюць свецкіх, па-братэрску ўлічваюць іх пажаданні і прызнаюць іх вопыт і кампетэнцыю ў розных сферах чалавечай дзейнасці, каб разам з імі маглі распазнаць знакі часу»[10].

Сваіх парафіянаў святы пробашч навучаў перадусім сведчаннем свайго жыцця. На ягоным прыкладзе вернікі вучыліся маліцца, ахвотна прыходзячы да табэрнакулюма наведаць Езуса ў Эўхарыстыі[11]. «Для таго, каб добра маліцца, не трэба шмат гаварыць, — тлумачыў ім іх пробашч. — Мы ведаем, што Езус знаходзіцца тут, у святым табэрнакулюме: адкрыем перад Ім нашыя сэрцы, узрадуемся Яго святой прысутнасці. Гэта — найлепшая малітва»[12]. Ён заклікаў: «Прыступайце да Камуніі, браты мае, прыходзьце да Езуса. Прыходзьце, каб жыць Ім, каб магчы жыць з Ім...»[13]. «Праўда, што вы гэтага не вартыя, але вам гэта неабходна!»[14]. Такое выхаванне ў верніках адчування эўхарыстычнай прысутнасці і жадання Камуніі станавілася асабліва плённым, калі яны бачылі, як ён цэлебруе Ахвяру святой Імшы. Тыя, хто пры гэтым прысутнічаў, казалі, што «немагчыма знайсці аблічча, якое лепш выяўляла б пакланенне... Ён сузіраў Гостыю, як закаханы»[15]. Ён казаў: «Усе добрыя справы разам узятыя не могуць параўнацца з Ахвяраю Імшы, таму што гэта — чалавечыя справы, а святая Імша — справа Божая»[16]. Ён быў перакананы, што ад Імшы залежыць уся палымяная руплівасць святарскага жыцця: «Прычына расхалоджвання святара ў недахопу ўвагі да святой Імшы! Божа мой, які жаль выклікае святар, які цэлебруе Імшу так, быццам робіць штосьці звычайнае!»[17]. Для яго стала звычкай падчас цэлебрацыі заўсёды прыносіць у ахвяру таксама сваё жыццё: «Як жа добра паступае святар, які штораніцы прыносіць у ахвяру Богу самога сябе!»[18].

Гэтае асабістае атаясамліванне з крыжоваю Ахвяраю вяло яго ў адзіным унутраным парыве ад алтара ў канфесіянал. Святары ніколі не павінны падаць духам, калі не бачаць людзей перад сваімі канфесіяналамі, ні абмяжоўвацца канстатацыяй ахаладжэння вернікаў да гэтага сакрамэнту. У час, калі жыў святы пробашч, у Францыі споведзь не была ні лягчэйшаю, ні часцейшаю, чым у нашыя дні, бо навала рэвалюцыі надоўга задушыла рэлігійнае жыццё. Але ён імкнуўся любым чынам у прапаведаванні і настойлівых парадах дапамагчы сваім парафіянам нанава адкрыць значэнне і прыгажосць сакрамэнтальнага пакаяння, паказваючы яго як неад'емную ўмову эўхарыстычнай прысутнасці. Такім чынам яму ўдалося прывесці ў рух колазварот цнотаў. Яго доўгае прабыванне ў касцёле перад табэрнакулюмам прывяло да таго, што вернікі пачалі наследаваць яго і прыходзіць туды, каб наведаць Езуса, у той жа час дакладна ведаючы, што знойдуць там свайго пробашча, гатовага выслухаць і даць прабачэнне. У выніку ўсё большым станавіўся наплыў людзей з усёй Францыі, якія жадалі паспавядацца, што прымушала яго праводзіць у канфесіянале да 16 гадзін у дзень. Тады пачалі казаць, што Арс стаў «вялікаю лякарняю для душаў»[19]. «Ласка, якую ён атрымліваў <для навяртання грэшнікаў>, была настолькі вялікаю, што яна сама ішла да іх, не пакідаючы іх ні на хвіліну ў спакоі!» — піша першы біёграф[20]. Святы пробашч разважаў падобным чынам: «Не грэшнік вяртаецца да Бога, каб папрасіць у Яго прабачэння, але сам Бог бяжыць за грэшнікам і дапамагае яму вярнуцца да Яго»[21]. «Гэты добры Збаўца настолькі перапоўнены любоўю, што шукае нас паўсюль, дзе б мы ні былі»[22].

Усе мы, святары, павінны адчуваць, што кожнага з нас асабіста датычацца гэтыя словы, якія ён уклаў у вусны Хрыста: «Я дам Маім служыцелям заданне абвяшчаць грэшнікам, што Я заўжды гатовы прыняць іх, што Мая міласэрнасць не мае межаў»[24]. У святога арскага пробашча мы, святары, можам навучыцца не толькі бясконца давяраць сакра-

мэнту пакаяння, што прымусіць нас вярнуць яго ў цэнтр нашых душпастырскіх клопатаў, але таксама метаду «збаўчага дыялогу», які павінен у ім адбывацца. Арскі пробашч па-рознаму падыходзіў да розных людзей, якіх спавядаў. Той, каго да яго-нага канфесіяналу прыводзіла глыбокая і пакорная ўнутраная патрэба атрымаць Божае прабачэнне, знаходзіў у яго падтрымку для таго, каб занурыцца ў «паток Божае міласэрнасці», які ўсё змывае ў сваім імклівым напоры. Калі ж хтосьці быў прыгнечаны думкаю пра ўласную слабасць і нетрываласць, страхам новых падзенняў у будучыні, пробашч адкрываў яму Божую таямніцу ў кранальных сваёй прыгажосцю словах: «Добры Бог усё ведае. Яшчэ да таго, як вы паспавядаецеся, Ён ведае, што зноў зграшыце, і тым не менш прабачае. Якая ж вялікая любоў нашага Бога, дзеля якой Ён нават гатовы па сваёй волі забыцца пра будучыню толькі для таго, каб нам прабачыць!»[24]. Таму ж, хто, наадварот, дакараў сябе павярхоўна, амаль абыякава, ён сваімі ўласнымі слязьмі з цяжкаю і пакутліваю відавочнасцю даваў убачыць усю «агіду» такіх адносінаў: «Я плачу таму, што не плачаце вы»[25], — казаў пры гэтым. «Каб жа Бог, прынамсі, быў не такім добрым! Але ж Ён такі добры! Трэба быць варварам, каб так паводзіць сябе ў адносінах да такога добрага Айца!»[26]. Ён рабіў так, што пакаянне нараджалася ў сэрцах людзей павярхоўных, даючы ім убачыць уласнымі вачыма пакуты Бога з-за грахоў, амаль «увасобленыя» ў абліччы святара, які іх спавядаў. Таму ж, хто здаваўся яму дастаткова рашучым і здольным да больш глыбокага духоўнага жыцця, ён адкрываў глыбіню любові і тлумачыў невымоўную прыгажосць магчымасці жыць у еднасці з Богам і ў Ягонай прысутнасці: «Усё ў Бога на вачах, усё з Богам, усё, каб падабацца Богу... Як жа гэта цудоўна!»[27]. І вучыў іх маліцца: «Божа мой, дай мне ласку любіць Цябе так моцна, наколькі толькі я ў стане Цябе любіць»[28].

Арскі пробашч у свой час умеў перамяняць сэрцы і жыццё такой вялікай колькасці людзей, таму што здолеў дапамагчы ім адчуць міласэрную любоў Пана. У наш час таксама існуе вострая патрэба ў падобным абвяшчэнні і ў падобным сведчанні пра праўду Любові: *Deus caritas est* — Бог ёсць любоў (1 Ян 4, 8). Словам і сакрамэнтамі свайго Езуса Ян Марыя Віянэй умеў будаваць свой народ, нягледзячы на тое, што часта з трымценнем пераконваўся ў сваёй няздольнасці, ажно да такой ступені, што некалькі разоў хацеў пазбавіцца ад кіравання парафіяй, бо лічыў сябе нявартым гэтага. Аднак з узорнаю паслухмянасцю ён кожны раз заставаўся на сваім месцы, бо быў ахоплены апостальскім полымем дзеля збаўлення душаў. Ён імкнуўся цалкам адпавядаць свайму пакліканню і пасланніцтву праз суровую аскезу: «Вялікае няшчасце для нас, пробашчаў, — скардзіўся святы, — у тым, што душа чарсцвее»[29], разумеючы пад гэтым прызвычайванне пастыра да стану граху або абыякавасці, у якім жывуць многія яго авечкі. У чуванні і ў посце ён утаймоўваў сваё цела, каб пазбегнуць яго супраціўлення ягонай святарскай душы. Ён не ашчаджаў самога сябе ад змярцвення дзеля дабра даручаных яму душаў і дзеля задаволення за шматлікія грахі, выслуханыя на споведзі. Аднаму сабрату святару ён тлумачыў: «Скажу Вам свой рэцэпт: я прызначаю грэшнікам невялікую пакуту, а ўсё астатняе раблю замест іх сам»[30]. Калі абмінуць канкрэтныя пакутныя практыкі, якія выконваў арскі пробашч, для ўсіх, тым не менш, застаецца важнаю сутнасць яго вучэння: душы набытыя коштам крыві Хрыста, і святар не можа прысвяціць сябе іх збаўленню, калі пазбягае асабіста ўдзельнічаць у гэтай «вялікай цане» адкуплення.

У сённяшнім свеце, таксама як і ў той няпросты час, калі жыў арскі пробашч, пажадана, каб святары ў сваім жыцці і дзеянні вызначаліся моцным евангельскім сведчаннем. Слушна заўважыў Павел VI: «Сучасны чалавек больш ахвотна слухае сведкаў, чым настаўнікаў, або, калі слухае настаўнікаў, дык таму, што яны з'яўляюцца сведкамі»[31]. Каб у нас не ўзнікла экзістэнцыяльная пустка і не апынулася ў небяспецы плённасць нашага служэння, трэба, каб мы зноў і зноў пыталіся ў сябе: «Ці мы сапраўды прасякнутыя Божым словам? Ці яно сапраўды з'яўляецца нашым пасілкам, якім мы жывем, больш за хлеб і справы гэтага свету? Ці мы па-сапраўднаму ведаем яго? Ці любім яго? Ці ўнутры сябе клапоцімся пра гэтае слова да такой ступені, што яно сапраўды фармуе нашае жыццё і накіроўвае нашыя думкі?»[32]. Як Езус паклікаў дванаццаць вучняў, каб яны былі з Ім (пар. Мк 3, 14), і толькі пасля гэтага паслаў іх прапаведаваць, таксама і ў нашыя дні святары пакліканыя засвоіць гэты «новы лад жыцця», які быў распачаты Езусам Хрыстом і дакладна пераняты Апосталамі[33].

Менавіта адданасцю без астатку гэтаму «новаму ладу жыцця» характарызуецца служэнне арскага пробашча. Папа Ян XXIII у энцыкліцы *Sacerdotii nostri primordia*, абнародаванай у 1959 годзе, на стагоддзе з дня смерці святога Яна Марыі Віянэя, паказаў яго аскетычныя схільнасці ў асаблівай сувязі з «трыма евангельскімі парадамі», якія лічыў абавязковымі таксама і для святароў: «Калі для дасягнення святасці жыцця выкананне евангельскіх парадаў не з'яўляецца абавязковым для святара ў сілу яго духоўнага стану, яно, тым не менш, адкрываецца перад ім, як і перад усімі вучнямі Пана, як надзейнейшы шлях хрысціянскага асвячэння»[34]. Арскі пробашч умеў жыць «евангельскімі парадамі» ў дастасаванні да ўмоваў свайго святарскага стану. Сапраўды, ягоная ўбогасць адрознівалася ад законніцкай або манаскай і была менавіта такою, якая патрабуецца ад святара: распараджаючыся вялікімі сумамі грошай (з улікам таго, што не было недахопу ў забяспечаных пілігрымах, якія праяўлялі цікавасць да яго дабрачынных справаў), ён ведаў,

што ўсё гэта дадзена на ягоны касцёл, на ягоных бедных, на ягоных сіротаў, на дзяўчат з ягонага *«Providence»*[35], на найбольш бедныя ягоныя сем'і. Таму ён «быў багатым, каб даваць іншым, і вельмі бедным для самога сябе»[36]. Ён тлумачыў гэта так: «Мой сакрэт просты: усё аддаваць і нічога не пакідаць сабе»[37]. Калі ў яго нічога не заставалася, то бедным, якія да яго звярталіся, ён казаў з радасцю: «Сёння я такі ж бедны, як і вы, я адзін з вас»[38]. Такім чынам, на схілку жыцця ён з поўным душэўным спакоем мог сказаць: «Больш у мяне нічога няма. Добры Бог цяпер можа паклікаць мяне, калі пажадае!»[39]. Ягоная чыстасць таксама была такою, якая патрэбная святару для яго служэння. Можна сказаць, што гэта была чыстасць, неабходная таму, хто павінен пастаянна дакранацца да Эўхарыстыі, хто пастаянна глядзіць на яе з усёю палкасцю сэрца і гэтак жа палка ўдзяляе яе сваім вернікам. Пра яго казалі, што «чыстасць пramяніцца ў ягоным поглядзе», і вернікі бачылі гэта, калі ён, скіраваўшы позірк на табэрнакулюм, глядзеў на яго вачыма закаханага[40]. І паслухмянасць святога Яна Марыі Віянэя была цалкам улучана ў поўную цярпеннаў вернасць штодзённым абавязкам ягонага служэння. Вядома, як моцна ён пакутаваў ад думкі пра ўласную няздольнасць да служэння пробашча і ад жадання ўцячы, каб «у самоце аплакваць сваё нікчэмнае жыццё»[41]. Толькі паслухмянасць і палымяная любоў да душаў маглі ўтрымлаць яго на сваім месцы. Сабе самому і сваім вернікам ён тлумачыў: «Няма двух добрых шляхоў служэння Богу. Ёсць толькі адзін: служыць Яму так, як Ён жадае, каб Яму служылі»[42]. Залатым правілам для жыцця ў паслухмянасці ён лічыў наступнае: «Рабі толькі тое, што можа быць прынесена ў ахвяру добраму Богу»[43].

<...>

Дарагія святары, 150-я гадавіна смерці святога Яна Марыі Віянэя (†1859 г.) адзначаецца адразу пасля завяршэння святкавання 150-годдзя аб'яўленняў у Люрдзе (1858 г.). Ужо ў 1959 годзе благаслаўлёны папа Ян XXIII заўважыў: «Незадоўга да таго, як арскі пробашч завяршыў сваё поўнае заслугаў працяглае служэнне, у іншым месцы Францыі Беззаганная Панна з'явілася пакорнай і цнатлівай дзяўчынцы, каб перадаць пасланне малітвы і пакаяння, якое, як вядома, за мінулае стагоддзе набыло велізарны духоўны рэзананс. Рэальнае жыццё святога святара, успамін якога мы адзначаем, было жывым правобразам вялікіх звышнатуральных праўдаў, аб'яўленых у масаб'ельскай пячоры. Ён сам аддана ўшаноўваў Беззаганнае Зачацце Найсвяцейшай Дзевы, у 1836 годзе прысвяціўшы сваю парафію Марыі, без граху першароднага зачатай, і, напэўна, з вялікаю вераю і радасцю сустрэў абвяшчэнне адпаведнага догмату ў 1854 годзе[44]. Святы пробашч заўсёды нагадваў сваім вернікам, што «Езус Хрыстус, даўшы нам усё, што толькі мог даць, пажадаў таксама зрабіць нас спадкаемцамі таго, што было ў яго найдаражэйшым, гэта значыць сваёй Святой Маці»[45].

Найсвяцейшай Панне дарую я гэты Год святарства, просячы Яе запаліць у душы кожнага святара шчырае імкненне да тых ідэалаў поўнага самаахвяравання Хрысту і Касцёлу, якія натхнялі думкі і справы святога арскага пробашча. Са свайго палымянага малітоўнага жыцця і сваёй гарачай любові да Езуса ўкрыжаванага Ян Марыя Віянэй чэрпаў сілы для свайго штодзённага самаахвяравання без астатку Богу і Касцёлу. Няхай жа ягоны прыклад заахвоціць святароў да сведчання адзінства з біскупам, паміж сабою і са свецкімі вернікамі, якое сёння, як і заўсёды, такое неабходнае. Нягледзячы на зло, якое існуе ў свеце, заўсёды актуальна гучаць словы Хрыста, скіраваныя да Ягоных вучняў у Вячэрніку: «У свеце зведаеце ўціск, але будзьце адважнымі: Я перамог свет» (Ян 16, 33). Вера ў Боскага Настаўніка няхай дасць нам сілы, каб з даверам глядзець у будучыню. Дарагія святары, Хрыстус разлічвае на вас. Па прыкладзе святога арскага пробашча дазвольце Яму здабыць сябе і таксама будзьце ў сучасным свеце пасланцамі надзеі, паяднання, супакою!

*Падрыхтаваў Мікола Гракаў*

---

[1] *«Le Sacerdoce, c'est l'amour du cśur de Jésus»* (у: *Le curé d'Ars. Sa pensée — Son cśur.* Présentés par l'Abbé Bernard Nodet, éd. Xavier Mappus, Foi Vivante, 1966, с. 98). Далей: *Nodet*. Гэтыя словы цытуюцца таксама ў *Катэхізісе Каталіцкага Касцёла*, п. 1589.
[2] *Nodet*, с. 101
[3] Тамсама, с. 97.
[4] Тамсама, сс. 98–99.
[5] Тамсама, сс. 98–100.
[6] Тамсама, 183.
[7] Alfred Monnin, *Le Curé d'Ars. Vie de M. Jean-Baptiste Marie Vianney*, I, Charles Douniol, 1868.
[8] Пар. *Lumen gentium,* 10.
[9] *Presbyterorum ordinis,* 9.
[10] Тамсама.
[11] «Сузіранне — гэта позірк веры, скіраваны на Езуса. „Я гляджу на Яго, а Ён глядзіць на мяне“, — сказаў свайму святому пробашчу жыхар Арса ў малітве перад табэрнакулюмам» (*Катэхізіс Каталіцкага Касцёла,* п. 2715)
[12] *Nodet*, с. 85.
[13] Тамсама, с. 114.
[14] Тамсама, с. 119.
[15] Alfred Monnin, цытаваны твор, II, сс. 430 і наступныя.
[16] *Nodet*, с. 105.
[17] Тамсама, с. 105.
[18] Тамсама, с. 104.
[19] Alfred Monnin, цытаваны твор, II.
[20] Тамсама, II, с. 10.
[21] *Nodet*, с. 128.
[22] Тамсама., с. 50.
[23] Тамсама, с. 131.
[24] Тамсама, с. 130.
[25] Тамсама, с. 27.
[26] Тамсама, с. 139.
[27] Тамсама, с. 28.
[28] Тамсама, с. 77.
[29] Тамсама, с. 102.
[30] Тамсама, с. 189.
[31] *Evangelii nuntiandi,* 41.
[32] Бэнэдыкт XVI, *Гамілія падчас св. Імшы Хрызма,* 9 красавіка 2009 г.
[33] Пар. Бэнэдыкт XVI, *Прамова на пленарным пасяджэнні Кангрэгацыі па справах духавенства,* 16 сакавіка 2009 г.
[34] Частка I.
[35] «Провід» — так ён назваў дом, дзе жылі і выхоўваліся больш за 60 дзяўчынак, якія засталіся без бацькоў. Каб утрымліваць яго, ён быў гатовы на ўсё: «Я правёў усе здзелкі, якія толькі магчыма сабе ўявіць», — казаў з усмешкаю (*Nodet*, с. 214).
[36] *Nodet*, с. 216.
[37] Тамсама, с. 215.
[38] Тамсама, с. 216.
[39] Тамсама, с. 214.
[40] Пар. тамсама, с. 112.
[41] Пар. тамсама, pp. 82–84; 102–103.
[42] Тамсама, с. 75.
[43] Тамсама, с. 76.
[44] Энцыкліка *Sacerdotii nostri primordia,* частка III.
[45] *Nodet*, с. 244.



# Кветачкі святога Францішка

У імя Пана нашага
ўкрыжаванага Езуса Хрыста
і Яго Маці Панны Марыі
ў гэтай кнізе выкладзеныя
некаторыя справы,
цуды і прыклады добрапрыстойнасці
слаўнага нябогі Хрыстовага
месэра святога Францішка
ды іншых яго святых паплечнікаў.
Хвала Езусу Хрысту.
Амэн.

**Частка XXXII**

*Як брат Масей вымаліў у Хрыста цноту святой пакоры*

Першыя паплечнікі святога Францішка прыкладалі ўсе намаганні, каб быць беднымі ў зямных рэчах і багатымі ў цнотах, праз якія можна дасягнуць сапраўднага і вечнага нябеснага багацця.

Надышоў дзень, калі, сабраўшыся ўсе разам для размовы пра Бога, адзін з іх расказаў наступны прыклад: «Ён быў адным з вялікіх сяброў Бога і меў вялікую ласку як у жыцці дзейсным, так і ў кантэмплятыўным, але, не зважаючы на гэта, меў празмерную і такую глыбокую пакору, што лічыў сябе найвялікшым грэшнікам; гэтая пакора яго рабіла святым і сцвярджала ў ласцы, і давала яму магчымасць пастаянна расці ў цноце і Божых дарах, і ніколі не давала яму здзейсніць граху». Брат Масей, пачуўшы такія цудоўныя рэчы пра пакору і ведаючы, што яна ёсць скарбам жыцця вечнага, пачаў так палаць любоўю і жаданнем да гэтай цноты пакоры, што ў моцным запале падняў твар да неба, даў зарок і цвёрды намер не весяліцца болей ніколі ў гэтым свеце, пакуль не адчуе гэтую цноту самым дасканалым чынам у сваёй душы. І з таго часу амаль бесперапынна знаходзіўся ў келлі, прымушаючы сябе рабіць ахвяры постам, вігіліяй, малітвамі і моцным плачам перад Богам, каб выпрасіць у Яго тую цноту, без якой ён лічыў сябе вартым пекла і якой той сябар Бога, пра якога ён чуў, быў так моцна адораны.

І паколькі брат Масей заставаўся ў сваім памкненні на працягу многіх дзён, здарылася так, што аднойчы ён зайшоў у лес і ў духоўным імпэце ішоў па ім, пакідаючы за сабою слёзы, уздыхі і словы, якімі пытаўся з палымяным жаданнем у Бога пра гэтую боскую цноту. А паколькі Бог ахвотна задавольвае просьбы пакорлівых і засмучаных, а брат Масей якраз да іх належаў, то сышоў голас з неба і паклікаў два разы: «Брат Масей! Брат Масей!» А той, ведаючы ў духу, што гэта быў голас Хрыста, адказаў: «Пан мой! Пан мой!» А Хрыстус яму: «Што ты гатовы аддаць, каб атрымаць цноту, якую ты просіш?» Адказаў брат Масей: «Пане, хачу аддаць вочы з твару майго». А Хрыстус яму: «А я хачу, каб у цябе былі і вочы, і цнота». І пасля

---

*Працяг. Пачатак у 3 за 2007 г.*

гэтых словаў голас знік, а брат Масей застаўся стаяць, поўны вялікай ласкі ад такой жаданай цноты пакоры і Божага святла, што з таго часу і надалей заўсёды быў у стане радасці, і часта, калі маліўся, заўсёды голасна ўсхваляў, нібыта голуб, глухім «у! у! у!» і з радасным тварам і суцешаным сэрцам так стаяў у кантэмпляцыі. І з усім гэтым ён стаў найпакорлівым і лічыў сябе меншым за ўсіх людзей на свеце.

А калі брат Якаў з Фалеронэ ў яго спытаўся, чаму ў сваім ўсхваленні ён не мяняе слова, то адказаў з вялікай радасцю, што калі знаходзіш усё дабро ў адной рэчы, то не трэба мяняць слова.

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка XXXIII**

*Як святая К'яра па загадзе Папы благаславіла ўвесь хлеб, што быў на стале; з-за чаго на кожным бохане з'явіўся знак святога Крыжа*

Святая К'яра, найпабожнейшая паслядоўніца крыжа Хрыстовага і высакародная кветка месэра святога Францішка, была такой святасці, што не толькі біскупы і кардыналы, але найперш Папа жадалі з вялікай пяшчотай бачыць яе і чуць, і часта асабіста яе наведвалі.

Аднойчы пайшоў Святы Айцец у кляштар да яе, каб паслухаць, як яна гаворыць пра нябесныя Боскія рэчы; і разважаючы разам з ім аб Боскім, святая К'яра загадала тым часам накрыць на сталы і пакласці таксама хлеб для таго, каб Святы Айцец яго благаславіў. Пасля таго, як завяршыліся духоўныя практыкаванні, святая К'яра ўкленчыла і з вялікаю пашанаю папрасіла яго благаславіць хлеб, пакладзены на абед. Адказаў Святы Айцец: «Найвярнейшая сястра К'яра, я хачу, каб ты благаславіла гэтыя боханы хлеба і каб ты асвяціла іх знакам крыжа Хрыстовага, якому ты ўсю сябе аддала». І святая К'яра адказала: «Святы Айцец, даруйце мне, бо я заслужу найвялікшае асуджэнне, калі перад Намеснікам Хрыстовым я, нікчэмная жанчына, асмелюся даць падобнае благаслаўленне». А Папа адказаў: «Дзеля таго, каб гэта было залічана табе не як праява ганарлівасці, а як заслуга паслушэнства, я загадваю табе дзеля святога паслушэнства, каб ты ў імя Бога асвяціла знакам святога крыжа гэтыя боханы хлеба».

Тады святая К'яра, як сапраўдная дачка паслушэнства, найпабожнейшым чынам гэтыя боханы хлеба благаславіла знакам крыжа. Дзіўная рэч! Адразу ж на ўсіх боханах хлеба з'явіўся знак крыжа, выразаны найпрыгажэйшым чынам. І тады адну частку хлябоў з'елі, а другую захавалі як памяць пра цуд, а Святы Айцец, які пабачыў, што адбыўся цуд, узяў гэты хлеб і, падзякаваўшы Богу, пайшоў, а святую К'яру пакінуў у сваім благаслаўленні.

У тыя часы жыла ў тым кляштары сястра Арталяна, маці святой К'яры, і сястра Аньезэ, яе родная сястра, абедзве разам са святой К'ярай поўныя цноты і Святога Духа, як і многія іншыя святыя сёстры, якім святы Францішак пасылаў шмат хворых, а яны сваімі малітвамі і знакам крыжа ўсіх рабілі здаровымі.

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка XXXIV**

*Як святы Людовік, кароль Францыі, асабіста пад выглядам пілігрыма пайшоў у Перуджу наведаць святога брага Эгідзія*

Калі святы Людовік, кароль Францыі, выправіўся ў пілігрымку па свеце, каб наведаць святыя мясціны, і, пачуўшы пра вялікую славу святасці брата Эгідзія, які стаў адным з першых паплечнікаў святога Францішка, вырашыў у сэрцы сваім наведаць яго асабіста. Дзеля гэтага ён прыйшоў у Перуджу, дзе ў той час жыў згаданы брат Эгідзій.

І падыходзячы як бедны невядомы пілігрым з нешматлікімі паплечнікамі да брамы кляштара, дзе жылі браты, ён з вялікаю пашанаю спытаўся пра брата Эгідзія, не кажучы нічога вартаўніку, хто такі пытаецца брата Эгідзія. Пайшоў вартаўнік і кажа, што за дзвярыма стаіць пілігрым, які пра яго пытаецца; а Богам было адкрыта душы брата Эгідзія, што гэта быў кароль Францыі. Таму ён адразу з вялікім імпэтам выйшаў з келлі і пабег да дзвярэй, і нічога больш не пытаючыся, нават бачыліся яны калі-небудзь ці не, укленчылі яны з вялікай пабожнасцю, абняліся і расцалаваліся як блізкія людзі, быццам яны сябравалі шмат гадоў; і на працягу ўсяго гэтага часу не сказалі адзін аднаму ні слова, а сталі так, абняўшыся, выказваючы знакі любові міласэрнай у цішыні. І пасля таго, як прастаялі яны так на працягу доўгага часу, не кажучы ніводнага слова, разышліся яны ў розныя бакі, і святы Людовік прадоўжыў сваё падарожжа, а брат Эгідзій вярнуўся ў келлю.

Пасля таго, як кароль пайшоў, адзін брат спытаўся ў некаторых сваіх паплечнікаў, кім быў той чалавек, што столькі абдымаўся з бра-

там Эгідзіем, а той адказаў, што гэта быў Людовік, кароль Францыі, які прыйшоў, каб паглядзець на брата Эгідзія, таму пасля таго, як гэты брат расказаў пра ўсё іншым братам, тыя былі вельмі засмучаныя, што ім нічога не сказалі; і з сумам яны гаварылі: «О, брат Эгідзій, чаму ты сябе павёў так нявыхавана, што каралю, які прыйшоў з Францыі, каб паглядзець і пачуць ад цябе добрае слова, ты нічога не сказаў?» Адказаў брат Эгідзій: «Дарагія браты, не дзівіцеся з гэтага; паколькі ні я яму, ні ён мне не змаглі сказаць ні слова, бо як толькі мы абняліся, святло Божай Мудрасці адкрылася нам і паказала мне яго сэрца, а яму — маё, і так дзякуючы дзеянню Божаму, гледзячы адзін аднаму ў сэрца, усё, што я хацеў сказаць яму, а ён хацеў сказаць мне, мы вельмі добра ведалі, так, быццам мы гаварылі вуснамі, але з большым суцяшэннем; і калі б мы захацелі выказаць уголас тое, што мы адчувалі ў сэрцах, з-за недасканаласці чалавечай мовы, якая не можа ясна выказаць сакрэтныя таямніцы Бога, стала б для нас гэта хутчэй засмучэннем, чым суцяшэннем. Але ведайце напэўна, што кароль пайшоў, цудоўным чынам суцешаны».

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка XXXV**

*Як святая К'яра захварэла, але ў калядную ноч была цудоўным чынам перанесена ў касцёл святога Францішка, дзе пачула Імшу*

Аднойчы святая К'яра так цяжка захварэла, што не магла пайсці памаліцца ў касцёл з іншымі сёстрамі; а паколькі набліжалася ўрачыстасць Нараджэння Хрыстовага, усе пайшлі да Ютрані, і толькі яна адна засталася ў ложку, незадаволеная тым, што разам з усімі не магла пайсці і атрымаць гэтага душэўнага суцяшэння. Але Езус Хрыстус, яе Сужэнец, не жадаючы пакідаць яе такой несуцешанай, цудоўным чынам перанёс яе ў касцёл святога Францішка, і прабыла яна там усю ранішнюю службу і начную Імшу, і, акрамя таго, прыняла святое Прычасце, а потым вярнуў яе назад у ложак.

Калі пасля завяршэння службы ў касцёле святога Даміяна вярнуліся законніцы да святой К'яры, то сказалі ёй: «О маці нашая сястра К'яра, якое вялікае суцяшэнне мы атрымалі ад гэтага святога Нараджэння Хрыстовага! Як было б радасна Богу, калі б Ты была з намі!» А святая К'яра адказала: «Славу і ўдзячнасць аддаю майму Пану благаслаўлёнаму Езусу Хрысту, сёстры і дочкі мае дарагія, бо на ўсіх урачыстасцях гэтай святой Ночы, а таксама на самай найвялікшай, дзе вы былі, была і я ў вялікім суцяшэнні маёй душы; бо па замове айца майго святога Францішка і дзякуючы ласцы Пана майго Езуса Хрыста я прысутнічала ў касцёле айца майго святога Францішка і сваімі вушамі, цялеснымі і духоўнымі, я чула ўсе спевы і музыку арганаў, якія там гучалі, і там я атрымала святое Прычасце. А таму з-за вялікай ласкі, што я атрымала, узрадуйцеся і падзякуйце Пану нашаму Езусу Хрысту».

Амэн.

**Частка XXXVI**

*Як святы Францішак распавёў брату Льву аб цудоўнай візіі, якую ён пабачыў*

Аднойчы, калі святы Францішак быў цяжка хворы, брат Леў хадзіў за ім. Аднаго разу брат Леў, стоячы ў малітве каля святога Францішка, быў ахоплены экстазам і ў духу сваім прыведзены да вялікай, шырокай і бурнай ракі. Стоячы там і назіраючы за тымі, хто пераходзіў раку, ён убачыў, як некалькі братоў з вялікім грузам заходзілі ў гэтую раку і былі паваленыя цячэннем ракі, і тапіліся, а іншыя даходзілі да трэцяй часткі, некаторыя да сярэдзіны, а некаторыя нават амаль да другога берага; але ўсе з-за бурнага цячэння ракі і з-за цяжару, які на сабе неслі, урэшце падалі і тапіліся. Пабачыўшы гэта, брат Леў адчуў да іх вялікі жаль і адразу, пакуль ён яшчэ так стаяў, пачало з'яўляцца мноства братоў без аніякага грузу і аніякага цяжару, і свяцілася ў іх святая беднасць; і заходзячы ў гэтую раку, яны пераходзілі яе без аніякай небяспекі. І пабачыўшы гэта, брат Леў прыйшоў у сябе.

Тады святы Францішак, зразумеўшы духам, што брату Льву была нейкая візія, паклікаў яго да сябе і спытаў яго пра тое, што ён бачыў; і калі брат Леў расказаў яму ўсю візію па парадку, сказаў святы Францішак: «Усё, што ты бачыў, — праўда. Вялікая рака — гэта свет, браты, якія тапіліся ў рацэ, — тыя, што не выконваюць евангельскае вучэнне і асабліва ў дачыненні да святой беднасці; а тыя, што пераходзілі без аніякай небяспекі, гэта тыя браты, якія ніякіх зямных ці цялесных рэчаў не шукаюць і не валодаюць імі ў гэтым свеце, але, маючы толькі сціплую вопратку і ежу, ідуць задаволеныя ўслед за аголеным Хрыстом на крыжы, груз і радасны цяжар Хрыста і святога

паслушэнства нясуць ахвотна і радасна; а таму лёгка пераходзяць з часовага жыцця ў вечнае».

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка XXXVII**

*Як Езус Хрыстус, благаслаўлёны па просьбе святога Францішка, прымусіў перажыць навяртанне аднаго багатага і высакароднага рыцара і стаць братам, які зрабіў вялікі гонар і ахвяру святому Францішку*

Святы Францішак, служка Хрыста, прыйшоў аднойчы позна вечарам у дом да аднаго багатага, высакароднага і магутнага чалавека, і былі ён і яго прыяцель прынятыя ім найлепшым чынам, нібы райскія анёлы, з глыбокай пашанаю і пабожнасцю. Таму святы Францішак паставіўся да яго з вялікай любоўю, бо калі яны зайшлі ў дом, гэты чалавек іх па-сяброўску абняў і пацалаваў, а потым памыў ім ногі, выцер іх і пакорліва пацалаваў, запаліў вялікі агонь, паставіў на стол мноства смачных страваў, і пакуль госці елі, гаспадар падаваў ім без перапынку. Пасля таго, як святы Францішак з паплечнікам паелі, сказаў гэты высакародны чалавек: «Вось, айцец, я вам аддаю сябе і свае рэчы, і ўсё, у чым вы маеце патрэбу: ці гэта будзе арнат, ці плашч, ці яшчэ што-небудзь; купляйце, а я заплачу, і пабачыце, што я гатовы забяспечыць усе вашыя патрэбы, наколькі дзякуючы ласцы Божай змагу, бо ўсяго часовага ў мяне больш чым дастаткова, і дзеля любові Божай, якая мне была дадзена, я ахвотна буду рабіць дабро Яго нябогам».

Пасля таго, як святы Францішак пабачыў у ім такую ветлівасць і прыязнасць, а таксама шчодрыя падарункі, адчуў да яго вялікую любоў, а пасля развітання, ідучы па дарозе, гаварыў ён свайму паплечніку: «Сапраўды гэты высакародны чалавек прыдаўся б у нашай кампаніі, бо ён такі ўдзячны і шчыры да Бога, і такі прыязны і ветлівы ў адносінах да бліжняга і да бедных. Ведай, брат дарагі, што ветлівасць ёсць адной з уласнасцяў Бога, які дае сваё сонца і свой дождж праведным і няправедным дзеля высакароднасці; а ветлівасць — гэта сястра міласці, якая гасіць нянавісць і захоўвае любоў. І паколькі я зведаў у гэтым чалавеку столькі Боскай цноты, то ахвотна меў бы яго за паплечніка; а таму я хачу, каб аднойчы мы вярнуліся да яго, калі б Бог крануў яго сэрца жаданнем суправаджаць нас у нашай службе Богу; а мы тым часам папросім Бога, каб даў яму ў сэрцы гэтае жаданне і даў яму ласку ажыццявіць яго». Дзіўная рэч! Некалькі дзён пасля таго, як святы Францішак памаліўся, Бог запаліў моцнае жаданне ў сэрцы таго высакароднага чалавека, і сказаў святы Францішак паплечніку: «Пайшлі, брат, да ветлівага чалавека, бо я маю пэўную надзею на Бога, што ён з высакароднасцю свецкіх рэчаў падорыць нам сябе самога ў якасці нашага паплечніка». І яны пайшлі.

А калі падышлі да яго дома, сказаў святы Францішак паплечніку: «Пачакай мяне трохі, бо я хачу спачатку памаліцца Богу, каб наш шлях быў плённым і каб высакародную здабычу, якую мы збіраемся забраць у свету, Хрысту захацелася б аддаць нам, бедным і слабым, дзеля цноты Яго найсвяцейшых цярпенняў». І пасля гэтых словаў пачаў маліцца ў такім месцы, якое б было бачна згаданаму высакароднаму чалавеку; дзе, як было пажадана Богу, азіраючыся па баках, той чалавек убачыў святога Францішка, які маліўся найпабожнейшым чынам перад Хрыстом, што з поўнай яснасцю з'явіўся яму ў згаданай малітве і стаяў перад ім; і ў гэтым стаянні ён бачыў цела святога Францішка ўзнятым над зямлёю. І з-за гэтага ён быў настолькі крануты Богам і натхнёны пакінуць свет, што ў той жа дзень выйшаў са свайго палаца і ў духоўным імпэце пабег да святога Францішка, а прыбегшы да яго, усё яшчэ ў малітве, укленчыў перад ім і з вялікаю настойлівасцю і пабожнасцю папрасіў яго быць ласкавым і прыняць яго пакаяцца разам з ім.

Тады святы Францішак, пабачыўшы, што яго малітва была пачутая Богам і што той высакародны чалавек прасіў з вялікаю настойлівасцю таго, чаго жадаў святы Францішак, падняўся з імпэтам і з радасцю душэўнаю, абняў і пацалаваў таго чалавека, дзякуючы Богу, які таго шляхетнага рыцара далучыў да яго кампаніі. І казаў той высакародны чалавек святому Францішку: «Што ты загадаеш, айцец мой, мне зрабіць? Бо я гатовы па тваім загаддзе аддаць бедным усё, што маю, і так наследаваць Хрыста, пазбавіўшыся ад усіх часовых рэчаў».

Так і адбылося. Згодна з парадаю святога Францішка, ён раздаў сваё дабро беднякам і ўступіў у ордэн, і жыў там у вялікім пакаянні і святасці жыцця і ў сумленных размовах.

Слава Хрысту. Амэн.

*Пераклад з італьянскай мовы Аксаны Данільчык.*
*Працяг будзе.*

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

**КНІЖКА ТРЭЦЯЯ**

**АБ УНУТРАНАЙ ПАЦЕСЕ**

### Разьдзел XXXVI
*Аб марнасьці судоў людзкіх*

**1.** Сыне, прытуліся сэрцам назаўсёды к Пану і судоў людзкіх ня бойся, калі сумленьне кажа табе, што ты бязьвінны і пабожны.

Добра табе і бласлаўлёны ты, калі гэтак цэрпіш; ня цяжка будзе табе цярпець, калі на Бога больш, чымся на сябе спадзяешся.

Многія шмат гавораць і таму мала трэба ім верыць.

Ды і немагчыма ўсіх здаволіць.

Хаця сьв. Павал імкнуўся ўсім быць мілым у Пану і ўсё рабіў для ўсіх, аднак зусім не глядзеў на тое, што людзьмі быў суджаны.

**2.** Рабіў даволі, бо рабіў усё, што толькі магчыма дзеля палепшаньня і збаўленьня людзкога, аднак ня здолеў запабегчы, каб часам яго не абсудзілі або не зняважылі.

І таму ўсё ён паручыў Богу, які ўсё ведае, а толькі цярплівасьцю ды пакораю бараніўся ад благіх языкоў, што сколькі хацелі выдумвалі на яго розную брахню ды ўсялякую няпраўду.

Праўда, падчас нешта адказваў ён, каб ня вышла з ягонае маўчанкі людзём слабейшым згаршэньня.

**3.** Хто ж ты такі, каб трэба было баяцца табе сьмяротнага чалавека? Сяньня ёсьць ён, а заўтра яго ня будзе.

Бога бойся, а таго, што людзі гразяць, палохацца ня будзеш.

Хто табе штосьці зробіць славамі або лаянкаю? Больш сабе блага наробіць, чымся табе; і хто б ён ня быў, ня ўцячэ ад Божага суду.

Ты мей Бога перад вачыма, ды не пачынай сварыцца.

А калі здаецца табе, што вось цяперака нехта крыўдзіць цябе ды сорам ад яго цэрпіш зусім бязьвінна, ня злуйся дзеля гэтага, каб цераз нецярплівасьць не паменшыць кароны славы твае.

А хутчэй да Мяне падымі ў Неба вочы свае, бо Я магу цябе выбавіць з усіх ганьбаў ды зьдзекаў, каб аддаць кожнаму паводле дзеяў ягоных.

### Разьдзел XXXVII
*Аб чыстым і поўным зрачэньні самога сябе дзеля здабыцьця свабоды сэрца*

**1.** Сыне, пакінь сябе, тады знайдзеш Мяне.

Будзь бяз волі свае ды бяз маёмасьці ніякае — а заўсёды скарыстаеш.

Бо ж дастанеш вялікшую ласку, калі толькі зрачэшся сябе ды вытрываеш у гэтым.

Сколькі, як часта ды калі мне трэба зракацца сябе?

Заўсёды, кожную часіну і ў вялікай ды малой справе. Бяз ніякага вынятку хачу, каб ты асвабадзіўся ад усяго.

Бо якім чынам мог бы ты быць Маім, а Я тваім, калі не зрачэшся зусім свае волі ўнутры і ўвонку?

Чым хутчэй гэтак зробіш, тым лепш для цябе, і чым паўней і шчырэй — тым больш гэта Мне ўспадобу, а больш карысьці для цябе.

**2.** Іншыя і зракуцца сябе, але ня зусім, і таму, што яны не цалкам на Бога спадзяюцца — самі стараюцца забесьпечыць сябе.

Іншыя зразу цалкам аддаюць Мне ўсё, калі аднак

---

*Працяг. Пачатак у 1–4 за 2007–2009 гг.*

потым надыходзіць спакуса, варочаюцца да свайго і таму зусім не паступаюць у цнотах.

Ані тыя, ані гэтыя не даступаюцца свабоды чыстага сэрца, ані блізка жаданае ласкі Мае, пакуль не зракуцца цалкам сябе самых ды штодня не ахвяруюць сябе, бо бяз гэтага немагчыма ані са Мной зьяднацца, ані ў гэтым збаўленым зьяднаньні вытрываць.

**3.** Казаў Я табе ўжо гэтулькі разоў, а цяпер ізноў кажу: пакінь сам сябе, зрачыся сябе — дык будзеш карыстацца вялікім унутраным супакоем.

Дай усё за ўсё: нічога ня шукай і нічога не ўпамінайся; трывай пры Мне ня хістаючыся, дык будзеш мець Мяне.

Будзеш свабодны ў сэрцы, і цемра не праглыне цябе.

Да гэтага імкніся, дзеля гэтага маліся і гэтага жадай, каб ад усяго ўласнага змог асвабадзіцца ды нагі ўсьлед за нагім Езусам ісьці, каб змог дзеля сябе ўмерці, а дзеля Мяне жыць вечна.

Тады зьгінуць усе марныя зданьні, благія клопаты ды лішнія стараньні.

Тады пакіне цябе сполах непамяркоўны ды прымрэ грэшная міласьць.

## Разьдзел XXXVIII
## *Як добра трымацца звонку ды ўцякаць да Бога ў небясьпеках*

**1.** Сыне, гэтага табе трэба глядзець і да таго імкнуцца, каб на кожным месцы і ў кожнай справе ці рабоце звонку быў ты ўнутры свабодным, валадаў сабою самым і каб усе справы былі пад табою, а ня ты пад імі.

Каб ты быў панам ды валадаром спраў сваіх, а ня слугою ці нявольнікам.

Каб быў ты асвабоджаным ды сапраўдным Гэбрайчыкам, які вышаў у стан вольны, як іншыя сыны Божыя.

Якія вышэй стаяць за сучасныя справы і разважаюць вечныя.

Якія на ўсё хутка мінаючае ледва глянуць, а на нябеснае ўглядаюцца без перастанку.

Якія ня ідуць за справамі дачаснымі, а на'т пануючы над імі, запраглі іх служыці толькі дабру, паводле загадаў Божых ды паводле таго, як пастаноўлена Будаўнічым Найвышэйшым, які нічога неўпарадкаванага не пакінуў у стварэньнях сваіх.

**2.** Калі пры ўсіх магчымых здарэньнях жыцьцёвых ня будзеш глядзець на адзін толькі вонкавы выгляд ды ня будзеш судзіць вокам цела ўсяго, што пачуеш ці ўбачыш, але ў кожнай справе, гэтак як Майсей, увойдзеш да будыніны Пана, каб Яго парадзіцца: пачуеш тады Божы адказ і вернешся навучаны аб шмат якіх справах сёньняшніх ды будучых.

Бо Майсей заўсёды хадзіў да Аркі, каб выясьніць нявыразныя справы, шукаў падмогі ў малітвах, каб адхінуць ад сябе небясьпекі і ўсякія нягоднасьці людзкія.

Гэтак і табе трэба ўцякаць у найглыбейшыя куточкі сэрца твайго і там шчыра прасіць Божае дапамогі.

Бо ж дзеля таго, як чытаем, Езус і сыны Ізраэля былі ашуканыя Габаонцамі, што раней *не парадзіліся вуснаў Пана* (Нав 9, 14) і што занадта паверылі салодкім іх гутаркам ды фальшывай пабожнасьці.

## Разьдзел XXXIX
## *Ня трэба надта сьпяшацца ў справах сваіх*

**1.** Сыне, даручай Мне заўсёды справы свае, Я іх добра распарадкую, калі прыдзе пара на тое.

Жджы заўсёды загадаў Маіх, а ўбачыш вялікую карысьць сабе.

Надта ахвотна даручаю Табе ўсе справы свае, малая бо карысьць, калі раблю паводле думкі свае.

Каб толькі ня так шмат я думаў, што можа трапіцца ў будучыні, а каб неадкладна падпарадкаваўся волі Тваёй!

**2.** Часта, Сыне, чалавеку нечага хочацца; калі ж гэна дастане, інакш ужо думаць пачынае, бо нахілы і пажаданьні чалавецкія мала трывалкія, раз гэтага, а другі раз іншага чалавеку хочацца.

Вось чаму нямала важна патрапіць зрачыся на'т і самай маленечкай справы.

3. Сапраўдны поступ чалавека — гэта зрачэньне самога сябе, і той, хто зрачэцца сябе, сапраўды свабодны і бясьпечны.

Але адвечны вораг імкнецца перапыніць усё добрае і не перастае спакушаць, ён удзень і ўночы стаўляе пасткі страшныя, каб падчас схапіць у іх неасьцярожнага абманам.

*Чуйце і маліцеся* — казаў Пан, *каб не папасьць вам у спакусу* (Мц 24, 41).

## Разьдзел XL
## *Нічога добрага чалавек праз сябе ня мае і ня можа нічым пахваліцца*

**1.** *Пане, што ж такое чалавек, што памятаеш аб ім? Або што такое чалавецкі сын, што Ты яго адведваеш?* (Пс 8, 5).

Чым заслужыў чалавек, што даеш яму ласку Сваю?

Пане, якое права маю я наракаць, калі пакінеш мяне? Або што сапраўды скажу я, калі ня зробіш таго, аб чым Цябе прашу?

Сапраўды, адно толькі магу думаць і казаць: Пане, нічогасьць я, нічога не патраплю, нічога добрага праз сябе ня маю; усюды ў мяне нястачы ды імкнуся я к нічогасьці.

І калі Ты мне не паможаш ды ўнутрана не навучыш — зразу падаю ў халоднасьць і расьцярушаньне.

**2.** А Ты, Божа, заўсёды той самы і трываеш навекі, заўсёды добры, справядлівы і сьвяты; усё робіш добра, справядліва і сьвята парадкуеш у мудрасьці Сваёй.

Бо я хутчэй да благога маю нахіл, чымся да дасканаласьці, і мала калі трываю ў тым самым стане — сем раз у дзень я мяняюся.

Аднак, калі Ты захочаш падаць мне руку Сваю — хутка ўсё перайнакшыцца, бо Ты адзін без чалавецкае помачы патрапіш мне памагчы і гэтак у дабры ўмацаваць, што воблік мой ніколі ўжо ня будзе пераінакшвацца, а да Цябе аднаго сэрца маё зьвернецца і ў Табе супачыне.

**3.** Вось жа, калі б здолеў адкінуць я ўсенькую чалавецкую пацеху: ці для таго, каб дастаць дар пабожнасьці, ці з неабходнасьці, якая жане мяне шукаці Цябе, бо ж няма чалавека, які мяне пацешыў бы, — тады толькі мог бы я лятуцець, што заслужу на ласку Тваю ды цешыцца дарамі новае пацехі.

**4.** Дзякую Табе, ад каго ўсянюткае дабро паходзіць, якое і мяне сустракае.

А я перад Табою марната адна ды нічогасьць — нятрывалкі я і нядужы чалавек.

Дык чым жа магу я хваліцца, або дзеля чаго маю хацець, каб хвалілі мяне людзі?

Ці ж таму, што я нічогасьць? О, наймарнейшая пустата людзкая!

Сапраўды, марная слава — пошасьць найгоршая ды марната найвялікшая, бо ад сапраўднае адцягвае нас славы і зьдзірае з нас ласку нябесную.

Бо калі чалавек сам сабе падабаецца —Табе ўжо нямілы ён, а калі ганяецца за хвальбою чалавецкаю — губляе цноты сапраўдныя.

**5.** Бо праўдзівая слава ды сьвятая радасьць у тым, каб хваліцца ў Табе, а не ў сабе, весяліцца з Твайго Іменьня, а не дзеля ўласнае цноты ды ня цешыцца ніякім творам, а толькі Табою.

Няхай славіцца Імя Тваё, а не маё, няхай будуць галосныя падзеі Твае, а не мае; няхай будзе блаславёным Тваё сьвятое Імя — мяне ж няхай не чапаюць людзі хвальбою сваёю.

Ты слава мая, Ты захопленьне сэрца майго.

Кожны дзень, кожную хвіліну буду хваліцца і цешыцца Табою, *а сам у сабе нічым іншым хваліцца ня буду, як толькі нядужасьцямі маімі* (2 Кар 12, 5).

**6.** Няхай іншыя, за прыкладам жыдоў, шукаюць славы між сабою, я тае толькі гляджу, якая ад Бога аднаго.

Бо ж усенькая слава чалавецкая, усянюткі гонар дачасны, уся вялікасьць сьвецкая — усё гэта марната ды глупата, раўняючы з Тваёю вечнаю славаю.

О, праўда мая, о міласэрнасьць мая, о Божа мой! Тройца блаславёная! Табе адной толькі няхай будзе чэсьць, гонар, магутнасьць і слава бясконцая — на векі векаў!

## Разьдзел XLI

*Аб пагардзе ўсякае дачаснае пашаны*

**1.** Не маркоцься, Сыне, калі бачыш, як іншых хваляць і вывышаюць, а табою пагарджаюць ды сьмяюцца з цябе.

Падымі сэрца сваё да Мяне ў неба, дык ня будзеш маркоціцца, што людзі табою пагарджаюць на зямлі.

**2.** Пане, у цемнаце мы ходзім, а марната нас хутка зводзіць.

Калі добра гляну на сябе, убачу, што ніякае крыўды мне ня было ад нікога, а таму ня маю чаго наракаць на Цябе.

Бо часта і цяжка награшыў я перад Табою, а таму і трэба, каб зброіліся насупроць мяне розныя стварэньні.

Папраўдзе, я маю права толькі на зьнявагі ды пагарды, а Табе слава, чэсьць і хвала.

Пакуль ня прыспасоблюся гэтак, каб цярпліва трываць ад усіх стварэньняў зьнявагу і каб усе кінулі мяне ды каб кожны блага аба мне думаў — датуль ня здолею ўсталіцца і заспакоіцца духова, ані быць асьвечаным на духу, ані цалкам з табою злучыцца.

*Працяг будзе.*

Ірына Багдановіч

# ДВА ПАКЛІКАННІ: КАЗІМІР СВАЯК — СВЯТАР І ПАЭТ

## Да 120-годдзя з дня нараджэння

Паэт Казімір Сваяк і ён жа ксёндз Канстанцін Стэповіч (19.02.1890 – 06.05.1926) пакінуў значны і яшчэ па-належнаму не ацэнены след як у беларускай літаратуры, так і на святарскай ніве. Ён быў яркай асобай свайго часу, актыўным прыхільнікам нацыянальнага адраджэння ва ўмовах заходнебеларускай рэчаіснасці. Два яго пакліканні — святарскае і паэтычнае — цесна спалучаліся ў ім, не пярэчачы, а дапаўняючы і ўзмацняючы адно другое. Ноша гэтых двух пакліканняў была вельмі цяжкай, патрабавала самаахвярнасці і штодзённага падзвіжніцтва. Ён працаваў, не шкадуючы сіл: цэлебраваў літургію і ўдзяляў патрэбныя сакрамэнты парафіянам, шмат пісаў, быў прапаведнікам і асветнікам роднага народу, арганізатарам культурнага жыцця пры касцёле (хор, драматычны гурток, чытанне беларускіх кніжак і газет, беларускія лекцыі). Асаблівым чынам вылучалася яго дзейнасць у клюшчанскай парафіі ў 1915—1916 гадах. Тут стараннямі святара Стэповіча былі створаны «беларускія вучыцельскія курсы, а ў 1916 г. было заложана сем беларускіх школаў, у якіх малодшыя дзеці вучыліся па-беларуску, а старшыя побач з мовай беларускай вучыліся і мовы польскай»[1]. На доўгія гады захавалася таксама памяць аб дзейнасці створанага святаром Стэповічам у 1916 годзе гуртка «Хаўрус сваякоў», які вырас фактычна з хору. «Хаўрусу сваякоў» ён прысвяціў у 1919 годзе верш, у якім падкрэсліў менавіта асветніцка-адраджэнскую скіраванасць гуртка, злучанасць у ім духоўнай і патрыятычна-абуджальнай сутнасцяў:

*Гадкі са тры дзяржаўся ты удала,*
*Старонцы роднай ўсё стараючысь служыць;*
*Як мог і як умеў: ні быстра, ані вяла —*
*Змагаўся русьняка з прасоння разбудзіць.*

*Так думцы вось тваей хай багаславіць Бог,*
*Каб буйна узрасла для Бацькаўшчыны роднай;*
*А помні, брат-сваяк: наперад без трывог*
*Ідзі ўсё дальш і дальш па пуціне свабоднай...*[2]

Як літаратар Казімір Сваяк быў таксама рознабакова адораным: бліскучым паэтам, публіцыстам, драматургам, празаікам, крытыкам, эсэістам. У ім спалучаліся філосаф і гісторык, ён быў асветнікам у шырокім разуменні гэтага слова. У сваёй грамадскай і літаратурнай дзейнасці ён браў за ўзор славутых папярэднікаў — Францыска Скарыну і Францішка Багушэвіча, падкрэсліваў сваю творчую повязь з сучаснікам Янкам Купалам. Кожнаму з трох волатаў-адраджэнцаў Казімір Сваяк прысвяціў вершы, а Францішку Багушэвічу і грунтоўны артыкул аб яго творчасці. Як святар ён дбаў аб духоўным адраджэнні роднага народу, адстойваў яго права на беларускамоўную літургію. Ксёндз Стэповіч не быў у гэтай справе змагаром-адзіночкам — чуўся ў надзейным коле паплечнікаў-аднадумцаў, сярод якіх найбліжэйшымі былі сябры-святары Адам Станкевіч, Янка Семашкевіч (ён жа паэт Янка Быліна), Вінцэнт Гадлеўскі, Язэп Германовіч (ён жа пісьменнік Вінцук Адважны) і яго родны брат Альбін Стэповіч — арганіст і кампазітар, у далейшым вядомы грамадскі дзеяч. Аб асобе паэта Казіміра Сваяка Адам Станкевіч пісаў: «Шуканне і апяванне ў паэзіі сутнасці жыцця агулам і сутнасці беларускага нацыянальнага жыцця — вось галоўная мэта і галоўныя матывы творства К.Сваяка»[3].

Святарскае пакліканне абумовіла ў ім той глыбокі хрысціянска-гуманістычны светапогляд, які адбіўся і ў яго паэзіі, і ў філасофска-публіцыстычных працах. Ён — і як святар, і як пясняр — дбаў аб выхаванні ў чалавеку высокай духоўнасці, бо толькі на яе грунце, па яго глыбокім перакананні, можна пабудаваць належным чынам уласнае і грамадскае жыццё, здзейсніць адраджэнне сваёй Айчыны. У жыцці Сваяка былі непарыўна злучаныя святарства і творчасць. Само жыццё чалавека і свой уласны лёс ён разглядаў у стасунках з вечнасцю, бо іначай губляецца сэнс чалавечага жыцця. Ён вызнаваў ідэю «безупыннай творчасці духу», што разумелася ім як «вялікая жыццёвая спраўнасць, каторая б вучыла нас кожнае жыццёвае здарэнне абярнуць на карысць духоўнага развіцця характару»[4]. Менавіта такі шлях чалавека да свайго гарманічнага развіцця, хаця поўнай дасканаласці чалавек мець не можа, бо «ёсць яна толькі ў Богу», — вучыў Казімір Сваяк. Узорам дасканаласці для чалавека, безумоўна, з'яўляецца Езус Хрыстус:

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Лідзе на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1983), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001). Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.

«У асобе Хрыстуса маем найстрайнейшы ўзор таго гармані́чнага ўкладу ўсіх водрухаў душы і цела, каторыя ўчынілі Яго нашым боскім Вучыцелем»[5].

У гістарычнай драме лёсаў цэлых народаў паміж дзвюма сусветнымі войнамі першай паловы XX стагоддзя Казімір Сваяк цвёрда стаяў на грунце хрысціянскай веры і хрысціянскага гуманізму — грамадзянскай пазіцыі, паводле якой высокая годнасць чалавека засноўваецца на яго богападабенстве, а «сапраўдная чалавечнасць — розум, свабода, творчасць, любоў — дасягае паўнаты ў Хрысце»[6]. З гэтай пазіцыі Казімір Сваяк глядзеў у будучыню нацыянальнага і духоўнага адраджэння Беларусі, кіруючыся адзіна магчымым для верніка хрысціяніна прынцыпам: «З народам — для Бога!» Гэты хрысціянска-гуманістычны тэзіс быў ягоным уласным палемічным адказам тагачасным сацыялістам, якія адкідалі Бога, абвясціўшы свой, так званы дэмакратычны, прынцып правадырства ў грамадскай дзейнасці. Яшчэ перад навучаннем у семінарыі семнаццацігадовы Кастусь Стэповіч занатаваў у сваім дзённіку: «Пазнаёміўся з адным сацыялістам. Ня верыць у Бога… Бедны!..»[7]. А затым выказаў свае адносіны да актыўнай дзейнасці такіх бязбожнікаў: «Хочаць у нашай парафіі закладаць гурткі соцыялістычныя. Шкода мо' працы і захаду! Каб свае здольнасці і сілы лепш абярнулі на працу „з Народам для Бога“, — а не „бяз Бога для Народу“»[8]. У клюшчанскі перыяд сваёй дзейнасці малады святар і паэт рознасць гэтых пазіцый сфармулюе ў філасофска-тэалагічным рэчышчы: «Гісторыя свету — гэта гісторыя пакоры і пыхі анёлаў і людзей. Пакора называе Бога панам сваім, пыха сябе ставіць на мейсца Бога»[9]. Менавіта грахоўным плёнам пыхі бачылася Казіміру Сваяку апантаная дзейнасць сацыялістаў па так званым справядлівым пераўладкаванні грамадства. Як святара яго гэта непакоіла, таму што пад вопраткаю справядлівасці і шчасця яму бачыўся шлях да знішчэння і пагібелі, бо не было на тым шляху месца Богу. Шчасце для Казіміра Сваяка таксама было глыбока хрысціянскім паняццем: «Шчасьце, за каторым гнаўся род людзкі — гэта Сам Бог… Шчасьлівы чалавек, каторы ўмее сказаць: „Бог мой і ўсё маё!“»[10]. Уладкаванне народнага жыцця Казімір Сваяк звязваў з павелічэннем і пашырэннем веры, якая, прыходзячы праз беларускамоўную літургію, з'яднае раздзелены народ. Крыж усведамляецца ім як знак збаўлення і надзеі, святла і будучыні. «Русьняк зажыве паўнейшым жыцьцём, калі зглыбіць і пашырыць у сабе веру ў Хрыста ўкрыжаванага, праз каторага сьляпым вочы адкрываюцца, нямым голас даецца. Русьняк згіне, калі злыдні адбяруць ад яго веру ў Бога і Яго Сына Езуса…»[11], — пісаў Казімір Сваяк.

Як паэт і святар Казімір Сваяк балюча перажываў тую гістарычную несправядлівасць, якая прывяла яго народ да заняпаду, да таго, што сыны Беларусі мусілі на працягу стагоддзяў быць «перакіньчыкамі» — служыцелямі іншых культураў. Ён верыў у адраджэнне роднага краю, нягледзячы ні на якія выпрабаванні. Для яго ж самога ўжо з ранняй маладосці былі прадвызначаны і выпрабаванні, і пакуты: ён захварэў на сухоты — невылечную і распаўсюджаную тады хваробу.

У 1914 годзе, выехаўшы на лячэнне ў Закапанэ, Казімір Сваяк усімі думкамі быў скіраваны да роднага краю, да бацькоў і «сыноў-братоў», якіх лёс сказываў на тую ж долю спашуканцаў шчасця па-за межамі бацькаўшчыны: «Калі ж яны вернуцца? Калі збяруцца і прынясуць з сабой тое, па што пайшлі?… О, каб жа, шукаючы шчасця, не затрацілі, не згубілі яны скарбу, каторы вынеслі з сабой у свет: роднай мовы сваёй, бацькаўшчыны душы сваёй дарагой…»[12].

Казімір Сваяк быў тым беларускім святаром-адраджэнцам, якому балелі і грэх чалавека «штодзённага», і «гістарычныя раны». Ён чуўся не толькі духоўным «лекарам» асобнага чалавека, які шукае свой шлях да Бога, але і ўсёй Айчыны, якая з цемры нябыту ўваскрасала да існавання ў прасторы і часе. «Маці Беларусь! Цесна ўжо тваім сынам, шукаюць яны новай дарогі, дарогі да лепшага быту. На лепшую долю ты іх благаславі! Вазьмі ад іх закляцце, што будуць заўсёды табе вернымі, што ніколі не пакінуць цябе, што не згубяць свайго сумлення, што не заб'юць у ім свайго Бога, каторы кіруе лёсы народаў»[13], — пісаў паэт, адчуваючы і сябе тым жа «сынам», які мусіць вярнуцца, нягледзячы на супраціў абставінаў, на тое, што лягчэй рухацца «па плыні» — напрыклад, па плыні даўняй, традыцыйнай польскасці ў айчынным Касцёле… Але ж ён дбаў пра Беларусь! Натхнёны прыкладам Францыска Скарыны, які яшчэ ў XVI стагоддзі пераклаў Біблію на родную мову, малады ксёндз беларус Канстанцін Стэповіч рупіўся ўжо тады, на пачатку XX стагодддзя, пра літургію на роднай беларускай мове, сам выгалошваў беларускія казанні. І гэта — нягледзячы на нязгоду ўладаў і пераслед! Ён чуў у сваёй справе волю і покліч Бога! Ішоў на гэты покліч свядома і самаахвярна, не думаючы пра пакаранне альбо ўзнагароду. Не прыхамаць, не амбіцыі, а менавіта воля Божая паклікалі яго і на стварэнне малітоўніка для беларусаў католікаў «Голас душы» (паводле звестак Адольфа Клімовіча, было тры выданні малітоўніка: два ў Вільні і адно ў Рыме[14]), дзе ўся літургія і спевы пададзены на роднай беларускай мове. Часткай гэтых тэкстаў карыстаюцца і ў сённяшнім касцёльным набажэнстве, якое вядзецца па-беларуску. Хочацца спадзявацца, што цешыцца гэтым душа паэта ў анёльскім свеце…

У сваёй паэзіі Казімір Сваяк таксама шукаў увасаблення двух ідэалаў: рэлігійнага і патрыятычнага. Чалавек перад позіркам Бога і чалавек у дадзенай Богам укрыжаванай Айчыне — такі «лірычны герой» Сваяковай паэтычнай творчасці. У тыпалагічным плане гэты герой вельмі нагадвае Конрада з трэцяй часткі паэмы «Дзяды» Адама Міцкевіча, які ў «Імправізацыі», перажываючы пачуццё роспачы ад бачанага ім гвалту над Айчынай, нават кідае выклік Богу, сумняваючыся ў Боскай справядлівасці і Боскім Провідзе. Знепрытомленага ў гэтай бітве духу, яго ратуе ксёндз Пётр, відзежа якога сталася ў межах твора струменчыкам святла да адраджэння. У вершах-разважан-

нях над лёсам Айчыны Казіміра Сваяка асоба «лірычнага героя», злітая з асобаю паэта-святара, чуецца, вобразна кажучы, то «Конрадам», то «ксяндзом Пятром». Пры гэтым глыбіня пакуты не пераважае глыбіні веры. Пакута перамагаецца верай і лекуецца ёю, бо шлях выратавання — адзіны, і ён — у Езусе Хрысце, у веры. Гэта было перакананнем святара, і яго Казімір Сваяк рэалізоўваў у творчасці як паэт. Заўважым, што і Адам Міцкевіч, уводзячы вобраз ксяндза Пятра, дэклараваў гэтым менавіта шлях веры, які выратуе Айчыну. Дзеля гэтага, як нам здаецца, ён і пазначае імя Збаўцы літарамі «сорак і чатыры». Дзве чацвёркі даюць восем, а гэта, як вядома, лічба паўнаты і дасканаласці. Дасканаласць жа ёсць толькі ў Богу…

Калі гаварыць пра шэраг вобразаў, у якіх Казімір Сваяк рэалізуе патрыятычную ідэю, то гэта таксама найчасцей вобразы, звязаныя з рэлігійнай хрысціянскай сімволікай. Напрыклад, у вершы «На гадавіны незалежнай Беларусі» паэт параўноўвае лёс роднага краю з евангельскім укрыжаваннем і змёртвыхпаўстаннем Езуса Хрыста, выкарыстоўваючы адпаведныя вобразы і атрыбуты падзеі: Кальварыя, крыж, суд Пілата, дзяленне вопраткі, воцат, прабітасць цвікамі рук, ног і сэрца, пакладанне мёртвага «цела» ў «цвёрдай скале». Апошняя страфа верша гучыць як малітва аб Вялікадні для Беларусі:

*Змілуйся ж, Божа, Ты над ёю,*
*Не дай у гробе век ляжаці,*
*Пазволь да жыцця ёй устаці:*
*У гэты час, на трэці дзень*[15].

Дасканаласць і свабода чалавека, паводле хрысціянскага гуманізму, не ў бязглуздым самавольстве, а ў следаванні Боскім цнотам і праўдам веры. «Без Мяне нічога не можаце зрабіць» (Ян 15, 5) — гэта адна з ключавых евангельскіх ісцінаў, якая менавіта азначае паўсядзённую сувязь Апосталаў (але можна разумець і шырэй — усіх вернікаў хрысціянаў) з Богам-Творцам. У сімвалічных евангелічных вобразах Хрыстус навучаў Апосталаў, што Ён ёсць вінаградная лаза, Бог Айцец — вінаградар. Яны ж — галіны гэтай лазы, што сілкуе іх і жывіць іхнія сокі. Засохлыя галіны, якія страцілі жывую сувязь з «лазой» — Хрыстом, адміраюць, і іх належыць выкідваць (кідаць у агонь). Адчуваннем такой усямернай жыватворчай сувязі з Богам была напоўнена, безумоўна, найперш святарская дзейнасць, а таксама і паэзія Казіміра Сваяка. Ён дзівіцца з хараства і дасканаласці задуманага і створанага Богам свету, славіць яго, захапляючыся найдрабнейшымі праявамі тварэння:

*Заўсёды, о Божа, дзіўлюся Табе я…*
*Ці ў ночы спакойнай, у зорках неба ясных,*
*Ці як стогне бура, як шуміць завея,*
*І ў блысках сонца, і ў маланках страшных.*

*Дзіўны Ты, о Божа, ў кождым кветку польным,*
*У кождай расінцы, ручайку прывольным;*
*Дзіўны ў тварэнні так стройнага свету,*
*Ты даеш пагоду і прыгожасць лету…*[16]

Гэты ранні верш «Гімн да Бога» быў напісаны Казімірам Сваяком яшчэ ў 1913 годзе і затым змешчаны ім у малітоўніку «Голас душы» ў раздзеле «Песні розныя». Ён блізкі па стылістыцы да псальмаў, лейтматывам якіх з'яўляецца праслаўленне Бога. Яшчэ будучы семінарыстам Казімір Сваяк вызначаў свае духоўныя і творчыя прыярытэты. Яго верш напоўнены па-дзіцячы шчырай радасцю і захапленнем, нягледзячы на хваробу, якая ўжо выявілася ў яго на той час. Пазней вершы на біблейскія матывы складуць значную частку яго творчасці, увойдуць у зборнік «Мая ліра» (Вільня, 1924), вызначыўшы тым самым яго адметнасць сярод тагачасных заходнебеларускіх паэтычных выданняў. Асабліва ўражваюць сваёй глыбінёй і прачуласцю песні-перастварэнні псальмаў. На хвалях рэлігійнай узрушанасці паэт перажывае складаную гаму пачуццяў і дае магчымасць глыбока зазірнуць у таямніцы сваёй душы, якая жыве шуканнямі Бога. Тэкст псальма 130-га з'яўляецца ключом да тэмы, матрыцаю, паводле якой Казімір Сваяк стварае ўласную паэтычную рэфлексію:

*Не было гордым сэрца маё, Божа,*
*Не вынасілась пыхай маё вока…*
*Чом жа нядолю сэрца мне варожа?*
*Чом зор у сумнівы задаўся глыбока?*
*Між сільных свету не шукаў апекі,*
*Былі мне гідкі забавы ягоны…*
*Чаму ж сягоння я кволы-калекі,*
*А дух панёсся на зломах шалёны!*[17]

Штодня чалавек сутыкаецца з праблемамі, якія выпрабоўваюць яго дух. У бясконцых «зломах», змарыўшыся ад барацьбы і няўдачаў, чалавек нярэдка пачынае наракаць на Бога і выказваць сумненні ў Яго ласцы. Нават і святар перажывае часамі такія хвіліны: «Хістаецца дух мой міжы разьбежнасьці сьцежак бытаваньня»[18]. Але гэтыя хвіліны слабасці перамагаюцца моцным жаданнем «вясьці жыцьцё горняе» і малітваю-зваротам да Хрыста: «Хрыстэ, жыві ў душы маёй. Ачысьці яе, калі яна брудна. Барані мяне ад благога духа няверы!»[19]. У «Песні на псальм 130» Казімір Сваяк паказвае такую спрагнёную і змучаную душу чалавека, што страчвае інтэнцыйную сувязь з Творцам. У безнадзейнасці, адчуваючы сябе «сухой галінай», такая душа ўсё ж прагне наталення і аджыўлення:

*Як адарваны ад грудзей дзяціна,*
*Адкінен дух мой ад Божага ўлоння,*
*Як ліст пажоўклы, сухая галіна,*
*Як пазабыта беднага загонне…*

*Ці безнадзейны, замучаны, збіты*
*Дух мой устане? Ці зваліцца слабы!*
*Ніколі, Божа, Табой я не сыты:*
*Нават і ў пекле Цябе прызываў бы…*[20]

У іншым творы — «Песні на псальм 62» — Казімір Сваяк фактычна распрацоўваў у новых асацыятыўных формах матыў Богашукальніцтва. Вось як гучыць пачатак біблейскага тэксту: «Божа! Ты мой Бог, Цябе шукаю,

Цябе прагне душа мая, маё цела па Табе тужыць у зямлі пустыннай, засохлай і бязводнай» (Пс 63, 2–3). Казімір Сваяк надаў гэтаму матыву новую паэтычную аправу:

*Ледзь толькі блысне на небе зарніца,*
*Дух мой, о Божа, на Цябе чакае,*
*Душа жадае як дожджу травіца,*
*І цела з стогнам да Цябе ўздыхае...*[21]

Паэт апісвае шляхі шукання Божага Валадарства і ласкі чалавекам, якога ў зямной вандроўцы падсцерагаюць спакусы «блуднай дарогі», але на цярністым шляху яго выратоўвае толькі думка пра «Огляд вечны» і вера «ў духа змёртвыхстанне». У гэтым жа вершы паэт узносіць і маленне за Айчыну:

*І багаслаўлю, Божа, Твае дзівы*
*Ў формах праявы і ў зменах часу —*
*І свае рукі кволы і лянівы*
*Ўзнашу у неба за айчыну нашу*[22].

Глыбокае рэлігійнае пачуццё, выказанае паэтам у гэтым вершы, адпавядае светапоглядвай сутнасці хрысціянскага гуманізму, які ні ў якой меры не пазбаўляе чалавека ўласнай творчай актыўнасці і ініцыятывы. Але ключавой у хрысціянскім светабачанні ёсць думка аб сатворчасці Бога і чалавека, гэта значыць аб тым, што, прыняўшы Божыя дары духу і ласкі, чалавек робіцца моцным у жыццёвых выпрабаваннях і паспяховым у сваёй грамадскай дзейнасці. Хрысціянскі гуманізм, такім чынам, быў таксама і філасофіяй хрысціянскага аптымізму. Калі вярнуцца ізноў да евангельскіх вобразаў вінаграднай лазы і яе галінаў, то сутнасць гэтага аптымізму Хрыстус выказаў у наступных радках: «Калі будзеце ўва Мне, і словы Мае ў вас будуць, прасіце, чаго захочаце, і станецца вам» (Ян 15, 7). Для Казіміра Сваяка, святара і паэта, у гэтых словах была жывая, сэрцам успрынятая абсалютная ісціна, якую ён увасабляў у вершаваную форму:

*Радасць мне сэрца агнём запаляе,*
*Што не пазбыўся Тваёй я апекі:*
*Твой Дух прадвечны мяне атуляе,*
*Цябе я прагну, Божа мой, на векі*[23].

У вершы «Хрысце...» паэт у сваім звароце да Збаўцы выкарыстоўвае элементы споведзі і малітоўнай просьбы, дасягаючы вялікай эмацыйнай напружанасці і лірычнай пасіянарнасці. Хрыстус малюецца ім не як далёкі і суровы вяршыцель лёсаў, аддзелены ад свету людзей мяжою трансцэндэнтнага, але як блізкі і даступны для зносінаў, хоць і нябачны Сын Божы, евангельскі Месія — той самы, калі Ён хадзіў яшчэ разам з Апосталамі па зямлі і да Яго мог звярнуцца кожны па дапамогу і ратунак. Менавіта да такога рэальнага жывога Хрыста, якім і вызнае Яго лірычны герой, звернуты заключныя радкі верша, напісанага ў стылі касцёльнай песні:

*Хрысце-Езу, пасля мукі*
*Мей жа ты трыумфу час:*
*Развяжы ж і нам ўжо рукі*
*Бо грахі прыдушылі нас...*
*На дарогу да свабоды*
*Дай жа нам святы Дар Твой:*
*Багаслаў усе народы*
*На збратанне, на спакой*[24].

Верш быў напісаны ў 1919 годзе (пазней ён увайшоў у малітоўнік «Голас душы»), і, як гэта часта здаралася ў творах Казіміра Сваяка, у ім ад малення за асабістае паэт пераходзіў да малітвы за родны беларускі народ, дбаючы аб яго долі і шчасці. Паняцце шчасця, як мы ўжо зазначалі, для паэта-святара не было адцягненым і не звязвалася з пералічэннем тых ці іншых дабротаў, а наўпрост лучылася з Богам. Аб гэтым ён пісаў і ў вершы-разважанні з назвай «Шчасце», змешчаным у зборніку «Мая ліра»:

*Для ўсіх жа людцоў, гдзе ёсьць іх колькі,*
*Аднаго трэба на сьвеце толькі —*
*Без чаго сьвет наш — блудна дарога:*
*Усім да шчасьця патрэба Бога*[25].

Паэтычная творчасць Казіміра Сваяка багатая на розныя формы і спосабы ўвасаблення біблейскіх вобразаў і матываў. Гэта песні на псальмы, вершы-малітвы, вершы-прысвячэнні ксяндзам беларусам і святарскай справе, вершаваныя гісторыі, заснаваныя на біблейскіх сюжэтах, вершы-прыпавесці, вершы ў прозе на тэмы духоўных разважанняў ды іншыя. У пэўным сэнсе можна сцвярджаць, што Казімірам Сваяком паэтам тварылася вершаваная гісторыя лёсу беларускага народа ў кантэксце біблейскай гісторыі. Так два пакліканні спалучаліся разам: святар Канстанцін Стэповіч вуснамі паэта Казіміра Сваяка працягваў абвяшчаць Божае Валадарства.

---

[1] Станкевіч А. З Богам да Беларусі. Збор твораў. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. – С.303.
[2] Цыт. па: Станкевіч А. З Богам да Беларусі. Збор твораў. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. – С.304.
[3] Тамсама. С.306.
[4] Сваяк К. Пакора і характар // Крыніца. 1921, 15 траўня.
[5] Тамсама.
[6] Католическая энциклопедия. Том 1. – Москва: Изд-во Францисканцев, 2002. – С. 1503.
[7] Сваяк К. Дзея маей мысьлі, сэрца і волі. – Лёндан: Выд. «Божым шляхам», 1991. – С. 8.
[8] Тамсама. С.8–9.
[9] Тамсама. С. 31.
[10] Тамсама.
[11] Тамсама.
[12] Сваяк К. Мае думкі // Беларус. 1914. 21 верасня.
[13] Тамсама.
[14] Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Беларусі. Ф.5. Воп. 1. Адз.зах 1. Арк.266.
[15] Сваяк К. Мая ліра. – Вільня, 1924. Рэпрынтнае выданне. – Мінск, 1993. – С. 23.
[16] Цытуецца па рукапісах. Варыянт верша змешчаны ў зборніку: Голас душы. Кніжка да набажэнства для беларусаў-каталікоў. Улажыў кс. К.Стэповіч. – 2-е выданне: Папраўленае і дапоўненае. – Вільня, 1934. – С.79.
[17] Сваяк К. Мая ліра. – С. 5.
[18] Сваяк К. Дзея маей мысьлі, сэрца і волі... С. 40.
[19] Тамсама. С. 41.
[20] Сваяк К. Мая ліра. – С. 5.
[21] Тамсама. С. 6.
[22] Тамсама.
[23] Тамсама. С. 7.
[24] Крыніца. – Вільня, 1919, 24 жн.
[25] Сваяк К. Мая ліра. – С. 9.

# *Казімір СВАЯК*

**Прад Богам**

Я глінай мяккай ў руках Тваіх, Божа...
Дух мой асобны нічога не можа,
Хоць з Тваёй ласкі і ў Тваёй сіле
Я несмяртэльны нават і ў магіле.
Я падарожны з высокай краіны,
Шукаю шчасця, і кожнай часіны мыслю:
«Крый Божа злуднае мары, —
Жыцця ў раскошы без бед і ахвяры.
Аднэй пацехі прашу Цябе, Пане,
Дай зразуменне і ўмілаванне
Праўды, што выйшаў з рук Тваіх я вольны
Выбраць няшчасце ці рай упатольны».

*1913*

**Хрысце…**

Хрысце, відзіш маё сэрца
Маёй тайніцы душы:
Табе жалюсь у паняверцы,
Мае слёзы асушы.
Выракаюся я грэху,
Шчыра плачу за блуды,
Прышлі ж урэшце мне пацеху
За нядолю, за труды.
Даеш гора мне з патрэбы,
Не забыў каб цноты я;
Бо ў шчасці не здалеў бы
Паважаць красу жыцця...
Але ж крыж еўся ў плечы,
Ланцугі у рук, у ног:
Ворагі паднялі мечы,
Каб паўстаці я не мог.
Хрысце – Езу, пасля мукі
Меў жа Ты трыумфу час:
развяжы ж і нам ужо рукі,
Бо грахі прыдушылі нас...
На дарогу да свабоды
Дай жа нам святы Дар Твой:
Благаслаў усе народы
На збратанне, на спакой.

*1919*

**Шляхам творчасці**

*Пасвячаю Янку Быліне*

Смяяўся Рэўка з нас калісьці,
Што крывулі з нас як адзін:
Па ім ўжо сохнуць лаўраў лісці,
Прадаў і ліру яго сын.

Сымонка «смык» панёс ў магілу,
А «дудку» негдзе пахаваў,
Аж у нашых часах (мо праз сілу)
Яе Быліна гдзесь дастаў.

Заграў жа чутка і адважна
На кожды голас, кожды тон:
То упатольна, то сярмяжна,
То форте-пьяна, то як звон.

Наш брат Русьняк цікавы лішне,
Ён скарбы сочыць ўжо даўно,
А Быліна на гэта свісне
І кажа: скарб той, брат, ... ...!

Бярыся ты да працы шчыра,
І помні, што табе твой пан
Палеткі, пэўна, не пашыра,
Каб ты і здох... але ты сам...

Так вось, бяры тапор у рукі
Заглохшы лес каб церабіць,
І тады толькі, пасля мукі,
Пачнеш ты чалавекам жыць.

Калі ж чужак твае парогі
Зняважыць будзе мець адвагу,
Не будзь дзіцям, давай нарогі
На меч каваць – і гнаць брадзягу.

Вучы дзяцей ты родным словам,
Каб бацьку шанаваць умелі.
Каб не дражнілі чужым зовам
Сваіх багоў яны ў касцелі.

Не пазычалі каб аж з Вільні
Назоў «нямецкае культуры»,
Вучылісь працаваці пільне,
Не спатураць благой натуры.

Культуру той на свеце мае,
Хто праўду рэжыць у вочы смела,
Хто сэрцам брату спагадае
І памагае ўсім умела.

Калі ж хто слоў гаворыць многа,
А ў сэрцы вужака гадуе,
Так сын ён чорта, а не Бога,
Няхай у ...... ён цалуе.

*1919*

**З псальмаў Давіда ( 116 і 150)**

Хваліце Бога усенькія людзі,
Усе народы ад краю да краю:
Бо аб'явіўся ў міласэрдзя цудзе,
А Яго праўда на векі трывае.
Святыя душы на небе высокім,
І вы з гаротнай і сумнай зямліцы;
Анёлкі Божы у раі далёкім,
І усе сілы ў загвезднай імгліцы.
Яго ўсемоцнасць, Яго сьветазарнасць,
Голасам трубным на свет разнясіце;
А справядлівасць, для людцоў спагаднасць
Пры многаструннай ліры апяіце.
Хваліце ж Бога розным хорам-складам,
На бразгуночках. Жалейках аргана,
І на цымбалах гарманійным ладам:
Дух кожды, хваль жа па век вечны Пана.

*1920*

**З псальмаў Давіда (129)**

З бяздоння жальбы, з глыбіні пакоры,
У цемры сумніваў, ў безнадзейным горы,
Цябе ўзываю, Божа справядлівы,
Пачуй жа голас і будзь міласцівы.

Бо еслі будзеш на грэх уважаці
І праўды сэрца людскога пытаці,
Не устаіцца ніводна стварэнне —
Кожды шукае ў Цябе ачышчэння,

І дзеля права, дзеля Тваей волі,
Шукаў Цябе я ў крыўдах і злой долі:
Зрання да ночы душа мая чакала,
На Тваё слова надзею складала.

Гдзе ж міласэрдзе і гдзе выбаўленне
З грэху, з нядолі, ці з паневалення?
Адно у Бога, свету Правадаўцы,
Адно ў Хрыстусе, Спасе нашым, Збаўцы.

*1920*

**Гімн Дзевы Марыі**

*(Магніфікат)*

Велічае горача душа мая Бога,
І дух мой узносіць Ягоная хвала:
Спадабаў бо пакору Ён сэрца ціхога,
А чэсць мая будзе праз векі трывала.

Учыніў мне вялікай Святы над святымі,
Для ўсіх міласэрны, хто страх прад Ім мае,
І моц Ён надаў мне рукамі сваімі,
А пышных і гордых упроч праганяе.

Скрышыў Ён асілкаў ў каронах рагатых,
Пакорных і нізкіх падвысіў ласкава,
З пустымі рукамі пусціў Ён багатых,
А бедным дабро даў і вечную славу.

Прыняў Ізраэля слугой сваім верным,
Сваё міласэрдзе спагадна напомніў:
А многа ўчыніў Ён бацьком нашым беднам,
Бо вось Абрагама аб'ятніцы споўніў.

*1921*

**Вер!***

Ці у полі, ці ў нядолі,
Не гаруй, брат, аніколі:
Даў Бог хлеба, дасьць і неба,
Дасьць усенька, чаго трэба.

Ня сумуй, хоць льюцца слёзы,
Будзь і сьмелы і цьвярозы;
Вер, што Беларус устане,
Згіне хітрых панаваньне.

Духам глянь кругом — наўкола:
Закрасуе касцёл-школа;
Роднай мовай, родным чынам
Аджывець наш бедачына.

* Верш друкуецца паводле рукапісаў Сваяка. Ён жа быў змешчаны ў зборніку «Мая ліра» пад назвай «Брату настаўніку» са зменамі ў трэцяй страфе: замест радка «закрасуе касцёл-школа» ў кнізе надрукавана «закрасуе наша школа». Відавочна, з гэтымі праўкамі верш набыў сэнсава іншае адценне, але цяпер цяжка сказаць, кім былі зроблены праўкі: самім аўтарам (што, на нашу думку, нелагічна) ці выдаўцамі (што больш верагодна).



Алена Глагоўская

# Закапанскі здымак Казіміра Сваяка

Да 120-годдзя з дня нараджэння

Неяк увосень мінулага года Ганна Чакур — журналістка і паэтка з Астраўца, якая займалася арганізацыяй 120-х угодкаў з дня нараджэння Казіміра Сваяка (ксяндза Кастанціна Стэповіча (19.02.1890–06.05.1926)), папрасіла мяне знайсці яго арыгінальны здымак для якаснай публікацыі ў буклеце з нагоды юбілею. Просьба падалася мне спачатку дзіўнаю — усе здымкі паэта вядомыя, яны публікаваліся не раз, асабліва яго «партрэт з белым каўнерыкам». У сваіх зборах я маю нават некалькі яго копіяў і прычым у двух варыянтах — адзін са страфою верша «Брату настаўніку», другі — дакладна такі самы, толькі без страфы. У брата паэта Эдмунда Стэповіча захоўваецца гэткі ж партрэт фарматам А-4. Ён вісіць на сцяне як добры ўспамін пра дзядзьку і «сочыць» за ўсімі ў доме. «Так прафесійна і па-мастацку ён выкананы, што глядзіш з кожнага боку і бачыш, як святой памяці дзядзька водзіць за табою вочы», — расказвае пра сваю прывязанасць да партрэта Эдмунд Стэповіч. Выязджаючы з Бараняў пасля Другой сусветнай вайны ў Польшчу, яго бацька Стэфан забраў партрэт з сабой як найдаражэйшы скарб. Раней ён вісеў у бацькоўскай хаце і — як успамінае спадар Эдмунд — быў адзіным.

Разумеючы просьбу наконт якасці здымка, я пазваніла прафесару Вітаўту Юрыю Стэповічу. Аказалася, што ён мае арыгінал гэтага вядомага здымка. Мы дамовіліся пра сустрэчу. На арыгінальным здымку фармату паштоўкі я ўбачыла сігнатуру фотаатэлье — у левым кутку ўнізе здымка пазначана: «*Zakopane atelier Stefa*». Аказваецца, найбольш вядомы здымак Казіміра Сваяка быў зроблены ў Закапанэ! З 1912 года паэт лячыўся там ад сухотаў, затрымліваючыся ў так званай «ксянжоўцы» («księżówce»). Першы раз ён прыехаў у Закапанэ, якое тады знаходзілася ў межах Аўстрыі, 25 лістапада 1912 года. 24 лістапада 1912

**Алена Глагоўская** — журналістка, даследчыца беларускай мінуўшчыны. Нарадзілася ў 1959 годзе ў Ярылаўцы на Беласточчыне. Закончыла факультэт журналістыкі і палітычных навук Варшаўскага універсітэта. У 1984–1998 гг. працавала на факультэце грамадскіх навук Гданьскага універсітэта, з 1998 г. — на кафедры беларускай культуры Беластоцкага універсітэта. У 1995 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Культура Беларусі ў 1914–1929 гг.». Аўтар кніг «Беларусь 1914–1929. Культура пад прэсам палітыкі» (1996), «Беларусы на гданьскім узбярэжжы» (2003), шматлікіх артыкулаў у польскім і беларускім друку. Супрацоўнічае з польска-беларускім «Часопісам» і беластоцкаю «Ніваю». Жыве ў Гданьску.

года ён быў у Кракаве і запісаў у дзённіку «Дзея маей мысьлі, сэрца і волі»: «Заўтра буду на мейсцы свайго лячэньня».

У 1909 г. у Закапанэ па ініцыятыве кс. Юзафа Каліцінскага было створана таварыства Дом здароўя для каталіцкіх святароў. У 1910 г. таварыствам быў куплены дом «Адасёўка» («Adasiówka») з 24-ма пакоямі, які вельмі хутка памяняў сваю назву на «ксянжоўку». Для 22-гадовага клерыка Кастанціна Стэповіча ў Закапанэ час праходзіў незаўважна. У снежні 1912 г. ён запісаў у дзённіку: «Сілаў прыбывае. Таварыства тым добрае, што скора зьменнае: адны выязджаюць, другія наязджаюць. Тыпы цікавых людзей. Поле для абсэрвацыі характараў добрае». Ён пісаў таксама лісты да блізкіх. Захавалася яго паштоўка, напісаная 8 красавіка 1913 г. да брата Альбіна, які тады працаваў арганістам у касцёле ў Цеханоўцы. «Pogoda skwaśniała. Pada deszcz», — пісаў Стэповіч. І дадаваў: «bodaj z miesiąc (najmniej) zobaczymy się». Канстанцін Стэповіч выехаў з Закапанэ ў маі 1913 г., пасля пяці месяцаў лячэння. «Еду дамоўкі з запасам адноўленых сіл. Пакідаю харошы куточак сьвету, багаты ў пышныя повіды. Не забудуся ніколі даліны Косьцеліскай, куды езьдзіў у таварыстве двух ксяндзоў. Была цудоўная ноч. Месяц усплываў на неба і штохвіліну хаваў свой твар між блядавых хмаркаў, як воўна. Пры гэтай частай зьмене сьвятла штораз мяняліся повіды, даючы жыўную страву для ваабражэньня. Цудны булькот ручайкоў, дзіўныя контуры скальных абрываў, тайнічныя шэпты „смрэкаў“ — усё гэта складала абраз, поўны спакою і маестату ночы». Вярнуўшыся на бацькаўшчыну, ён вырашыў 13 жніўня 1913 г. пісаць па-беларуску. Ці не пад уплывам побыту ў Закапанэ Казімір Сваяк пачаў цаніць сваю родную мову і свой народ?

14 лістапада 1913 г. ён зноў прыехаў на лячэнне ў горы, адкуль пісаў брату Альбіну ў Казань: «Dziś przyjechałem do Zakopanego». Зноў быў у Закапанэ да вясны 1914 года. 29 лістапада 1913 г. запісаў у дзённіку: «Я чую ў сябе дужа многа сілы жыцьцёвай. Трохі марозіць. Учора быў сьнег. Санная дарога пышная. Уночы зоркі іскрацца і паляцца на небе пад музыку ручайкоў горных і шум хвойкаў. „Гасьцей“ многа незнаёмых. Кожнага псыхолёгія цікавая». Менавіта ў Закапанэ Казімір Сваяк пачаў пісаць лісты да брата на беларускай мове. На паштоўцы ад 17 лютага 1914 г. ён пісаў: «Kochany Albinie! Dawno już bardzo pisałeś do mnie i jestem niespokojny o ciebie. Pisz choć kartkę... Che! Zabyusia iznoŭ, szto piszym da siabie pa swojmu, kab nie razpanieć i nie zabyć ab maci Biełarusi. Sa mnoj — staroje. Wiarnusia mo na Wialikdzień susim zdarowym». 27 сакавіка 1914 г. Казімір Сваяк быў ужо ў Далістове, на Беласточчыне, дзе затрымаўся ў свайго сябра-аднагодка — ксяндза Язэпа Гэрмановіча.

Першая сусветная вайна перарвала выезды ксяндза на лячэнне. У 1916–1918 гг. ён служыў вікарыем на Беласточчыне ў Карыціне, дзе канчаткова падарваў сваё здароўе. Зімой 1919–1920 гг. ён ізноў быў у Закапанэ. Увосень 1920 г. Стэповіч атрымаў парафію ў Засвіры. У Закапанэ ён паехаў у кастрычніку 1922 года. Тады ж на Дзяды наведаў там магілу Івана Луцкевіча.

З захаванай карэспандэнцыі вынікае, што ў Закапанэ ён быў таксама ў 1924 і 1925 гадах. 11 сакавіка 1924 г. ён пісаў: «Zusim tut dobra tym časam. Pahoda śnieżnaja druhi dzień. Śniehu pałowa m•o znikła pad halnym wietram. Načami maroz». З Закапанэ ксёндз Стэповіч пісаў таксама 10 верасня 1925 года. «Ničoha dahetul novaha: krapčeju i addychaju. Zimnata tut, a u horach u•o śnieh. <...> Wyśli mnie „rasijska-kryŭski słoŭnik W. Łast“».

Магчыма, Казімір Сваяк правёў у Закапанэ і апошнюю зіму свайго жыцця. У красавіку 1926 г. ён пісаў са «сталіцы сухотнікаў» ліст за лістом ксяндзу Адаму Станкевічу, а пасля стаў слаць яму тэлеграмы «з грозным алярмам аб няўхільнай катастрофе і з гарачай просьбай прыбыць да яго і забраць на бацькаўшчыну, каб паміж сваіх мог дажыць кароткі свой дзянёк і каб над ім не было дзярно чужое». «Мне цяжка тут, я сярод чужых, а там, у родных Клюшчанах, я напэўна папраўлюся, я там паздаравею», — гаварыў ксяндзу Адаму Станкевічу, які прыехаў забраць яго ў Вільню.

Ксёндз Адам Станкевіч у працы «Kazimier Swajak. Narysy ab jahonaj ideolohii» («Chryścijanskaja Dumka», 1931, № 10) пісаў пра апошнія дні свайго сябра: «Woś-•a zhodna z apošniaj wolaj pieśniara pad kaniec krasawika 1926 h. udałosia jaho jašèe z Zakapanaha prywieści u Wilniu, u wahon i z wahonu nosiačy na našułkach, i pała•yć u Litoŭskuju Kliniku, dzie daharajučy paet biełaruski spatkau du•a ciopłuju i sardečnuju apieku. 6 traunia Kazimier Swajak (Ksiondz Kanstanty Stepowič), jak śviečka na autary muk i ciarpeńnia zhas i adyšou u lepšuju krainu».

У кнізе «З жыцьця і дзейнасьці Казімера Сваяка (у дзесятыя ўгодкі яго сьмерці), 1926–1936» (Вільня, 1936) кс. Адам Станкевіч дапоўніў гэты успамін: «На жаль, грудзі паэта былі ўжо сточаны мікробамі дазваньня і ня было ані магчымасьці вязьці яго ў Клюшчанскія сасоньнікі, ані такжа ніякай надзеі на выздараўленьне. У Вільні дагараў паэт у Літоўскай клініцы. Часта траціў прытомнасьць. У ясных праблесках сьведамасьці маячыў нешта аб Беларусі, аб сваім народзе, аб крыўдзе ягонай, прасіў урэшце апякавацца ягонымі творамі, яго-

нымі рукапісамі, якія ўдалося выдабыць з пад арышту польскай пракуратуры, бо, казаў — „а можа і будзе з гэтай усей маей пісаніны якая карысьць для народу?!..“»

Здымак Казіміра Сваяка «з белым каўнерыкам» быў апублікаваны ў першым нумары «Krynicy» за 5 студзеня 1926 г. (с. 4) з тэкстам рэцэнзіі Сьветазара (Макара Краўцова) на зборнік вершаў «Мая ліра». Ці былі іншыя прыжыццёвыя публікацыі гэтага здымка — пытанне адкрытае. Адказ патрабуе часу і доступу да беларускіх выданняў у архівах.

Пасля смерці паэта здымак быў змешчаны ў віленскіх беларускіх газетах і часопісах «Krynica» (№ 16, 16.05.1926 г.), «Беларускае слова» (№ 13, 18.05.1926 г.). Магчыма, і ў іншых выданнях. Публікаваўся ён і ў артыкулах, прысвечаных гадавінам народзінаў і смерці паэта, у асобных выданнях у міжваенны час: «U pieršyja uhodki śmierci K. Swajaka» («Biełaruskaja Krynica», № 19, 6.05.1927 г.), у часопісе «Шлях моладзі» (1929, № 1), у працах кс. Адама Станкевіча «Rodnaja mowa u światyniach» (Wilnia, 1929), «З жыцьця і дзейнасьці Казімера Сваяка (у дзесятыя ўгодкі яго сьмерці), 1926–1936» (Вільня, 1936). Пасля Другой сусветнай вайны здымак выкарыстоўваўся ў эміграцыйных выданнях, напрыклад, у перавыданым дзённіку Казіміра Сваяка «Дзея маей мысьлі, сэрца і волі» (Лондан, 1991). У пачатку 90-х гадоў, калі ў Беларусь пачала вяртацца памяць пра паэта, здымак часта публікаваўся ў розных выданнях: у часопісах «Унія» (1991, № 1), «Наша вера» (1998, № 2; 2002, № 2), у даведніку «Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя» (Мінск–Мюнхен, 1999). «Астравецкая праўда» (№ 22–23, 19.02.2005 г.) апублікавала яго да 115-годдзя з дня нараджэння Казіміра Сваяка.

У пачатку 90-х гадоў я завезла ў Архіў-музей літаратуры і мастацтва ў Мінску калекцыю фотакопіяў здымкаў са збору прафесара Вітаўта Юрыя Стэповіча з Гданьска, сярод якіх быў таксама здымак «з белым каўнерыкам». Публікаваўся ён і ў беластоцкіх беларускіх выданнях — у «Ніве» (№ 13, 27.03.2005 г.) і ў «Czasopisie» (1993, № 3). Зазірнуўшы ў Інтэрнэт, на шмат якіх старонках таксама можна знайсці гэты здымак: be.wikipedia.org, www.westki.info.artykuly, budzma.org/calendar, www.parta.by,

У згаданых публікацыях не падаецца крыніца здымка — ні адкуль ён быў узяты, ні хто яго аўтар. Ён паспеў з гадамі так прыжыцца ў беларускай нацыянальнай свядомасці, што ніхто ўжо не задумваецца пра яго паходжанне. Паглядзеўшы на арыгінальны здымак, я вырашыла ўсё ж такі ўстанавіць яго аўтара. Ганна Лісцар, кіраўнік бібліятэкі Музея Татраў у Закапанэ, па тэлефоне разгадала для мяне загадку фотаатэлье «Стэфа». Аказалася, што яго заснавальнікам і ўласнікам быў Генрык Шабэнбэк, вядомы фатографік і адзін з найлепшых закапанскіх фатографаў. Нарадзіўся ён 11 траўня 1886 г. у Перэмыслі. У 1903 г. закончыў гімназію ў Львове і пачаў працаваць фатографам у атэлье Сафіі Тшэмэцкай. Гісторыю фотаатэлье «Стэфа» рассакрэціў Францішак Дзядонь, дырэктар Маладзёжнага дома культуры Форт 49 у Кракаве-Кшэславіцах, які ў траўні 2008 г. арганізаваў выставу працаў фатографіка, вяртаючы яго постаць і спадчыну з забыцця. У 1906 г. Генрык Шабэнбэк пераехаў у Закапанэ і ў драўлянай віле «Стэфа» на Крупоўках 57 наняў 2 пакоі пад фотаатэлье і кватэру. Ад назвы вілы і пайшла назва славутага атэлье. У 1912 г. Шабэнбэк купіў гэты дом у сваю ўласнасць. У 1910 г. на міжнароднай фатаграфічнай выставе ў Рыме ён атрымаў залаты медаль за свае працы. Падчас Першай сусветнай вайны Шабэнбэк служыў у аўстрыйскай арміі і на фронце трапіў у расійскі палон. Ён быў сасланы ў Сібір, адкуль вярнуўся толькі ў 1921 годзе. Падчас яго адсутнасці працу атэлье вяла жонка. У міжваенны перыяд Генрык Шабэнбэк займаўся фатаграфаваннем і фільмаваннем. У 30-я гады на месцы драўлянага дома ён пабудаваў новы мураваны, які цяпер стаіць па адрасе Крупоўкі 51 і належыць праўнуку фатографа.

Генрык Шабэнбэк займаўся таксама сакольскай дзейнасцю — у лыжнай секцыі. З 1934 г. ён быў членам гарадской рады, а ў пачатку верасня 1939 г. стаў бургамістрам Закапанэ. У лістападзе яго арыштавала гестапа і разам з іншымі палякамі ён быў расстраляны немцамі ў Кшэсавіцах (пад Кракавам).

Казімір Сваяк, бываючы на лячэнні ў Закапанэ, відаць, завітаў аднойчы ў гэтае вядомае атэлье. Я згадала вышэй пабыўкі ксяндза ў гарах, каб паспрабаваць акрэсліць час фатаграфіі-паштоўкі. На жаль, на яе адвароце няма ніякіх надпісаў, таму датаванне здымка пакуль немагчымае. Але ці не было гэта апошняе прыжыццёвае фота Казіміра Сваяка, якое пасля яго смерці пачало жыць сваім жыццём? Хочацца, каб і для беларусаў фатографік Генрык Шабэнбэк не быў ананімным аўтарам, бо, фатаграфуючы па-мастацку хворага беларускага дзеяча, ён стварыў яго найпрыгажэйшы партрэт на вечную памяць для Беларусі і яе народа.

*Дзякую за дапамогу ў падрыхтоўцы і напісанні артыкула Ганне Чакур з Астраўца, Вітаўту Юрыю і Эдмунду Стэповічам з Гданьска, Ганне Лісцар з Закапанэ, Францішку Дзядоню з Кракава і Гражыне Харытанюк-Міхей з Мінска.*




Rosarium et Officium B.V.M. Vilna, 1679. Гравюра А. Тарасевіча.

Аляксандр ЯРАШЭВІЧ

# Сюжэт Ахвяравання Пана ў беларускім мастацтве

Паводле Старога Запавету, на 40-ы дзень пасля нараджэння дзіцяці маці павінна была прыйсці ў ерузалемскі храм, каб прынесці сімвалічную ахвяру ачышчэння — аднагадовае ягнё і маладога голуба, а калі не магла прынесці ягнё, то дастаткова было двух маладых галубоў. Калі першае дзіця было мужчынскага полу, яго трэба было прадставіць Богу і выкупіць немаўля. Кошт выкупу складаў пяць сікляў. Марыя прынесла дзве горліцы (невялікая птушка з сямейства галубіных), або двух птушанятаў галубіных. Тады быў у Ерузалеме Сімяон, якому было прадказана Духам Святым, што ён не ўбачыць смерці, пакуль не ўбачыць Хрыста, і ўдава Ганна, якая ўжо 84 гады жыла пры храме. Сімяон узяў дзіця на рукі і сказаў: «Цяпер адпускаеш слугу Твайго, Валадару, паводле слова Твайго, у спакоі; бо вочы мае ўбачылі збаўленне Тваё, якое падрыхтаваў Ты перад аблічам усіх народаў: святло для асвятлення язычнікаў і хвалу народа Твайго Ізраэля» (Лк 2, 29–32). Апошнія словы далі падставу Каталіцкаму Касцёлу называць свята «Свяцільнік» (*Chandeleur, Lichtmesse*), асвячаць свечкі і хадзіць з імі у працэсіях (адсюль і грамнічныя свечкі на Беларусі), разам з тым асабліва шанаваўся і св. Сімяон як прарок. Старац благаславіў бацькоў і прадказаў Марыі: «Вось гэты прызначаны на падзенне і на паўстанне многіх у

**Аляксандр ЯРАШЭВІЧ** — кандыдат мастацтвазнаўства. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Даследуе мастацтва эпохі Барока і гісторыю рэлігіі на Беларусі. Адзін з аўтараў двухтомнага даведніка «Рымска-каталіцкія Кальварыйскія могілкі ў Мінску на Беларусі» (Варшава, 1996, 2000), аўтар кніг «Маці Божая Снежная» ў Беларусі» («Про Хрысто, 2003»), «Абраз Маці Божай Будслаўскай» («Про Хрысто, 2004»), укладальнік і адзін з аўтараў альбома «Музей старажытнабеларускай культуры» (Мінск, 2004).



Абраз з Успенскай царквы ў Ноўгарадзе. XV ст.

Ізраэлі... І праз Тваю душу пройдзе меч, каб выявіліся думкі многіх сэрцаў» (Лк 2, 34–35).

Пра свята Ахвяравання Пана згадваюць айцы Касцёла ў III–IV стст., у св. Грыгорыя з Нісы ёсць пропаведзі на яго. Пачатак урачыстага святкавання на Захадзе і Усходзе звязваюць з рознымі гістарычнымі абставінамі. Заходнія аўтары лічаць, што свята ўстанавіў папа Геласій (496) або Грыгорый Вялікі (600), каб выцесніць з грамадскага жыцця паганскае свята луперкаліяў, якое ў той час усё яшчэ адзначалі рымляне. У Візантыі гэта адбылося пры Юстыніяне ў 541 г., калі спыніліся беды (эпідэмія, землятрусы) пасля ўрачыстага малебну ў дзень Ахвяравання Пана. Песнапенні на свята, якія і ў наш час гучаць у касцёлах, складалі Андрэй Крыцкі, Ян Дамаскін і іншыя выдатныя аўтары.

У евангельскім аповедзе спалучаны тры аспекты адной падзеі з жыцця Езуса: старазапаветнае ачышчэнне Божай Маці, прадстаўленне Хрыста Богу і Яго сустрэча з двума праведнікамі. Каталіцкі Касцёл, услед за Ерузалемскай традыцыяй, у сярэднія вякі і пасля Трыдэнцкага Сабору святкаваў дзень 2 лютага як дзень Ачышчэння (Purificatio) Благаслаўлёнай Панны Марыі. Толькі пасля Другога Ватыканскага Сабору свята атрымала назву — Ахвяраванне Пана *(Presentatio Domini)*. Праваслаўная Царква адзначае гэты дзень як Стрэчанне Гасподняе (у праваслаўным разуменні яно сімвалізуе сустрэчу Старога і Новага Запаветаў). Гэтыя адрозненні, істотныя пры вызначэнні сюжэта канкрэтнай іконы або алтарнага абраза, знайшлі адбітак і ў іканаграфіі.

Тэкст Евангелля ад Лукі дае сціплую іканаграфічную аснову для ілюстрацыі падзеі. У раннім Сярэднявеччы «Ахвяраванне Пана» наносілася на крыжы-рэлікварыі сярод сюжэтаў з жыцця Хрыста. У візантыйскіх святочных цыклах з X–XI стст. яно было распаўсюджана ў жывапісе і кніжнай мініяцюры. Першая вядомая выява «Ахвяравання Пана» захавалася ў мазаіках трыумфальнай аркі касцёла Санта Марыя Маджорэ ў Рыме (432–440). Мастак выходзіць за межы аповеду Лукі і нават апокрыфаў: Марыю суправаджаюць анёлы, а за Сімяонам стаяць тры мужчынскія персанажы (святары і кніжнікі). Мініяцюра парыжскага кодэкса Рыгора Багаслова ўжо амаль мае кампазіцыю, якая на многія сотні гадоў стала кананічнай у іканапісе. Сімяон працягвае рукі, пакрытыя гімацыем, каб прыняць Дзіця ад Марыі, за Ёю — Юзаф з дзвюма птушкамі; толькі ахвярнік стаіць на правым краі, але неўзабаве ён будзе перамешчаны ў цэнтр, а побач з Сімяонам, ці за ім, стане Ганна Прарочыца. Падкрэсленне ролі алтара мела сэнс прадказання ахвярнай смерці Хрыста. Раннехрысціянская кампазіцыя: Марыя з Дзіцем і Сімяон стаяць каля алтара, групу складаюць Юзаф, анёл і прарочыца Ганна, за Сімяонам — святар, на зямлі — дзве птушкі. У сярэднія вякі на праваслаўным Усходзе была больш пашыраная кароткая рэдакцыя: Маці Божая і Сімяон знаходзяцца па розныя бакі алтара, Марыя падае Дзіця старцу. Ганна спачатку не асабліва прыкметная. Дзея адбываецца ў храме, у позневізантыйскім мастацтве — таксама і перад храмам. Сіметрыя паступова змяняецца: Марыя, Ганна і Юзаф з галубкамі ў руках стаяць перад Сімяонам, які трымае Езуса ці перадае Яго Марыі.

У заходнехрысціянскім мастацтве размяшчэнне фігураў і іх дзеянні звычайна больш разнастайныя. Езус часта можа быць паказаны на руках Сімяона, благаслаўляючы старца, які вяртае Дзіця Марыі. З X–XI стст. уверсе з'яўляецца рука Бога Айца ў благаслаўленні; часам Езус ста-

іць на алтары з падтрымкай Марыі ці Сімяона. У рэльефе алтара баптыстэрыя ў Пізе (Н. Пізана, 1260 г.) з'яўляецца барадаты мужчына (першасвятар?). У XIV–XV стагоддзях у італьянскіх карцінах «Ахвяравання Пана» павялічваецца колькасць дзейных асобаў. У А. Ларэнцэці (1342 г., музей Уфіці) на пярэднім плане паказана сустрэча з Сімяонам і Ганнай, Марыя стаіць на каленях, на заднім плане першасвятар прыносіць у ахвяру галубоў. Такая кампазіцыя ў канцы XIV ст. з'яўляецца і на поўначы ад Альпаў. Кёльнскі мастак Стэфан Лохнер паказаў «Прынясенне ў храм» (1447 г.) як «Імшу са свечкамі». Сімяон у абліччы першасвятара трымае аголенае Дзіця над алтаром, укленчаная Марыя ахвяруе галубоў, Юзаф адлічвае грошы выкупу, Ганна прарочыць, Бог Айцец (уверсе) благаслаўляе. Подобную групу можна ўбачыць у Ганса Гольбейна Старэйшага (1503). У алтарных абразах Паўночнай Еўропы Марыю часта суправаджае Магдалена (Г. Гольбейн Ст., карціна ў саборы ў Аўгсбургу, 1493 г.). У гравюрах з серыі «Жыццё Марыі» А. Дзюрэр паказвае Сімяона як першасвятара, венецыянец В. Карпачо намаляваў яго ў арнаце біскупа. Абраз Рогіра Ван дэр Вэйдэна ў алтары кёльнскага касцёла св. Калумба (цяпер у Старой Пінакатэцы ў Мюнхене) заўважна ўплываў на фламандскія, іспанскія і італьянскія выявы «Ахвяравання». У эпоху Барока многія алтарныя карціны пісаліся ўслед за абразом П.-П. Рубенса (Антверпен, катэдральны касцёл, 1611–1614). Шмат разоў на працягу свайго творчага жыцця маляваў «Ахвяраванне» Рэмбрандт, пачынаючы з гравюры 1630 г., карцінаў 1627 і 1631 г. да апошняга твора 1669 года.



Абраз з Аброўскага іканастаса. Сярэдзіна XVIII ст. НММ.

У Старажытнай Русі першыя вядомыя выявы «Ахвяравання Пана» (XII ст.) знаходзяцца сярод фрэсак цэркваў Спаса ў Полацку і Кірылаўскай царквы ў Кіеве. У полацкім храме зусім нядаўна раскрыты сюжэт знаходзіцца на заходніх гранях алтарных слупоў: на паўночным — Юзаф з галубамі і Марыя, якая падае ўперад Дзіця на руках, што «літаральна крочыць у алтар» (па трапнаму выразу В.Д. Сараб'янава), на паўднёвым — Сімяон, гатовы прыняць Яго на накрытыя рукі, за ім Ганна Прарочыца ўказвае на неба (у апушчанай левай руцэ разлінаваны скрутак). Не захаваліся фрэскі Пятніцкай царквы Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра ў Полацку (знішчаны ў 1930-я гг.) і Спас-Нярэдзіцы пад Ноўгарадам (разбурана ў 1943 г.). Усе гэтыя фрэскі захоўваюць візантыйскую іконаграфію з асобамі Марыі і Юзафа, Сімяона і Ганны абапал ківорыя; Марыя перадае Дзіця Сімяону. Кампазіцыя застаецца лаканічнай і ў фрэсцы гатычнай замкавай капліцы св. Тройцы ў Любліне (1418 г.), толькі Езус ужо на руках Сімяона. Змены ў праваслаўным іканапісе адчуваюцца ў канцы XVI стагоддзя, дасягаючы ў Маскве самых значных вынікаў у 2-й палове XVII ст. Вядомы даследчык евангельскай іканаграфіі Н.В.Пакроўскі характарызуе як цалкам самастойнае рускае і даканалае «Стрэчанне» ў акафісце Сымона Ушакова ў Грузінскай царкве ў Маскве. Традыцыйную кампазіцыю тут дапаўняюць Бог Айцец, анёл, Святы Дух, пракрокі і тлум людзей. У XVIII ст. нават іканапісныя ўзорнікі («подлинники») падаюць сюжэт «Стрэчання» ў вельмі расшыранай рэдакцыі.

У беларускай кірылаўскай графіцы «Стрэчанне» ўпершыню з'яўляецца ў «Трэфалагіёне» Куцеінскай друкарні 1647 года. Дзея паказана ў храме тыпу ратонды з купалам; у цэнтры — стол, злева стаіць Сімяон з Езусам на руках, насупраць — Марыя, Ганна Прарочыца і Юзаф. На пярэднім плане ўкленчыла перад сталом, паставіўшы на яго ахвярную птушку, жанчына. «Стрэчанне» можна ўбачыць у магілёўскіх выданнях: «Ірмалоі» М. Вашчанкі 1700 г. і «Малітваслове» Брацкай друкарні 1735 г. (гравюры Фёдара Ангілейкі). На жаль, гэтых магілёўскіх кніг беларускія бібліятэкі не маюць. У гравюрах Аляксандра Тарасевіча да знакамітага лацінскага «Разарыума» Аляксандра Палубінскага (1678) «Стрэчанне» змешчана двойчы. Спачатку ў серыі з 15 гравюраў малога фармату яно пазначана як «Quartum misterium» (4-я з «Радасцяў Марыі»). Кампазіцыя гарызантальная; дзея адбываецца ў інтэр'еры храма, ці атрыума з перакрыццем на магутных калонах. Расстаноўка фігураў адваротная адносна візантыйскай традыцыі. Злева стаіць

Сімяон у звычайным біблейскім адзенні, трымаючы на руках Езуса над ледзь бачным прастолам. За ім паказана група з трох асобаў (першы старац пачціва зняў шапку). На пярэднім плане ў левым вугле кампазіцыі ўкленчыла жанчына, якая трымае ў руках клетку з дзвюма птушкамі. Справа ад прастола — Марыя з Юзафам, які трымае ў руцэ капялюш (хутчэй, нямецкага фасону), за імі — сімвалічная групка людзей. Сцэна, пазначаная ініцыяламі А.Т., мае жанравы характар галандска-нямецкага кшталту.

Уплыў заходнееўрапейскай гравюры на медзярыты Аляксандра Тарасевіча яшчэ больш выразны на старонкавай гравюры фарматам 13х16 см, якую можна трактаваць як *Purification* (Ачышчэнне) і Ахвяраванне Езуса ў храме. За такі змест сведчыць вялікая клетка з галубамі на пярэднім плане ў цэнтры, якую прынесла ўкленчаная басаногая Марыя Магдалена(?). Перад шырокім сталом на прыступках спынілася Панна Марыя, падаючы Дзіця на пялёнцы схіленаму да Яго насупраць Сімяону. За імі, на флангах пярэдняга плана, узвышаюцца магутныя постаці св. Юзафа з посахам і барадатага мужа з галаўным уборам у апушчанай руцэ. На заднім плане за сталом размясціліся першасвятар у двурогай мітры, абапал яго — невядомы стары, юнак са свечкай. Другі юнак доўгай пікай запальвае свечкі жырандолі, што вісіць пад аркай з завесай. За Марыяй і Юзафам ледзь бачны Ганна Прарочыца, стары і немаладая жанчына (бацькі Марыі Яўхім і Ганна?). Манументальнасць фігураў, шчыльнае запаўненне прасторы, пэўны дынамізм — характэрныя рысы мастацтва барока ў гэтай гравюры з подпісам унізе «Alexander Tarasewicz skulpsit».

Беларускіх абразоў «Ахвяраванння» захавалася зусім нямнога. Верагодна, самая старадаўняя выява (2-я палова XVII ст.) знаходзіцца ў бакавым алтары пінскай катэдры на абразе Маці Божай Ружанцовай, які паходзіць з зачыненага ў 1831 г. дамініканскага касцёла. Галовы Марыі і Езуса ахінаюць пяць разетак-клеймаў «Радасцяў Багародзіцы», размешчаных супраць ходу сонца; чацвёртая з іх — «Ахвяраванне». Абапал ахвярніка, засланага зялёным абрусам, справа Сімяон, апрануты як першасвятар, трымае ў руках Дзіця, насупраць — Марыя, на заднім плане Юзаф. У апакрыфічным «Протаевангеллі ад Якуба» гаворыцца, што пасля забойства Захарыі слугамі Ірада жрацы Ерусалемскага храма тры дні раіліся, затым кінулі жэрабя і такім чынам выбралі Сімяона першасвятаром. На гэтай падставе, пачынаючы з XIV ст., у заходнім мастацтве Сімяон часта малюецца ў адзенні першасвятара. Юнак са свечкай каля вугла прастола нагадвае прадказанне Сімяона.



Абраз з Басценавічаў. 1731 г.
Мінскі катэдральны сабор.

Выдатны алтарны абраз, датаваны 1731 годам, вывезены калісьці ў музей з Успенскай царквы ў Басценавічах на Магілёўшчыне, знаходзіцца ў мінскім катэдральным саборы. Гэты дасканалы твор невядомага мастака-іканапісца — самабытны ўзор барока ў іканапісе Беларусі. Упэўнены малюнак, багаты яркі каларыт, умелая кампазіцыя сведчаць пра тое, што майстар прайшоў добрае прафесійнае навучанне. Аўтар звяртаецца да іканапіснага падыходу з кананічным нешматлікім складам дзейных асобаў, выстраеных у маляўнічы рад. Абраз мае ўрачысты рэпрэзентатыўны характар — дзея адбываецца ў храме. Злева, на прыступцы накшталт царкоўнай саляі, пад балдахінам з паднятай завесай, узвышаецца магутная постаць Сімяона ў надзвычай прыгожых адзеннях: залатым вышытым «сакасе» і альбе з карункавым краем, без галаўнога ўбору. Погляд старца скіраваны да неба, на руках ляжыць на светлай пеляне досыць вялікае Дзіця, правая рука Езуса благаслаўляе Сімяона, левая ўказвае на Маці. Марыя стаіць справа на краі, сціпла схіліўшы галаву, рукі скрыжаваны на грудзях, адзета ў сінюю туніку і пурпурны мафорый (праваслаўныя колеры). Абапал яе — убраная Ганна Прарочыца і св. Юзаф. Усе асобы ў залатых німбах, апрача юнака са свяцільнікам за «агароджай» кліра са спінай Сімяона. Прастол, хоць і стаіць у

цэнтры, аднак заслонены фігурай Сімяона (бачны толькі яго край). Фон утварае мураваная сцяна з аконнымі праёмамі, запоўненымі разьбяным раслінным арнаментам.

«Стрэчанне» з фонда Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка належыць да стылю своеасаблівага барокавага прымітіву, які быў характэрны ў XVIII ст. для жывапісу уніяцкіх цэркваў. Абраз, напэўна, знаходзіўся калісьці ў Георгіеўскай царкве вёскі Экіманскай (насупраць Полацка на левым беразе Дзвіны). Ён намаляваны на драўлянай аснове тэмперай па зусім тонкім грунце, па перыметры абведзены характэрнай шырокай рамай. На яе верхнім полі падпісана назва сюжэта — «Сретеніе Господа Бога і Спаса нашего». Практычна ўсё поле запоўнена цеснай групай асобаў; іх нашмат больш, чым магло быць паводле тыповай каканічнай іканаграфіі «Стрэчання». Пад балдахінам каля арачнага ўвахода ў храм стаіць Сімяон Богапрыімец (у мітры і адзенні першасвятара Ерузалемскага храма) і прымае Дзіця Езуса на пялёнцы з рук невядомай у малінавай сукенцы, блакітным плашчы і белым пакрывале (Марыя Магдалена?). За яе спінаю — маладая служанка трымае кошык з дзвюма горліцамі і вядзе за руку дзяўчынку ў светлай сукеначцы (падобна на юную Марыю з «Уводзінаў у храм»). На другім плане — Юзаф і Марыя ў блакітнай сукенцы і памаранчовым мафорыі, за імі — пачцівае сужэнства (Яўхім і Ганна?). Справа ад Сімяона тры юнакі (адзін са свечкай, двое — з раскрытымі кнігамі), а каля яго ног, на пярэднім плане, стаіць на каленях Ганна Прарочыца, побач — кошык з нейкімі ягадамі. Свечкі нагадваюць пра заходні аспект свята як Ачышчэння Панны Марыі, якое ўключала працэсію са свечкамі (Імша са свечкамі). Мадэліроўка адзенняў мяккімі плаўнымі



Абраз з Шарашоўскага іканастаса.
2-я пал. XVIII ст. НММ.

складкамі вызначаецца пластычнасцю, каларыт досыць багаты. Мастак абраза, напэўна, выкарыстаў нейкую заходнееўрапейскую гравюру, але не імкнуўся перадаць яе кампазіцыю дакладна.

Як адзін з галоўных 12 сюжэтаў «Стрэчанне» звычайна знаходзілася ў святочных радах іканастаса. На абразе сярэдзіны XVIII ст. з Аброўскай царквы Марыя з рук у рукі перадае спавітае Дзіця Сімяону, адзетаму «пабіблейску», за ім стаіць юнак са свечкай, а за Марыяй — Юзаф Абраннік. Усе персанажы пазначаны кірылічнымі надпісамі. Аб Ерузалемскім храме нагадвае толькі зялёная завеса.

У святочным радзе іканастаса з Прачысценскай царквы ў Шарашове, незвычайна разгорнутым (24 абразы), нібы змешаны два сюжэты. Падобна да таго, што іканапісец меў павярхоўнае ўяўленне пра евангельскія падзеі, якія сабраўся адлюстраваць, а магчыма, праявіў творчую свабоду ці прыблізна паўтарыў нейкія графічныя прататыпы. «Абрэзанне» паказана на фоне ратонды, перад якой стаіць ахвярнік, накрыты белым абрусам. Старац у німбе падтрымлівае над ахвярнікам пад ручкі аголенае Дзіця. За ножкі Яго трымае ўкленчаны невядомы пажылы персанаж у ружовым хітоне. Па другі бок ахвярніка стаіць на каленях нейкі юнак у дарагім адзенні. На заднім плане на флангах абапал старца ў німбе стаяць злева Марыя з Юзафам, а справа — юнак і барадаты мужчына ў мехавым каўпаку.

У «Стрэчанні» дзея адбываецца на фоне двух будынкаў накшталт вежаў. На прыступках да храма справа стаіць Сімяон(?), адзеты хутчэй як першасвятар, чым звычайны старац: у доўгай шаце-хітоне, залатой комжы і белым наплечніку; на галаве футравая шапка. Злева насупраць — Юзаф і Марыя. Сімяон, падтрымліваючы Дзіця, вяртае Яго Марыі, і Езус ідзе па ахвярніку да Маці — па сутнасці, кананічнаму сакральнаму сюжэту нададзены досыць жанравы выгляд.

Літаратура


1. Антонова В. И., Мнева Н. Е. Каталог древнерусской живописи. Т.1. М., 1963. С. 39.
2. Майкапар А. Новый Завет в искусстве. М., 1998. С.75–80.
3. Покровский Н.В. Евангелие в памятниках иконографии. М., 2001. С.193–204.
4. Сарабьянов В. Д. Спасо-Преображенская церковь Евфросиньева монастыря и её фрески. М., 2007. С.76–78.
5. Церашчатава В. В. Старажытнабеларускі манументальны жывапіс 11–18 стст. Мн.,1986.
6. Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра 16–18 стагоддзяў. Мн., 1984. С.126.
7. Lexikon der christliche Ikonographie. 1, Herder. Rom-Freiburg-Basel-Wien. 1994. S. 474–476;
8. Sachs Hannelore, Badstuebner, Neumann Helga. Christliche Ikonographie in Stichworten. Berlin-Leipzig. 1991. S. 92.



# ПРАЎДА БОСКАЯ І ЛЮДСКАЯ айца Вітальда Жыльветры

*Ці ўсе Апосталы? Ці ўсе прарокі?*
*Ці ўсе настаўнікі? Ці ўсе цудатворцы?*
*Ці ўсе маюць дар аздараўлення?*
*Ці ўсе гавораць мовамі? Ці ўсе тлумачаць?*
*Дбайце пра большыя дары, і я пакажу вам яшчэ лепшы шлях.*

1 Кар 12, 29–31

*Я іду па-над зарослай зеллем былой прыгажуняй Шчарай і над каналам Агінскага, гэткім жа паўнаводным, як пры яснавяльможным князю, які праклаў яго дзеля паляпшэння эканамічнага становішча Слоніма. Удалечыні ўзнімаюцца вежы касцёла святога Андрэя. Я ўрачыста крочу паўз касцёльную браму, іду праз усю святыню і заходжу ў сакрыстыю, бо дамовілася з пробашчам Вітальдам наконт інтэрв'ю. Узброілася дыктафонам, нарыхтавала ў галаве пэўны рэестр пытанняў, якія збіралася задаць...*

*Айцец Вітальд быў заняты. Да яго прыйшла жанчына з дачкою — маладою дзяўчынаю, якая, адпаведна спякотнай пары года, была апранута ў кароценькі топік і лёгкую спадніцу. «Што ў вас?» — ксёндз Вітальд павярнуўся да іх. «Ойча, — нясмела пачала гаворку маці, — ці можна маёй дачцэ да шлюбу?» «З голым пупам да шлюбу нельга!» — адрэзаў ксёндз. Жанчына разгублена змоўкла, а на твары дзяўчыны самаўпэўненая ўсмешка змянілася на насцярожана-ніякаватую. «Кахаценькая, — звярнуўся цяпер айцец да будучай маладой, — касцёл — гэта дом Божы, а да Бога трэба прыходзіць у прыстойным выглядзе. І да шлюбу трэба падрыхтавацца...» Гэтае «кахаценькая» здымае першапачатковую напружанасць, і цяпер ужо маці з дачкой слухаюць пробашча, як зачараваныя. Назіраючы, адчуваеш, як ад гэтага невысокага ростам, хударлявага святара з нягучным хрыплаватым голасам зыходзіць магутная энергетыка, якая ўздзейнічае на любога — нават таго, хто выпадкова трапляе пад яго ўважлівы і дасціпны позірк.*

*Дзеля размовы са мною ён папрасіў пачакаць яшчэ некалькіх візіцёраў, потым сам узяў з маіх рук дыктафон, усталяваў яго побач з сабою, папярэдзіў, што размова будзе нядоўгай, і загадаў мне націснуць кнопку. Я задала сваё першае пытанне, не ведаючы яшчэ, што яно будзе і апошнім. Калі айцец Вітальд пачаў распавядаць, перапыніць яго было ўжо немагчыма. Ён гаварыў так, быццам чытаў загадзя напісаны тэкст, не вагаючыся, не падбіраючы словаў — быў упэўнены ў тым, што яму трэба сказаць. Гэтаксама, як ён заўсёды ўпэўнены ў тым, што яму трэба рабіць і ў чым заключаецца ісціна.*

*— Святое Пісанне гаворыць так: калі стварыў Бог Адама і Еву, то Ён благаславіў іх і сказаў: «Пладзіцеся і размнажайцеся». Вельмі важна для кожнай сям'і гэта помніць. Бо калі сям'я будзе помніць пра тое, што Бог гаворыць, заўсёды для сям'і будзе добрае жыццё. Я ўсё жыццё дзякую Богу, што Ён паслаў мне добрага пабожнага тату і добрую пабожную маму. З малых гадоў, як толькі помню, тата і мама заўсёды маліліся і працавалі. Ніколі не помню, каб яны працавалі ў нядзелю або свята. Заўсёды было адно: калі нядзеля — то святкуем, ідзём у святыню, калі дзень будзённы — ад рана да вечара працуем або таксама рана і ўвечары молімся, а бывала, што яшчэ маліліся і днём.*

Пробашч з вялікай павагай і пяшчотай гаворыць пра сваіх бацькоў, успамінае Мураваную Ашмянку, дзе ён нарадзіўся... Заканамерна і зразумела, што ён пачаў свой распoвед з блізкіх яму людзей. Ксёндз Вітальд наогул умее заўважаць людзей, шанаваць іх, праяўляць да іх увагу. Я б сказала нават, умее бачыць людзей. Прыгледзеўшыся да чалавека, ужо праз хвіліну ведае, што яму трэба сказаць і што парадзіць. Старой сагнутай бабульцы, якая наракае на благі стан здароўя і пералічае пачутыя ад урача мудрагелістыя дыягназы, бадзёра гаворыць: «А каб не было тромбаў ды астэахандрозу, трэба во гэдак рабіць штодня», — і, нечакана выцягнуўшыся ў струнку, як запраўскі інструктар-фізкультурнік, паказвае адпаведнае практыкаванне. Кабета смяецца, а ў самой ужо настрой змяніўся, сама быццам бы зрабілася рухавейшай, і пазней здаецца, што, развітаўшся з ксяндзом, яна ўжо крочыць смялей і не так моцна абапіраецца на сваю кульбу. Калі падчас Імшы ў касцёле сваволіць або моцна крычыць дзіця, айцец Вітальд не пакідае гэтага без увагі. Старэйшаму гарэзніку можа адразу сурова прыгразіць пальцам, меншага проста возьме «на заметку» і ўжо дакладна запросіць маці разам з «парушальнікам дысцыпліны» да сябе ў сакрыстыю пасля набажэнства, каб растлумачыць кожнаму сваё: дзіцяці — як сябе паводзіць у святыні і чаму трэба паводзіць менавіта так, а маці — што можна загадзя зрабіць, каб дзіця было спакойным. А найперш — каб паблагаславіць і аднаго, і другую. У кожным сваім слове, у кожным учынку і нават у кожным кроку ён — руплівы і ўважлівы гаспадар дома, які адчувае свой абавязак за захаванне належнага парадку.

Айцец Вітальд Жыльветра – вядомы на ўсю Беларусь зельнік. Сваіх ведаў не хавае, шчодра дзеліцца лекавымі парадамі, рэцэптамі з парафіянамі і візіцёрамі, якія часта прыязджаюць да яго здалёку. Прычым «фітааптэка» ў яго — побач з плябаніяй, таму самым недасведчаным ён паказвае ці нават дае патрэбныя расліны. Але і за гэты талент ксёндз Вітальд знаходзіць, каму падзякаваць.

*— Вялікае было маё шчасце, што праз усё маё жыццё заўсёды ў нас дзейнічаў касцёл, быў ксёндз, які любіў маліцца, любіў парадак, працу, які адбыў Варкуту, сталінскі лагер. Гэты чалавек, Фелікс Карпінскі, меў моцную веру. Ён скончыў семінарыю ў Вільні перад самай вайной. У яго заўсёды быў парадак — у касцёле, каля касцёла. Усё было ў кветках. Ён даваў нават кветкі ў калгасную кантору, у школу. Ён быў вельмі адукаваны і набожны. Калі атэістычныя ўлады глушылі радыё на беларускай, польскай ці расійскай мове, ён слухаў на французскай. І калі я прыходзіў да яго, то заўсёды была нейкая інфармацыя, нейкая магчымасць атрымаць веды, адукацыю. Ён вельмі цікавіўся лекавымі травамі, кулінарыяй, усім тым, што можа спатрэбіцца ў практычным жыцці, і быў сапраўды чалавекам Божым, гаспадарскім, якога любіў Бог і ўсе людзі. Бо нават казалі так у гарвыканкаме ў Ашмянах: «Калі хочаш адправіць Імшу святую, то едзь у Меднікі, а калі хочаш памаліцца, то едзь у Мураваную Ашмянку». Я прыходзіў у касцёл, служыў і ніколі не звяртаў увагі на тое, хто што гаворыць. Дзякуй Богу, мне заўсёды трапляліся добрыя настаўнікі, і ўсе ведалі, што сям'я наша набожная, дый наогул у нашай мясцовасці ўсе людзі былі веруючыя.*

У сваіх казаннях ксёндз Вітальд імкнецца выхаваць у людзях гэткую ж безаглядную ўпэўненасць у неабходнасці заставацца побач з Богам, гэткае ж разважнае, рацыянальнае, гаспадарлівае стаўленне да веры. Падчас аднаго з набажэнстваў у 2007 годзе, які быў абвешчаны Годам святасці, так растлумачыў сутнасць гэтага рэдкага дару. *«Як зрабіцца святым? Жыві па Божых законах, святкуй Божыя святы — будзеш святым! Як зрабіцца пабожным? Заўсёды і ўсюды дзякаваць Пану Богу. Мець з Ім пастаянны кантакт».*

Ксёндз Вітальд не проста адчувае сваё пакліканне, ён дыхае ім, напаўняе ім усё сваё жыццё. Уздзейнічае ўласным прыкладам. Калі падчас катэхезы хтосьці зазірне да яго ў сакрыстыю з нейкім пытаннем, святар настойліва запросіць госця папрысутнічаць на катэхезе. Пагаварыўшы з чалавекам, павядзе яго



да алтара, прапануе стаць на калені і разам з ім прачытае малітву. Унікальным, неспасцігальным для мяне, дыпламаванага педагога, чынам ён хутка наладжвае кантакт з дзецьмі — дашкольнікамі, падлеткамі, юнакамі...

Падчас набажэнства ў Андрэеўскім касцёле яго рухавая постаць абсалютна арганічна злівалася з убранствам святыні, здавалася неаддзельнай ад сценаў, абразоў, скульптурных выяваў святых Пятра і Паўла. Амаль не было такога выпадку, каб ксяндза Вітальда нельга было знайсці — ці ў касцёле, ці ў плябаніі, ці на падворку. Нястомны ў сваіх клопатах пра бліжняга, ён заўсёды заняты справай, бездакорна следуючы даўняму *ora et labora.* І на шляху да духоўнай дасканаласці сваіх парафіянаў ксёндз Вітальд заўсёды побач з імі, як добры бацька побач з сваімі дзецьмі на шляху іх сталення. У касцёле святога Андрэя быў усталяваны стэнд, на якім можна прачытаць самыя неабходныя парады: як годна прывітаць Пана Езуса, як трымаць пост, як рыхтавацца да шлюбу. З мэтай навучання айцец Вітальд выдаў кніжачку «Аб сапраўдным шчасці, якім ёсць Бог». А тым, хто не чытае ні кніг, ні аб'яваў, ён і сам неаднаразова растлумачыць і паўторыць — ізноў жа кожнаму сваё. Маленькаму хлопчыку, які нядбайна склаў руку, жадаючы перажагнацца, ён асабіста выпрастае няўпэўненыя пальчыкі, прыгаворваючы: «Што гэта за кручкі ў цябе? А як салдат у арміі аддае чэсць, бачыў? Пальцы ў яго роўненькія! Так і Пана Бога вітаць трэба!» Здароваму дзецюку, які, уваходзячы ў святыню, паспешліва прыгінае адно калена, ён паблажліва давядзе: «Паўнацэнны здаровы чалавек становіцца на абодва калены, інваліду можна стаць на адно, а хто мае пратэз — той вітае Бога стоячы». У яго часам суровых, іранічных і, на першы погляд, крыўдных словах няма фанабэрыстасці, пыхі, няма імкнення пакпіць з чалавека, прынізіць яго. Наадварот! *«Помніце, дзеткі, калі вы будзеце міласэрнымі — то і Бог будзе да вас міласэрны. Маліцеся за памерлых: сёння мы молімся — заўтра за нас моляцца. Галоўнае правіла: нідзе і ніколі, асабліва ў сваім жыцці духоўным, не лайдачыць! Усё, што добрае, даражэнькія, — найперш для Бога і для блізкіх, а потым — для сябе».* «Даражэнькія», «умілаваныя», «каханенькія», «міленькія»... Хто ж будзе крыўдзіцца на добрага бацьку, які, ушчуваючы дзяцей, звяртаецца да іх у такіх выразах? Словы ксяндза Вітальда пранікаюць у самыя патаемныя куточкі кожнага — нават самага загрубелага і зняверанага — сэрца. У сваіх казаннях, ды й проста падчас размоваў з людзьмі айцец часта ўжывае словы «глянь», «глядзі», «гляньце», быццам кантралюе ўвагу людзей і ўпэўнена намацвае сваім праніклівым словам самы маленькі рух чалавечай душы, нібы ўрач — пульс на руцэ хворага...

Расказваючы пра свой пакутлівы шлях да служэння, пра тое, як некалькі гадоў ён не мог паступіць у семінарыю (не было дазволу ад упаўнаважанага па справах рэлігіі), айцец Вітальд не наракае, не выкрывае і не абвіна-

вачвае. Бачыць ва ўсім справу Божага Провіду і зноў жа з удзячнасцю ўспамінае сваіх дабрадзеяў.

*— У той час у Варшаве быў правінцыялам капуцынаў цяперашні біскуп Пацыфік Дыдыч. Я ўзяў адпачынак, паехаў у Варшаву і там быў прыняты ў закон айцоў капуцынаў праз айца Пацыфіка. І калі я быў там, ён мяне паслаў у Непакалянаў. Там Бог так пакіраваў, што дзень быў выходны, але мяне прынялі і далі такі медалік, на якім была малітвачка: «О Марыя, без граху першароднага зачатая, маліся за нас...». Я адгаварыў сем разоў «Вітай, Марыя...» і гэтую малітву за ўсіх сваіх перaследнікаў. За ўсіх тых, хто не дазваляў мне паступаць у семінарыю, маліўся кожны дзень. І з таго часу ўжо ніхто мне не перашкаджаў.*

Нязменнай шчырасцю і справядлівасцю, якая ні для каго — незалежна ад званняў і пасадаў — не мае выключэння, ксёндз Вітальд заслужыў вялікую павагу сярод жыхароў Слоніма. Для сваіх парафіянаў ён — непахісны аўтарытэт. Айцец не падзяляе людзей на менш або больш заслужаных. Тых, хто як «прыкладныя каталікі» прэтэндуюць на выключныя да сябе адносіны (просяць, скажам, «па знаёмстве» дазволіць сыну ўзяць шлюб без падрыхтоўкі і без папярэдняй катэхезы), рашуча навяртае на шлях сціпласці, па якім сам нязменна крочыць усё жыццё. Некаторыя крыўдзіліся, адварочваліся, але потым усё роўна вярталіся да яго, падобна блуднаму сыну з евангельскай прыпавесці. Бо яго пакорлівасць — тая ціхая ручаінка, якая перадольвае напор бурлівай ракі. Падчас «інтэрв'юіравання» я намагалася сфатаграфаваць айца Вітальда — і чула толькі яго сарамлівае «ай, перастаньце!» Тады дамовіліся, што прыду пасля нядзельнага набажэнства, каб сфатаграфаваць яго «пры парадзе». Скончылася гэта тым, што ў наступны мой прыход ён даў мне ў рукі гатовы здымак. На ім святар сфатаграфаваны разам з парай маладых, якім удзяляў сакрамэнт шлюбу. Ксёндз аддаў фатаграфію і, апусціўшы вочы, прамовіў: «Во гэты здымак добры. Хто я такі, каб мне ладзіць асобную фотасесію?»

*— А потым мяне паслалі ў Слонім, у касцёл Беззаганнага Зачацця... Год таму памёр ксёндз. Кругом Слоніма і на Слонімшчыне шаснаццаць касцёлаў было разбурана. Дзейнічаў адзін, але пасля вайны ў ім спалілі дах. Не было званіцы, вокны былі выбітыя, не было маладзейшых міністрантаў. Таму найперш трэба было маліцца і шкліць вокны, ацяпляць касцёл, накрываць дах. Я папрасіў, каб мне надрукавалі катэхізмоўкі. Вялікую сумку з гэтымі катэхізмоўкамі прывёз мне адзін чалавек — інвалід. Так пачалося служэнне. Помню, калі першы раз была працэсія, то выклікалі ў гарвыканкам старшага ад касцёльнага камітэту, ад парафіі, і далі 50 рублёў штрафу за тое, што ішлі дзеткі ў працэсіі. Я сказаў, каб штраф заплацілі, але дзецям не гаварыў, бо ўсе людзі вельмі радаваліся, што першы велікодны дзень — і быў святар, была працэсія. Я рабіў так: аўтобус тады быў танны, я замаўляў аўтобус, ехалі спявачкі, дзеткі, і мы ездзілі па вёсках у нядзелю. Хадзілі на магілкі, свяціў магілкі, спавядаў, адпраўляў святую Імшу, даваў намашчэнне хворым. І так распачалося маё служэнне ў Слоніме.*

А ў мінулым годзе распачалося служэнне айца Вітальда Жыльветры ў Ліпнішках. Няма падставаў сумнявацца, што і ў гэтым новым месцы ён па-ранейшаму цвёрдай рукою трымае стырно свайго духоўнага кіравання, дапамагаючы людзям і настаўляючы іх на шлях хрысціянскага жыцця. Зрэшты, ці важна, адкуль Настаўнік прыйшоў, дзе апынуўся і куды яшчэ можа трапіць? Успомнім словы евангельскага сляпога, які зрабіўся відушчым. «Менавіта гэта і дзіўна, — гаварыў ён фарысеям, — што вы не ведаеце, адкуль Ён, а Ён адкрыў мне вочы. Мы ведаем, што Бог не слухае грэшнікаў; а таго, хто пабожны і выконвае волю Ягоную, таго слухае» (Ян 9, 30–31).

Мару пра тое, каб атрымаць калісьці шчаслівую магчымасць ізноў слухаць словы ксяндза Вітальда, які, выпаўняючы волю Бога, нясе людзям праўду. Людскую і Боскую.

*Жанна Некрашэвіч-Кароткая*

**Жанна Некрашэвіч-Кароткая —** кандыдат філалагічных навук, дацэнт Белдзяржуніверсітэта. Закончыла філалагічны факультэт БДУ і аспірантуру пры кафедры гісторыі беларускай літаратуры. Даследуе творы старажытнай беларускай літаратуры, пераважна помнікі лацінскай паэзіі эпохі Рэнесансу і ранняга Барока. Перакладае з лацінскай, польскай, царкоўнаславянскай і старабеларускай моваў. Аўтар кнігі «Нясвіжская Мельпамена: Драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл» (2002), укладальніца кнігі «Ян Вісліцкі. Пруская вайна» (2005), суаўтар акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў» (т. 1, 2006).

Ксёндз Аляксандр Амяльчэня

# Быць — значыць вучыцца

Даклад на канферэнцыі «Новая евангелізацыя ў сучасным свеце».
Мінск, касцёл святых Сымона і Алены, 7–8 лістапада 2009 г.

**Вучыцца быць**

У нашым постмадэрнісцкім грамадстве з хуткасцю лавіны распаўсюджваецца ідэя пра тое, што кожны чалавек мае права самастойна вызначаць, «што такое добра і што такое дрэнна». Цалкам знікае ўяўленне абсалютнай ісціны, а па сутнасці ўвогуле назіраецца адмаўленне яе існавання. Напэўна, кожны з нас чуў словы тыпу «Бог адзін, а шляхі да Яго розныя». Аднак Біблія кажа, што шлях у Божае Валадарства таксама адзін — праз Езуса Хрыста.

Бессэнсоўным валюнтарысцкім высновам чалавека няма межаў: «Ніхто не мае права мне ўказваць, як жыць», «Жыццё ў мяне адно, таму трэба паспрабаваць усё», «Жанчына мае права сама вырашаць — забіваць або пакінуць жывым ненароджанае дзіця», «Кожны мужчына мае права „налева“», «Гомасексуалізм — усяго толькі альтэрнатыўная мадэль сексуальных адносінаў», «грамадзянскі шлюб — гэта спосаб прымерыць абутак перад набыццём», «Эўтаназія — праява міласэрнасці да невылечна хворага чалавека». Спіс не поўны.

Абвяшчэнне Евангелля ў эпоху постмадэрнізму становіцца асабліва складаным заняткам, бо людзі ставяцца да хрысціянства толькі як да магчымага базісу для арганізацыі свайго жыцця. А мы сцвярджаем, што хрысціянства — адзіная правільная платформа для жыцця чалавека ў грамадстве. Мы цвёрда ведаем, што існуюць непахісныя і нязменныя маральна-этычныя каштоўнасці. Менавіта яны павінны вызначаць нормы паводзінаў чалавека, соцыума, а таксама заканадаўчую базу дзяржавы.

СМІ з’яўляюцца найлепшым каналам для творчага абвяшчэння Евангелля, папулярызацыі дактрыны хрысціянства і хрысціянскай сістэмы каштоўнасцяў. Аб’ект нашай увагі і нашых намаганняў — змены або карэкцыя каштоўнасных установак людзей.

Безумоўна, нас цікавяць, у першую чаргу, не рэлігійныя, а свецкія СМІ, бо менавіта яны прыцягваюць увагу свецкай аудыторыі. Тут важнаю з’яўляецца роля хрысціянаў, якія павінны прымаць актыўны ўдзел у нецаркоўных медыя-праектах. Выхаванне ў масавай аудыторыі нормы паводзінаў і спосабу мыслення, якія адпавядаюць духу хрысціянскай этыкі, — гэта наша мэта. Менавіта хрысціянскае прадстаўніцтва ў свецкіх СМІ зможа выкарыстоўваць кожны канкрэтны медыя-рэсурс для гэтых функцый. Безумоўна, прынцыпова важна, каб пры гэтым журналісты хрысціяне былі прафесіяналамі, паважанымі і аўтарытэтнымі асобамі ў сваіх рэдакцыях.

Існуе інфармацыйная блакада хрысціянства, хрысціянскіх каштоўнасцяў. Аднак Езус і Яго этыка вартыя таго, каб быць шырока прадстаўленымі ў СМІ. Валадарства Божае мае ў сабе каласальны патэнцыял росту. Толькі яму патрэбны мас-медыя, якія павінны стаць важным фактарам гэтага росту. І нашая з вамі адказнасць — кардынальна трансфармаваць сітуацыю ў бліжэйшы час.

**Вучыцца адказваць**

Вельмі важна запрасіць сучаснага чалавека, які жыве пад уплывам секулярнай ідэалогіі, адказаць на некалькі нязручных для яго пытанняў. Хто для мяне Бог? Суддзя, Брат, Эталон, Святасць, Вала-

**Ксёндз Аляксандр Амяльчэня** нарадзіўся 28 сакавіка 1977 г. у Браславе на Віцебшчыне. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1994 годзе паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Гродне, якую скончыў у 2000 годзе. Вёў душпастырскую дзейнасць у парафіях Віцебшчыны. Пасля святарскага пасвячэння працаваў дырэктарам «Карытас-Віцебск», быў каардынатарам дзейнасці мас-медыя Віцебскага рэгіёну пры курыі Віцебскай дыяцэзіі. У 2004 годзе абараніў ліцэнцыят па тэме «Сродкі масавай камунікацыі» ва Універсітэце імя кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве. З 2005 года – дырэктар Каталіцкага фестывалю кіно і тэлепраграм «Magnifikat».

дар, Той, хто жыве ў недаступным свеце? Або слуга, які пакорна схіляецца ў чаканні маіх указанняў, гатовы прыняць і неадкладна адказаць на ўсе мае прэтэнзіі і заўвагі?

У залежнасці ад таго, як мы Яго ўспрымаем, складваецца і стыль нашых адносінаў з Ім. Ці дапушчальна панібрацтва ў адносінах да Бога? Наколькі яно ўпісваецца ва ўспрыманне чалавекам Стварыцеля як любячага Айца, Сябра, які бясконца прабачае? Дзе мяжа паміж блізкімі адносінамі і святатацтвам, непасрэднасцю і блюзнерствам? Пытанні вельмі няпростыя, бо сучасны чалавек ставіць пад сумненне ўсё і ўся, жадае атрымаць доказы права, хто б гэта ні быў, на першынство, спяшаецца праявіць, прадэманстраваць максімум свабоды, незалежнасці, гордасці.

Бог са сваімі (як лічыць сучасны чалавек) прэтэнзіямі на Абсалютную ўладу ніяк не ўпісваецца ў створаны Ім жа самім вобраз, гэта значыць: «Зашмат месца патрабуе Стварыцель, занадта мала прапануе ўзамен».

Хто для нас Бог? Ён для многіх стаў цяпер віртуальным, таксама як і свет, у якім людзі дазваляюць сабе пісаць адзін аднаму тое, што ніколі не змаглі б сказаць, гледзячы ў вочы. Гэтую практыку прапануецца перанесці на адносіны з Богам. Дзяцей сёння вучаць не маліцца, а… пісаць Богу лісты. Гэтая ідэя належыць амерыканскаму пісьменніку Сцюарту Хэмплі, які стаў не толькі збіраць лісты дзяцей, але і публікаваць іх. Адзін з падлеткаў так і напісаў: «Настаўніца загадала, каб мы напісалі Табе, Божа, ліст. Хто пра што жадае».

Гэты па сваёй ідэі цудоўны праект стаў пэўнай забавай для дарослых і агаліў многія недахопы духоўнага выхавання дзяцей. Атрымалася, што дарослыя не толькі справакавалі дзіцячае блюзнерства ў адносінах да Бога, не расказаўшы спачатку, Хто Ён Такі на самай справе, аднак і зрабілі іх наіўнасць, некампетэнтнасць прадметам вяселля і забавы. Іншымі словамі, не высакародна выкарысталі гэту ідэю.

Дзеці пастараліся «на славу» і, побач з больш-менш прыстойнымі зваротамі, напісалі так, як іх папрасіла настаўніца: «Хто пра што жадае». Вось некалькі (не самых горшых) лістоў.

- Прычым тут рабро, калі ствараюць чалавека. Не трэба ля-ля, Божа. Эдзік, 3 кл.
- Паслухай, жыццё нам даюць бацькі, а забіраеш яго Ты. Эрна, 2 кл.
- Не патрабуй, каб усе на Цябе маліліся. Гэта нясціпла. Валя, 4 кл.
- Калі Ты зробіш канец свету, хто ж на Цябе маліцца будзе? Пеця, 4 кл.
- Калі ўвогуле, то я ў Цябе не веру... Юра, 2 кл.
- Хто Цябе навучыў так весці сябе з людзьмі? Насця, 4 кл.

Гэта было б прабачальна, калі б такая мода не пачала набіраць абароты ў асяроддзі так званых «магчымых хрысціянаў». Яны павінны былі ведаць, як чалавеку трэба звяртацца да Бога. Безумоўна, можна растлумачыць усё дзіцячай наіўнасцю, іх стаўленнем да Бога як да Сябра. Можна. А можна зрабіць і па Божаму слову.

У ізраільскім народзе з ранняга ўзросту дзецям прывівалася глыбокая пашана да Стварыцеля. Чаму б не ўзяць прыклад з Іллі, які навучыў Самуэля размаўляць з Богам? «...І калі [Той, які кліча] пакліча цябе, ты скажы: прамаўляй, Пане, бо слухае слуга Твой» (пар. 1 Сам 3, 9). Не дадумаўся Самуэль запытаць: «Хто Цябе навучыў будзіць мяне па начах?»

Павага да Бога прывівалася з маленства, калі дзіця яшчэ нічога не разумела, аднак ужо прымала ўдзел у пакланенні Жывому Богу. Які цудоўны вобраз апісаны евангелістам Лукой! Сімяон узяў Немаўлятка Езуса на свае рукі і… благаславіў Бога! Урачыстая атмасфера: тут і прымірэнне, і падзяка, і скруха, аднак галоўнае — пераемнасць.

Не лісты і не SMS трэба прапаноўваць пісаць Богу, і тым больш, не смяяцца з тэкстаў, якія мяжуюць з блюзнерствам, а вучыць дзяцей маліцца, пакланяцца Богу і схіляцца перад Ім. «...Калі Я — Айцец, то дзе пашана да Мяне? І калі Я — Пан, то дзе глыбокая пашана да Мяне? — кажа Бог Саваоф...» (пар. Мал 1, 6).

**Вучыцца карыстацца**

Рэакцыя царкоўнай супольнасці на развіццё інтэрнэт-тэхналогій дваякая. З аднаго боку, многія хрысціяне становяцца ў абарону «рэальнасці» і абвінавачваюць камп'ютэрныя тэхналогіі ў тым, што яны падмяняюць сапраўднае жыццё віртуальным. З іншага боку, значная частка практыкуючых вернікаў так ці інакш аказваецца «ўцягнутай» у сусветную павуціну і IT-тэхналогіі. Усё ж такі: «за» ці «супраць»?

Чаму ж царкоўнае асяроддзе «заўсёды спазняецца» ў выкарыстанні высокіх тэхналогій? Другое пытанне ці, калі быць больш дакладным, праблема, што выцякае з першага пытання: якой павінна быць

стратэгія выкарыстання інфармацыйных тэхналогій у царкоўным асяроддзі, калі яна ўвогуле мае права на існаванне.

Наколькі б парадаксальна гэта ні выглядала, аднак рэлігійнае асяроддзе, не заўважаючы таго, само стала на шлях сімуляцыі або падробленых навінак інтэрнэт-прасторы, чым пацвердзіла сваю лучнасць з глабальнымі працэсамі.

Ні для каго не сакрэт, што скапіраваць чужую ідэю прасцей, чым стварыць нешта самому. Вельмі яскравыя суадносіны «крэатыву» і «плагіяту» назіраюцца сёння ў прасторы Інтэрнэта. Новыя ідэі ў адзін момант капіруюцца і тыражыруюцца ва ўсіх магчымых варыяцыях, не выключаючы хрысціянскіх.

Заходні хрысціянскі вэбрух спачатку абмяжоўваўся традыцыйнай гаміліяй, абмеркаваннем унутрыцаркоўных праблемаў або навінаў. Аднак рост магчымасцяў Інтэрнэта ўсё больш спрыяў перамяшчэнню прыярытэтаў у місіянерскай дзейнасці заходніх хрысціянаў у бок вэбфармату.

Першай Царквой, якая прэтэндуе на тое, каб назвацца «і-Царквой», стала Англіканская Царква: зыходзячы з асабістых ліберальных перадумоваў, яна дзякуючы інтэрнэт-праектам стала падобная да дыскусійнага свету.

Незвычайны і праект «Царквы дурняў» (Church of fools) — эксперыментальнага сайту, які пазіцыянуе сябе як віртуальную святыню. Выкарыстоўваючы аватары, кожны, хто пажадае, можа блукаць па віртуальнай царкоўнай пабудове ў рэжыме *on-line*.

Другім прыкладам вэб-крэатыву стаў праект пазбаўленага з сану каталіцкага біскупа Жака Галіёта. Пакрыўджаны на Ватыкан, Галіёт стварыў у Інтэрнэце «дыяцэз без межаў».

Усе вышэй пералічаныя праекты наўрад ці можна назваць прыкладам паспяховай трансляцыі хрысціянскіх перакананняў у інтэрнэт-асяроддзі. Значна цікавей выглядаюць спробы хрысціянскага прымянення такіх папулярных вэб-праектаў, як сацыяльныя сеці, відэахостынгі і інтэрактыўныя энцыклапедыі.

Непераўзыдзеным лідэрам інтэрнэт-відэа застаецца *YouTube*, штомесячнае наведванне якога складае больш за 700 млн карыстальнікаў. Не дзіўна, што і ў *YouTube* існуе шмат клонаў, сярод якіх ёсць і хрысціянскія — яны не толькі служаць справе місіі, але і прыносяць сваім стваральнікам немалыя грошы.

Хрысціянскі клон *YouTube*, які атрымаў арыгінальную назву *GodTube*, быў прызнаны сацыялагічнай кампаніяй *comScore* лідэрам Інтэрнэта па тэмпах росту — на дадзены момант на *GodTube* ўжо зарэгістравана больш за 500 тысяч карыстальнікаў, штомесячнае наведванне — 2 млн унікальных наведвальнікаў, якія праглядаюць больш за 12 млн відэаролікаў.

Стваральнік сайта Крыс Уайт, які ў свой час з'яўляўся выканаўчым прадзюсерам тэлекампаніі *CBS*, прызнаўся, што не чакаў такога поспеху: наведвальнікаў на яго сайце па нядзелях больш, чым на набажэнствах у знакамітага амерыканскага прапаведніка Джоэла Осціна ў Х'юстане.

«Ідэя стварэння сайта спачатку выглядала рызыкоўна, — адзначыў Крыс Уайт. — На пачатку існавання рэсурс падтрымліваўся дзякуючы дапамозе сяброў-бізнесменаў. Цяпер жа *GodTube* нават прыносіць прыбытак. Мы зарабляем за кошт банераў, размешчаных на сайце, а таксама ад продажу відэаматэрыялаў і прадстаўлення інфармацыі сацыяльным службам».

У асноўным на *GodTube* размешчаны матэрыялы забаўляльнага характару — гэта музыка, камедыйныя відэасюжэты, а таксама відэазапісы вострых тэалагічных дэбатаў. На лістапад 2007 г. першае месца ў рэйтынгу *GodTube* займаў ролік пад назвай «Дзіця ўзяло кнігу», дзе 4-гадовая дзяўчынка на памяць чытала 23-ці псальм.

Хаця *GodTube* адкрыты для свабоднага размяшчэння матэрыялаў і вядзення тэалагічных дыскусій, на ім усё ж існуе цэнзура: усе відэаматэрыялы праглядаюцца рэдакцыяй на прадмет іх зместу. На дадзены момант на сайце размешчана 25 тысяч відэаролікаў, 300–500 дасылаюцца ў рэдакцыю штодзённа.

Каб справіцца з такім аб'ёмам інфармацыі, на *GodTube* працуе амаль круглыя суткі 10 чалавек. Раней гэта былі студэнты, цяпер партал карыстаецца паслугамі прафесійных вэб-адміністратараў. Сёння сайт працуе на 5 мовах, матэрыяламі *GodTube* карыстаюцца сотні пратэстанцкіх цэркваў ЗША.

На сайце ёсць «малітоўная сцяна», дзе можна пакінуць своеасаблівую «запіску» Богу з выкладзенай сваёй праблемай; прычым да чужых просьбаў можна пакідаць каментар, калі вы зарэгіструецеся. У іншым выпадку можна толькі чытаць чужыя запісы і запальваць свечкі. Дарэчы, бясплатна...

На сённяшні дзень *GodTube* вырас у хрысціянскую

сацыяльную сетку Tangle, умовай удзелу ў якой з'яўляецца вера ў Езуса Хрыста і Біблію.

Калі «правобраз» *GodTube YouTube* імкнецца зарабіць на тым, што за грошы прадстаўляе свае рэсурсы разнастайным кампаніям, прадстаўнікам шоу-бізнесу і іншым, то ўтрымальнікі *GodTube* жывуць за кошт фінансавання розных інвестыцыйных кампаній. Згодна з паведамленнямі *paidContent.org*, *GodTube* атрымаў 30 млн долараў ЗША ад *GLG Partners*. Прыбыткам ад гэтага ўкладання дзякуючы аперацыям з трафікам стала сума ў 150 млн долараў.

Іншы прыклад «хрысціянскага кланіравання» — вядомая сацыяльная сетка *MySpace*, якая таксама набыла свайго хрысціянскага клона пад назвай *MyChurch*.

*MyChurch* прапануе карыстальнікам арганізаваць уласную «царкву» ў Інтэрнэце або проста пашырыць кола зносінаў праз іншых вэб-хрысціянаў. З моманту адкрыцця ў рамках *MyChurch* было створана больш за 30 000 «цэркваў», у якіх штодзённа здзяйсняюцца вэб-набажэнствы. Колькасць іх удзельнікаў — больш за 230 тысяч зарэгістраваных карыстальнікаў.

Пастыр Царквы Давід Рэндзі Хоекстра адзначыў: «*MyChurch* сапраўды змяніла маю царкву. Бог выкарыстаў *MyChurch,* каб стварыць наша грамадства, і я ўзрушаны гэтым. Мае парафіяне атрымліваюць асалоду ад нашай вэбсупольнасці».

«Я люблю *MyChurch*, таму што яна робіць магчымым для нашых членаў са Шры-Ланкі або Думая ўдзельнічаць у жыцці нашай супольнасці», — сказаў пастар Джым Самэрвіль з Першай баптысцкай царквы Вашынгтона. Самэрвіль цяпер размяшчае свае разважанні на *MyChurch*-старонцы для тых, хто прапусціў нядзельную Імшу, затым абмяркоўвае змест гаміліі з усімі жадаючымі.

Набор паслугаў у *MyChurch* стандартны для сацыяльнай сеткі: можна абменьвацца фотаздымкамі, весці блог або прапаведаваць, арганізоўваць уласныя суполкі («цэрквы»), планаваць сумесныя мерапрыемствы і заводзіць новых сяброў.

*On-line* маркетынг і банерныя прапановы на *MyChurch* спрыяюць эфектыўнаму распаўсюджванню прадукта сярод хрысціянскай аўдыторыі.

Аднак рэклама не з'яўляецца адзіным спосабам утрымання рэсурса. Іншымі крыніцамі фінансавання з'яўляюцца карыстальнікі сеткі. Справа ў тым, што ёсць бясплатны варыянт сэрвіса, які прапануе абмежаваны набор — 10 МБ пад асабісты кантэнт і 70 МБ трафіка на месяц. Калі гэтага мала (а такі варыянт проста бессэнсоўны), то трэба будзе крыху раскашэліцца — ад $12 да $50 у месяц у залежнасці ад умоваў.

Наступны кірунак, таксама паспяхова кланіраваны, — *Wikipedia*, якім сёння карыстаецца 90% студэнтаў на Захадзе. Пастаяннымі карыстальнікамі *Wikipedia* ў адукацыйных мэтах з'яўляюцца 25% студэнтаў. Асаблівую ўвагу яны надаюць нават не самім артыкулам, а крыніцам, бо паводле іх можна падбіраць уласны матэрыял. Амаль трэцяя частка студэнтаў выкарыстоўвае гэтую *on-line*-энцыклапедыю як асноўную крыніцу інфармацыі.

Аднак не ўсім вэб-карыстальнікам *Wikipedia* падаецца няшкоднай: кансерватыўна настроеная частка выкладчыкаў ЗША ацэньвае матэрыялы інтэрактыўнай энцыклапедыі як выключна ліберальныя і антыхрысціянскія. Алею ў агонь дадаў новы праект *Wiki Bible* — стварэнне для ўсіх сусветных рэлігій Бібліі, якая будзе напісана і адрэдагавана сусветнай інтэрнэт-супольнасцю.

У якасці аналага была створана *Conservapedia* — англамоўная, заснаваная на *wiki*-прынцыпах вэб-энцыклапедыя, якая падае амерыкацэнтрычны, хрысціянска-кансерватыўны погляд на розныя навуковыя галіны ведаў. Першым «запаветам» *Conservapedia* з'яўляецца змяшчэнне толькі ісціннай інфармацыі, якая можа быць праверана; рашуча забараняецца капіраванне матэрыялаў з Вікіпедыі. Праект быў распачаты ў 2006 г. адвакатам і выкладчыкам гісторыі Э. Шлефлі, сынам знакамітага кансерватара і заснавальніка аглядальнай праграмы *Eagle Forum* Філісам Шлефлі.

Многія рэдактарскія метады *Conservapedia* адрозніваюцца ад тых жа ў *Wikipedia* — яны з'яўляюцца значна менш ліберальнымі. Напрыклад, толькі зарэгістраваныя карыстальнікі маюць магчымасць уносіць праўкі ў артыкулы. Сам працэс рэдагавання падпарадкоўваецца правілам, вядомым як Запаветы *Conservapedia*, якія кантралююць этычныя і маральныя бакі ўсялякіх зменаў. Апроч таго, некаторыя матэрыялы адкрыта крытыкуюць *Wikipedia* як носьбіта ліберальнай ідэалогіі.

Не дзіўна, што такая пазіцыя выклікае негатыўную рэакцыю з боку многіх інтэрнэт-карыстальнікаў.

Многія артыкулы *Conservapedia* падтрымліваюць крэацыяніcцкі пункт погляду на паходжанне Сусвету і жыцця на Зямлі. Матэрыялы рэсурса настолькі кансерватыўныя, што нярэдка Біблія аўтарамі артыкулаў уяўляецца больш навуковай, чым самі навуковыя знаходкі. Напрыклад, у артыкуле «Кенгуру» сцвярджаецца, што ўсе кенгуру паходзяць ад адной пары жывёлаў гэтага віду, узятай Ноем на каўчэг. Сам Шэлфі каментуе гэты пункт погляду як карэктную альтэрнатыву тэорыі эвалюцыі.

Існуе *Conservapedia* выключна на дабрачыннай аснове. Дарэчы, у Рунэце ёсць падобны праект — «Дрэва», які рэалізуецца як адкрытая праваслаўная энцыклапедыя, дзе пададзена больш за 10 тысяч артыкулаў.

Як ставіцца да падобных «клонаў»? З аднаго боку, яны сведчаць пра няздольнасць стварыць нешта больш арыгінальнае, што сапраўды адпавядала б і формам, і мэтам, якія хрысціяне могуць ставіць перад сабой у прасторы Інтэрнэта. З іншага боку, у такой сітуацыі перайманне аказваецца дапушчальным, аднак толькі пры ўмове, што кланіраваны праект будзе засвоены творча.

Сёння віртуальныя сацыяльныя сеткі — гэта дакладная праекцыя сучаснага грамадства і сацыяльных адносінаў у ім. І тое, як пазіцыянуюць сябе католікі, сведчыць, на жаль, аб адным: мы не толькі страшэнна баімся навакольнага свету, мы не менш баімся і адзін аднаго. Сёння трэба дакладна зразумець, што імкненне вылучыць нейкі асаблівы «каталіцкі сегмент сеткі» і «сагнаць» туды ўсіх веруючых — каб іншым жыць не перашкаджалі — звернута супраць Ксцёла. Гэта менавіта тое, чаго і хоча дабіцца секулярызаванае грамадства, не дапускаючы сведчання пра Хрыста ні ў школе, ні ва універсітэце, ні ў сродках масавай інфармацыі. Лягчэй за ўсё «аслупаваць» тэрыторыю каталіцкім дызайнам, каталіцкімі банерамі, каталіцкімі аватарамі, убачыўшы якія чалавек адразу зразумее: туды яму лепш не заходзіць — варожая тэрыторыя. Куды больш складана данесці асноўныя хрысціянскія праўды на мове, зразумелай і даступнай для любога наведвальніка. Аднак сёння гэтая мова — зусім не мова Пушкіна і Дастаеўскага; больш за тое — гэта ўжо і не мова тэксту, бо Інтэрнэт даўно ўжо не чытаюць, а глядзяць. І калі ўжо сёння, тут, цяпер мы не навучымся транcляваць хрысціянскія праўды ў лёгкаўспрымальным для грамадства фармаце — аудыё, відэа, мультымедыя, у тым ліку і ў камп'ютэрных гульнях — вельмі хутка мы апынемся выкінутымі за борт сучаснай культуры або ў лепшым выпадку станем закансерваваным музейным экспанатам, «хрысціянскім запаведнікам».

Мы не можам сёння дазволіць сабе раскошу жыцця выключна ў рэальным свеце, тым больш, што ён сам па сабе ніколі і не існаваў: любая прастора культуры — гэта прастора віртуальная. У гэтым сэнсе ад наскальнага малюнка пячоры Ласко да трохмерных аватараў у *Second Life* адлегласць куды меншая, чым ад палкі ў руках малпы да крамянёвага нажа краманьёнца. Аднак калі «добрая віртуальнасць» вяртае чалавека да рэальнасці ўжо іншым, з правільнымі або палепшанымі паняццямі і ўяўленнямі, то «дрэнная віртуальнасць» зацягвае і замыкае яго ў сабе. І вялікай розніцы ў тым, што менавіта «віртуалізавала» чалавека — рытуальны танец, тэатр, кніга, фільм або *on-line* гульня, — па сутнасці няма.

**Вучыцца чытаць**

Існуе мноства рэчаў, якія губяць чалавека, у тым ліку і мода. Яна — не вірус і не ядзерны выбух, але яна навязвае чалавеку ўяўленне аб самім сабе. Гэта значыць, ты, напрыклад, ведаеш, што табе да твару, а што не, як трэба выглядаць у той ці іншай сітуацыі, а мода гвалтоўна патрабуе завужваць штаны або насіць клёш, стрыгчыся нагала або заплятаць сотні касічак і г.д. І вось ты ўжо саромеешся свайго натуральнага выгляду, адчуваеш сябе «белай варонай» і робіш нейкія спробы прыладзіцца да пануючага густу. Аднак густ недаўгавечны. Як вецер урагану, некалькі разоў на год новыя модныя плыні змятаюць папярэднія і прымушаюць людзей то пераглядаць бабуліны куфры, то «нацягваць» на сябе штосьці «ультра». Справа зусім не ў вопратцы, а ў тым, што чалавеку прывіваюць уяўленні аб «прыгажосці» па тры разы на год, і ў рэшце рэшт можа аказацца, што само слова «прыгажосць» страціць для яго сэнс.

Такія эксперыменты раней рабілі рэвалюцыйныя ўрады. Яны мянялі назвы дзён тыдня і месяцаў, перасоўвалі каляндарныя даты, прыдумвалі новыя святы. Усе гэтыя нававядзенні імкнуліся «раскачаць» звыклы ўнутраны свет чалавека. Поўны бязглуздзіцы камунізм вярнуўся да нас у выглядзе сучаснага лібералізму. Чалавек усё больш страчвае сваё «я», ім усё лягчэй мо-

гуць кіраваць «кукляводы». Ён хутка згаджаецца, што сёння ўжо прыгожае тое, што ўчора было брыдкае, а тое, што ўчора было глупствам, сёння не пазбаўлена сэнсу. З такіх людзей можна ляпіць, што заўгодна.

А мода бывае рознаю. Ёсць, напрыклад, мода на чытанне. Варта з'явіцца якой-небудзь «раскручанай» кніжцы, як яе да дзірак зачытваюць нават тыя, хто акрамя газет ужо нічога не чытаў з таго часу, калі скончыў школу. Хто сёння не чуў пра «вялікага пісьменніка сучаснасці» Паоло Коэльё? Запытаемся ў сябе, адкуль вырасла вядомасць гэтага чалавека? Няўжо ўсе яго чытачы спакушаныя лацінаамерыканскай літаратурай? Можа, калі б яны чыталі Маркеса або Картасара, то наўрад ці пасля першай кнігі Коэльё прачыталі б другую. А калі яны не чыталі ні Маркеса, ні Картасара, то ў чым веліч Коэльё, які «пераскакаў» усіх лацінаамерыканскіх грандаў? Мода, спадары і спадарыні...

Літаратура, напісаная пра Гары Потэра, пераўзыходзіць, напэўна, тыражы «Гары Потэра». Няўжо гэта сапраўды геніяльна? На маю думку, гэта тая ж мода. Камерцыйны праект. Раскрутка. Чалавеку часам сорамна ў адказ на пытанне «а вы чыталі?» выпасці з сацыяльнага кантэксту, паціснуць плячыма, прамямліць «не». І гэта не што іншае, як самае цяжкае рабства і брыдкая залежнасць мільёнаў людзей ад кімсьці сфармаванай так званай грамадскай думкі.

Ці, напрыклад, кніга «Код да Вінчы», якая нарабіла многа шуму. Спачатку захоплівае, далей пачынаеш разумець, што гэта байка, а ў канцы ўсведамляеш галоўнае: уся кніга — толькі абрамленне для аднаго раздзела, у якім вуснамі прафесара агучваецца антыхрысціянскі і антыцаркоўны пасквіль, фармулююцца асновы «рэлігіі будучыні». Хрыстус нібыта меў жонку і дзяцей, вера ў Яго боскасць нібыта была аўтарытарна зацверджана ідэяй, а Царква стагоддзямі падманвае народ, хоць сама ведае ўсю праўду. Больш за тое, гэта не ўпершыню ўзнікае — ідэі старыя, як гэты свет. Кожная эпоха нараджала сваіх адэптаў і прапаведнікаў. І прыслухоўваюцца да іх людзі неглыбокага розуму, няхай нават і з немалымі ведамі. Гэта нібы фармаванне шырокіх слаёў «тых, хто спачувае» будучаму сусветнаму ладу жыцця, які трэба ствараць на руінах хрысціянства. Выданне такіх кніг вялікімі тыражамі — справа зусім не бяскрыўдная. Гэта — зандзіраванне глебы, індыкатар масавай неўладкаванасці. А вы, напэўна, думалі, што, праглынуўшы бестселер, апынуліся на грэбні сусветнай цывілізацыі? Будзьце ўпэўненыя: першымі з вас пасмяюцца тыя, хто напісаў бестселер.

Пошласць прыйшла, навалілася. А з супрацьяддзем праблемы. Мільёны людзей навучыліся чытаць, але не навучыліся выбіраць, што чытаць. Людзі будуць чытаць кнігі і ў друкаваным, і ў электронным выглядзе, будуць паглынаць музычную і відэапрадукцыю ў велізарных памерах. А гэта значыць, што трэба выхоўваць густ чытачоў і гледачоў, трэба рабіць прышчэпкі ад пошласці рэгулярна і настойліва, як робяць прышчэпкі ад скарлатыны ў дзіцячых паліклініках.

Акрамя новых кніг і фільмаў, якія з'яўляюцца ў наш час, у свеце ёсць мноства «новых» рэчаў, невядомых спажыўцу. Усялякая кніга, якую вы не чыталі, для вас — новая. Усялякі фільм, які вы не бачылі, — новы.

З усяго таго, што трэба чалавеку, галоўнае тое, што чалавеку патрэбны чалавек. Не безаблічнае «мы» і не дыктатура большасці павінны кіраваць намі. Ва ўсім трэба кіравацца асабістымі поглядамі. Не чытайце ў прэс-рэлізах ці рэкламных анонсах пра тое, што варта прачытаць або паглядзець. Лепш спытайце ў чалавека, які ў вашых вачах разумны, правільны, якую апошнюю кнігу ён чытаў. Калі ўжо да нечага прыслухоўвацца, то няхай гэта будзе не безаблічны гул, а выразная мова таго, каго вы лічыце больш дасведчаным.

Постмадэрнізм — дастаткова складаная з'ява. Аднак галоўны яго ўплыў — гэта развіццё рэлятывізму, адсутнасць абсалютнай ісціны, бо ў кожнага яна свая. З аднаго боку, гэта талерантна, аднак з іншага боку, чалавек проста перастае шукаць Ісціну, перастае цікавіцца іншым чалавекам. Нездарма папа Бэнэдыкт XVI увесь час кажа, што галоўны вораг хрысціянства — гэта рэлятывізм і адмаўленне ад розуму. Вынікам гэтага становіцца адмаўленне і ад культуры. Уся еўрапейская культура мае хрысціянскія карані. Ва ўсялякім разе, Каталіцкі Касцёл заўсёды ўбіраў культуры ў сябе. Таму не думаю, што праблема хрысціянскай культуры як нечага адасобленага актуальная. Хрысціянскія песні і хрысціянскія тэлеканалы — гэта лад жыцця і мыслення, ва ўсялякім разе так гэта праяўляецца ў бачным свеце для іншых людзей. Хрысціянская культура, у тым ліку і медыя-культура, — гэта мы, хрысціяне на працы, у школе або з сябрамі. Адсюль яна пачынаецца. І яе не трэба ствараць «зверху».

Пётра Рудкоўскі

# Мова як культурная і этычная праблема

*Перад тым, як Адкрыццё стане рэлігійным Дабравесцем, яно фармуецца на той ці іншай нацыянальнай мове ў канкрэтным культурным кантэксце.*

Патрыяршы Экзарх Усяе Беларусі Філарэт

«У мове і праз мову выражаецца супольная памяць, традыцыя і культура народа. Мова яднае народ, робіць яго маральна моцным і трывалым, нягледзячы на зменлівыя каляіны лёсу. Мова, з'яўляючыся сінтэзам нацыянальных каштоўнасцяў, утварае фундамент тоеснасці нацыі», — гэта ўрывак з пастырскага паслання Епіскапату Польшчы адносна пытання культуры польскай мовы, якое было зачытана альбо вывешана ва ўсіх каталіцкіх святынях Польшчы 17 студзеня бягучага года.

Амаль увадначас — 16 студзеня — споўнілася 20-я гадавіна прыняцця беларускім парламентам (тады яшчэ Вярхоўным Саветам БССР) памятнага «Закону аб мовах». Вось як гучыць пачатак гэтага заканадаўчага акту: «Мова — не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова і найважнейшая частка яго культуры. Жыве мова — жыве народ. Кожная мова, яе літаратурная, жывая мясцовая і гістарычная разнавіднасць — неацэнны скарб, які належыць не аднаму народу, а ўсяму чалавецтву. Гонар і абавязак усіх — шанаваць родную мову, садзейнічаць яе развіццю і росквіту, паважліва ставіцца да моў іншых народаў».

Такое курыязальнае супадзенне падштурхоўвае глянуць на моўную сітуацыю ў Беларусі як на *аб'ект хрысціянскай адказнасці*. У гэтым артыкуле паспрабую раскрыць ядро «моўнай праблемы», паказаць неадназначную ролю Каталіцкага Касцёла ў яе вырашэнні, вызначыць асаблівасці такога стану рэчаў і сфармуляваць некалькі этычных пастулатаў.

### 1. Родная мова як аксіялагічная катэгорыя

Мова не з'яўляецца абсалютнай каштоўнасцю. Нават з перспектывы нацыянальнай ідэі яна не ёсць абсалютам: нацыянальная супольнасць *можа* сфармавацца без наяўнасці сваёй уласнай нацыянальнай мовы. *Мова не ёсць божышчам*, якому можна прынесці ў ахвяру якія-кольвечы каштоўнасці, аналагічна як нацыя *не ёсць* альфай і амегай чалавечага жыцця.

Гэтыя ўступныя канстатацыі неабходныя, каб адпачатна цвяроза і ўраўнаважана глядзець на моўную праблематыку. Пазбягаючы аднаго тыпу «нецвярозасці», варта асцерагацца «нецвярозасці» іншага тыпу: перакананне, што мова — гэта не-каштоўнасць, нешта, што можна — у выпадку патрэбы — прадаць, разменяць альбо проста забыць. Ці чалавек можа жыць без рукі? Так, можа. А без нагі? Без вока? Без вуха? Можа жыць, і людзі, якіх прыкры лёс пазбавіў гэтых частак цела, жывуць, прычым нярэдка беручы ўдзел у грамадскім і культурным жыцці. Аднак гора тым, хто не дбае пра свае рукі, ногі, вочы!

Дбанне пра цэльнасць і здароўе свайго цела абумоўлена інстынктам самазахавання і рэфлексам болю, у сувязі з чым цяжка ўявіць сабе кагосьці, хто абыякава ставіўся б да частак свайго цела і без дай прычыны пазбаўляўся б ад рук, ног, вачэй як ад «неабсалютных» каштоўнасцяў. Інакш дзеецца ў выпадку каштоўнасцяў, якія маюць духоўна-культурны характар. Тут патрэбны своеасаблівы «духоўны інстынкт», які дзейнічае не пры дапамозе фізічнага болю і безумоўных рэфлексаў, а пры дапамозе голасу сумлення, які нярэдка бывае такім ціхім і далікатным, што яго вельмі лёгка не заўважыць альбо, заўважыўшы, зыгнараваць.

Родная мова не ёсць абсалютнай каштоўнасцю, але гэта не значыць, што можна вось так, без этычных дылемаў і са спакойным сумленнем, плюнуць на яе і... жыць як усе. Вось гэтая здрадніцкая дырэктыва «жыць як усе» — аснова маральнай і духоўнай стагнацыі — і ёсць найбольш эфектыўным глушыцелем маральнага імпульсу «будзь верным матчынай мове!» Гэтыя дырэктыва, аднак, не была б такой эфектыўнай, калі б не мела ў сабе часцінкі праўды. Прынцып «жыць як усе» адлюстроўвае грамадскі характар чалавечай прыроды,

---

**Брат Пётра РУДКОЎСКІ ОП** — багаслоў, філосаф. Нарадзіўся ў 1978 г. у мястэчку Канвэлішкі, на Гродзеншчыне. У 2000 г. уступіў у дамініканскі Ордэн. Абараніў магістэрскую дысертацыю па багаслоўі ў дамініканскім калегіуме ў Кракаве і па філасофіі ў Ягелонскім універсітэце. Займаецца сацыяльнай этыкай і метадалогіяй навук, выкладае логіку і метадалогію ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце.

глыбока ўкаранёную патрэбу адаптацыі і быцця больш-менш прадказальным у сваім асяроддзі. Аднак гэтая дырэктыва можа быць — і часцяком бывае — падманлівай. Чалавек — гэта не толькі частка свайго асяроддзя, але і яго *творца*, ён пакліканы не толькі адаптавацца, але і творча ўздзейнічаць на асяроддзе, быць правадніком яго культурных і духоўных каштоўнасцяў. Без гэтага творчага элементу грамадства ператвараецца ў статак, каб не сказаць «быдла», якое нібыта і выяўляе вонкавую салідарнасць, аднак у сваіх больш глыбокіх вымярэннях з'яўляецца агрэгацыяй самотных, атамізаваных адзінак.

Родная мова мае этычную вартасць. Тое, аднак, што чалавек ёсць *грамадскай істотай*, азначае, што дбанне пра мову прадугледжвае фармаванне ў дадзеным соцыуме *кансэнсусу* адносна каштоўнаснага вымярэння мовы. Дзякуючы такому кансэнсусу мова становіцца элементам «культурнага метабалізму» — творчага ўзаемаабмену, духоўнага ўзаемаўзбагачэння, жывой матрыцай для культурных артэфактаў.

### 2. Праблема не ў колькасці

На дадзеным этапе гісторыі праблема з беларускай мовай не ёсць праблемай адсутнасці альбо малалікасці яе носьбітаў. Ведаем, што водле перапісу насельніцтва 1999 года ажно 85,6% беларусаў назвала беларускую мову сваёй роднай мовай, а 41,3% заявілі, што дома зазвычай размаўляюць па-беларуску. А гэта ж амаль 3,4 мільнёны. Да іх трэба дадаць яшчэ 300 тыс. не-беларусаў, якія ў штодзённым побыце ўжываюць беларускую мову, плюс 200—300 тыс. носьбітаў мовы па-за межамі Беларусі. Такім чынам, маем ні многа, ні мала, а добрыя 4 млн *актыўных* носьбітаў мовы, да якіх трэба дадаць яшчэ прынамсі столькі ж *пасіўных* носьбітаў (якія добра разумеюць мову, але не размаўляюць на ёй штодзень). Нават калі браць пад увагу выключна актыўных носьбітаў, то і так карціна атрымліваецца зусім неблагая: сусветная колькасць беларускамоўных не саступае колькасці носьбітаў літоўскай мовы, у два з паловай разы пераўзыходзіць колькасць латышскамоўных, у тры разы — эстонамоўных, у пяць разоў — ірландскамоўных, у дзесяць разоў — мальтыйскамоўных.

І тут выпадае задаць дасціпнае пытанне: калі так добра, то чаму так дрэнна?

Вось жа праблема з беларускай мовай у Беларусі сёння — гэта парадусім праблема кансэнсусу, то бок, салідарнага ўспрымання яе як каштоўнасці. Уявіце сабе, што на планеце П мільярд людзей валодае мовай М. Уявім, што яны не толькі валодаюць, але і любяць гэтую мову. Аднак з-за нейкіх загадкавых прычынаў людзі баяцца паміж сабой размаўляць на гэтай мове, хіба што толькі зрэдку дый то тайком. Ці гэтая мова будзе жыць? Ці будзе развівацца? Адказ, думаю, відавочны: да той пары, пакуль ужыванне мовы М і стаўленне да яе не стане аб'ектам грамадскага кансэнсусу, да той пары яна будзе знаходзіцца пад пагрозай дэградацыі і смерці. І, дадайма: ...а душы тых людзей будуць пад пагрозай збяднення.

Чаму на пачатку XXI ст. становішча беларускай мовы нагадвае становішча на пачатку XX ст.? Існуюць мільёны (тады ? 5,8 млн, цяпер ? 4 млн) актыўных носьбітаў мовы, аднак у публічным жыцці яна мала прыкметная — чаму? Чаму і тады, і сёння беларускамоўныя хаваюцца са сваёй мовай у норы сваіх комплексаў і прыкідваюцца, што не маюць з гэтай мовай нічога агульнага? Чаму інвестуюць шмат часу і энергіі ў тое, каб пазбавіцца «дзекання» і «цекання», а не хочуць нізавошта ўдасканаліць сваё беларускае маўленне, якое нават пасля дзесяцігоддзяў выкаранення застаецца для іх натуральным і звычным? Чаму амерыканскі або шведскі паслы — едучы ў Беларусь усяго на некалькі год — з замілаваннем вывучаюць беларускую мову, а самі беларусы — якія ўсё жыццё жывуць у Беларусі — лічаць для сябе абразай, калі хтось выкрые ў іх беларускі акцэнт?

Адказ тут ужо быў вышэй засугераваны: для таго, каб мова стала сапраўды «грамадскім фактам», наяўнасці і колькасці носьбітаў недастаткова. Недастаткова нават сентыментальнага стаўлення да мовы і самотных уздыхаў тыпу: «добра было б, калі б...» Успрыманне мовы як каштоўнасці павінна перастаць быць самотным актам раз'яднаных, атамізаваных людзей, а стацца публічным выразам сцвярджэння сябе як салідарнай супольнасці свабодных і свядомых сваёй годнасці асобаў. Пераадоленне атамізацыі і ўпублічненне сваёй роднай мовы — гэта два ўзаемазвязаныя і ўзаемна абумоўленчыя працэсы, дзе першы стымулюе другі і наадварот.

### 3. Чатыры міфы ў справе моўнага пытання

Пяць абзацаў наконт патрэбы пераадолення адасобленасці і адчужанасці носьбітаў мовы, думаю, больш чым дастаткова. Пара перайсці да больш важкага і практычнага пытання: якім чынам мае адбыцца перанос мовы са сферы замкнёна-прыватнага ў сферу адкрыта-публічнага? І хто, якія суб'екты павінны адыграць тут ключавую ролю?

Адказваючы на гэта пытанне ці — каб сказаць больш сціпла — шукаючы адказу на пытанне, у першую чаргу трэба развеяць некаторыя міфы, якія лунаюць у паветры і не дазваляюць рэалістычна падысці да справы.

Першы міф: *моўнае пытанне павінен вырашыць народ*. Цікава было б даведацца, а што ў гэтым кантэксце значыць слова «народ»? Ці мог бы хто-небудзь хоць прыблізна апісаць, як выглядае працэс вырашэння *народам* якой-кольвечы справы (не абавязкова моўнай)? Прыхільнікі такой пастаноўкі справы з'яўляюцца несвядомымі закладнікамі пэўнай маўленчай звычкі, а менавіта схільнасці субстантывізаваць і персаніфікаваць прадукты ўяўлення або абстрактнага мыслення. Народ — гэта назва ўяўленага мноства людзей, рэальна альбо ўмоўна аб'яднаных нейкімі рысамі альбо акалічнасцямі. Пра народ як пра суб'ект прыняцця рашэнняў, а тым больш як суб'ект арганізаванага дзеяння можна гаварыць вельмі і вельмі ўмоўна. Ажыццяўленне канкрэтных дзеянняў адбываецца зазвычай праз пасярэдніцтва інстытуцый — сеткі фармалізаваных міжчалавечых стасункаў — якія могуць дзейнічаць ад імя народа або/і ў інтарэсах народа.

Народ жа як суб'ект прыняцця рашэнняў — гэта фікцыя, прадукт чалавечай схільнасці персаніфікаваць прадмет уяўлення, адзін з *idola fori*, як сказаў бы філосаф Бэкан.

Другі міф: *моўнае пытанне павінны вырашыць носьбіты мовы*. У нашым выпадку — беларусы. Што ж, трошкі лепшая пастаноўка справы — маем ужо дачыненне з канкрэтнымі, рэальнымі людзьмі, а не з фікцыйным «народам», — аднак надалей патыхае ад яе ідэалізмам і тым, што англафоны называюць *wishful thinking*. Людзі, узятыя паасобку, бездапаможныя ў прасоўванні тых ці іншых каштоўнасцяў. Мова — гэта ў высокай ступені *рэляцыйная каштоўнасць*, яна прадугледжвае *супольнаснае* яе перажыванне. Можна, вядома, пастанавіць заўсёды і ўсюды, незалежна ад рэакцый і рэплік, ужываць у Беларусі толькі беларускую мову. Аўтар гэтых радкоў менавіта такой практыкі прытрымліваецца (больш або менш паслядоўна) і ведае, што раз на тысячу разоў можа натрапіць на іншага такога ж гарліўца. Балюча і даткліва адчуваецца *дэфіцыт прасторы*, у якой магло б рэалізавацца перажыванне мовы як супольнаснай каштоўнасці. А каб такая прастора сфармавалася, патрэбны па-над-індывідуальныя сілы. Волі і рупнасці асобна ўзятых людзей тут недастаткова.

Трэці міф: *адраджэнне мовы — гэта ў першую чаргу задача дзяржавы*. На першы погляд, гэтая пастаноўка справы найбольш рэалістычная. Вось аргументы, якія прыхільнікі гэтага падыходу маглі б нам падкінуць: а) гэта наймагутнейшы інстытут, прававы суб'ект, які валодае вялікім арсеналам сродкаў прымусу; б) дзейнічае ад імя народа; в) зацікаўлены (альбо павінен быць зацікаўлены) умацаваннем нацыянальнай мовы як фактару, які кансалідуе грамадства.

Гучыць пераканаўча, ці няпраўда ж? Дык чаму я назваў гэты падыход «міфам»?

Так, дзяржава — магутны інстытут. Але якраз у гэтай магутнасці і заключаецца яе слабасць. Установа, схільная да ўжывання (а часам і злоўжывання) сродкаў прымусу не ёсць найлепшым кандыдатам для прасоўвання такой далікатнай каштоўнасці, як родная мова. Так, некаторыя мараць пра рашучую і гвалтоўную беларусізацыю на падабенства паланізацыі ў Другой Рэчы Паспалітай альбо хаця б украінізацыі ў «памаранчавую» эпоху. Варта, аднак, усвядоміць, што *ступень дэградацыі культурнай каштоўнасці наўпрост прапарцыянальная ступені прымусу, які прымяняецца дзеля прасоўвання дадзенай каштоўнасці*. Прымус, асабліва гвалтоўны прымус, абясцэньвае і кампраметуе каштоўнасці. Гэта першая прычына, дзеля якой я «бокам гляджу» на дзяржаву як на галоўнага рэжысёра ў розыгрышы моўнага пытання.

Адносна дзяржавы трэба сказаць яшчэ адно. Дзяржава — гэта ў вялікай ступені прагматычны інстытут. Дзяржаўная ўлада рэдка ангажуецца ў падтрымку каштоўнасцяў, прасоўванне якіх не прыносіць раптоўных палітычных дывідэндаў. І тут гаворка йдзе не толькі пра беларускую дзяржаву, а пра спецыфіку дзяржаўнай улады ўвогуле. Можна, вядома ж, нюансаваць гэтую справу, паказваць «непрагматычныя» аспекты дзейнасці тых ці іншых дзяржаўных уладаў, але дазволю сабе не засяроджвацца на нюансах. Карацей кажучы, дзяржава — занадта прагматычны суб'ект, каб заняўся прасоўваннем беларускасці, а беларускасць — занадта «непрагматычная» каштоўнасць, каб прымушаць дзяржаву клапаціцца пра сябе.

Што атрымліваецца? Паасобныя людзі занадта слабыя, каб фармаваць прастору беларускамоўнай камунікацыі, дзяржава ж — занадта магутная, каб займацца гэтым фармаваннем без рызыкі гвалту. Дык якія тады суб'екты могуць уваходзіць у рахубу?

Найперш трэба выразна падкрэсліць, што фармаванне згаданай прасторы — гэта перадусім *педагагічны* працэс. Гаворка йдзе пра педагогію сакратаўскага тыпу: педагогію-акушэрства, маеўтыку, якая скіраваная на тое, каб дапамагчы чалавеку знайсці ў сабе дадзеную каштоўнасць і развіваць яе. Пры дапамозе слова і дзеяння дапамагчы палюбіць сябе *як беларуса*, пачаць ганарыцца гэтым і ўзяць творчую адказнасць за сваю беларускасць.

І тут бачацца тры ячэйкі, якія ў цесным узаемадзеянні могуць выконваць выхаваўча-акушэрскую функцыю: сям'я, школа і... Касцёл/Царква. Безумоўна, існуюць яшчэ і шматлікія грамадска-культурныя арганізацыі (напр., Таварыства беларускай мовы, рознага роду мастацкія, літаратурныя, артыстычныя і іншыя ініцыятывы), якія, разам узятыя, утвараюць — перафразуючы Акудовіча — «архіпелаг беларускамоўя». Аднак — застаючыся пры гэтым даволі трапным вобразе — менавіта сям'я, школа і Касцёл/Царква маглі б стварыць злучальныя каналы, правесці камунікацыйныя артэрыі паміж асяродкамі архіпелагу. Але галоўнае, што гэтыя тры ўстановы з'яўляюцца найбольш натуральнымі і традыцыйнымі *выхаваўчымі* ўстановамі.

Гаворачы гэта, амаль эмпірычна спазнаю на сабе ўздзеянне яшчэ аднаго — чацвёртага — міфу: *Моўнае пытанне не належыць кампетэнцыі Касцёла (Царквы)*. Варта адзначыць, што ў гэтым міфе, як нярэдка бывае і з іншымі міфамі, ёсць нейкая доля праўды. Доля праўды прысутнічае ў ім настолькі, наколькі ён павязаны з праўдзівым сцвярджаннем, што *першапачатковай місіяй Касцёла (Царквы) ёсць прапаведаванне Евангелля і набліжэнне чалавека да Бога*. Таму, калі хтось кажа, што «моўная місія» не ёсць галоўнай задачай Касцёла/Царквы, то ён кажа праўду. Але калі хтось з гэтага сцверджання выводзіць, што евангелічная місія выключае моўна-культурную місію, то ён займаецца міфатворствам. Паміж евангелічнай і моўна-культурнай місіяй няма спрэчнасці, а хутчэй наадварот: першая, адпаведным чынам разуметая, прадугледжвае другую. У якім сэнсе прадугледжвае? — гэтаму пытанню, думаю, трэба прысвяціць асобны раздзел.

*Заканчэнне ў наступным нумары.*



Абраз «Сабор Архістратыга Міхала»
з Міхайлаўскай царквы ў в. Рубель Столінскага р-на.

Тамара Габрусь

# Вестуны Пана Бога

## Іканаграфія хораў анёльскіх у беларускім сакральным жывапісе XVI–XVIII стст.

Адным з найбольш істотных творчых дасягненняў хрысціянскага выяўленчага мастацтва з'яўляецца духоўнае асэнсаванне і рэалізацыя вобраза анёла. Паводле Старога Запавету, анёлы вызначаюцца як вестуны Пана Бога, створаныя Ім разам з Небам раней за матэрыяльны свет. Паводле прарока Даніэля, іх мільёны («дзесяць тысяч дзесяткаў тысяч»). Анёлы прызначаны для служэння Богу і выконваюць гэтае служэнне з вялікай радасцю, але па сваёй прыродзе яны не беззаганныя і, маючы свабодную волю, могуць адпасці ад Бога і ператварыцца ў злых духаў[1]. Анёлы з'яўляюцца бесцялеснымі істотамі, але па волі Божай яны могуць надаваць свайму эфірнаму целу антрапаморфнае аблічча пры кантакце з прарокамі і святымі, і менавіта гэта выклікала неадназначнасць у кантэксце стварэння іконаграфічнага вобраза анёла ў хрысціянскім мастацтве.

Акрамя передачы добрай весткі ад Бога, анёлы прызначаны таксама абараняць тых, хто вядзе праведнае жыццё, суправаджаць іх у іншы свет, аддзяляць добрых ад злых падчас Страшнага Суда. У кожнага чалавека і нават народа ёсць свой анёл-ахоўнік. Каб выконваць шматлікія абавязкі, анёлы павінны імгненна перамяшчацца ў прасторы. Яны не ўсюдыісныя, як Бог, але для іх няма ніякіх перашкодаў. На сучаснай мове мы б назвалі іх спосаб перамяшчэння ў прасторы тэлепартацыяй. У раннехрысціянскай іканаграфіі гэтае пытанне было вырашана з дапамогаю крылаў, што адпавядала свядомасці тагачасных людзей, іх разуменню аэрадынамікі толькі як птушынага палёту. Да таго ж гэты мастацкі прыём дазваляў дакладна размежаваць у кампазіцыі твора анёлаў і смяротных людзей. У іканапісным мастацтве крылы анёлаў маюць самае разнастайнае значэнне: знакавае, сімвалічнае, кампазіцыйнае, ствараюць пэўны настрой твора: трыумфу, радасці, трывогі, смутку. Гэтае багацце духоўных сэнсаў і адценняў пачуццяў шырока выкарыстоўвалася для сакралізацыі твора і адлюстраванага на ім дзеяння, што знайшло яскравае ўвасабленне ў разнастайных сюжэтах праваслаўных, уніяц-

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кнігі «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001). Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.

кіх і каталіцкіх абразоў Беларусі XVI–XVIII стст.

Старазапаветнае вучэнне пра анёлаў было цалкам прынята раннім хрысціянствам і ў далейшым не стала повадам для істотных дагматычных дыскусій. У творы «Аб нябеснай іерархіі», які прыпісваецца св. Дыянісію Арэапагіту і датуецца, як і яго жыццё, ад I да V ст. н.э., увесь сонм анёльскі падзяляецца на тры трыяды, кожная з якіх, у сваю чаргу, падзяляецца на тры адметныя «лікі», чыны ці хоры (гэтае паняцце ўжываецца ў розных варыянтах у залежнасці ад колькасці, аблічча, іерархічнай ступені, функцый анёлаў). У першую трыяду ўваходзяць *серафімы, херубімы, прастолы,* у другую — *гасподствы, сілы* і *ўлады*, у трэцюю — *пачаткі, арханёлы і анёлы*. Суадносіны гэтых іерархічных ступеняў у кантэксце анёлалогіі не высветленыя, хаця сцвярджаецца і прызнана яшчэ Канстанцінопальскім Саборам (653 г.), што чыны анёльскія адрозніваюцца па сваёй прыродзе, прызначэнню і духоўнай моцы. Па дадзенай класіфікацыі арханёлы адносяцца да 8-й ступені чыноў анёльскіх, але ў той жа час арханёл Міхал («хто як Бог») узначальвае ўвесь «анёльскі сабор», іх «адвечнае воінства». Можна меркаваць, што чыны анёльскія вызначаюцца не па старшынстве, а па тых служэннях, якія яны выконваюць, і набліжанасці ў адпаведнасці з гэтым да Бога альбо да людзей.

Калі разглядаць пытанне чыноў анёльскіх у кантэксце сакральнага выяўленчага мастацтва, з пункту гледжання сярэднявечных мастакоў, відавочна, што анёлы першых дзвюх іерархій размяшчаліся на абразах бліжэй да Бога, у нябесных сферах, і ўключаліся ў іконаграфічны строй пераважна як пазасюжэтныя кампаненты, для перадачы эмоцый Усявышняга і ўхвалення Яго дзеянняў. Іх выявы ў большасці маюць антрапаморфныя твары, агорнутыя крыламі — ад двух да шасці. Менавіта шасцікрылыя вогненныя серафімы (ад габр. — *палымнеючыя*) маюць найбольш распрацаваны іконаграфічны вобраз, з узнятымі ўгору двума перакрыжаванымі крыламі, звычайна чырвонымі, нібы водблескі полымя. Два другія крылы звычайна распрасцёртыя ў розныя бакі па гарызанталі, а яшчэ адна пара крылаў можа быць прадстаўлена сіметрычна першай ці сціпла складзенай спераду, у залежнасці ад кампазіцыі твора. Серафімы вызначаюцца палымянай адданасцю Богу і нясуць Яго святло, яны здольныя разагнаць цемру граху.



Абраз «Успенне Маці Божай» з Спаса-Праабражэнскай царквы ў в. Олтуш Маларыцкага р-на.

Вобраз серафіма з'яўляецца важным кампазіцыйным складнікам іконаграфічнага сюжэта «Успенне Маці Божай», што можна назіраць ва уніяцкіх абразах з Праабражэнскай царквы (1650 г.) у вёсцы Олтуш Маларыцкага р-на, Мікалаеўскай царквы (канец XVII ст.) у Крычаве і Іллінскай царквы (1730-я гг.) у Бешанковічах[2]. Усе яны маюць стылёвыя прыкметы беларускага барока на розных этапах яго эвалюцыі. Будова кампазіцыі гэтых абразоў амаль аднолькавая. Развіццё сюжэта адбываецца па вертыкальнай восі сіметрыі. У ніжняй частцы кампазіцыі адлюстраваная Багародзіца на смяротным ложы, над ёю выява Хрыста ў атачэнні нябеснай сферы, са спавітай душой сваёй Маці ў руках. Над нябеснай сферай, якую падтрымліваюць два анёлы антрапаморфнага характару, знаходзіцца даволі значная па памерах выява серафіма, а яшчэ вышэй у розных варыянтах — Бог Айцец, анёлы і святыя Апосталы ў аблоках, якія радасна сустракаюць душу Божай Маці на нябёсах. Па баках цэнтра кампазіцыі на фоне архітэктурнага стафажа сіметрычна размешчаны жывыя Апосталы, якія смуткуюць па Маці Божай. У самым нізе кампазіцыі, на фоне пасцілкі ці дывана савана, звычайна прадстаўлена апакрыфічнае паданне пра тое, як непачцівы юдэй хацеў перавярнуць смяротнае ложа Багародзіцы, за што анёл караючым мячом адсёк яму рукі.

У найбольш раннім абразе маларыцкага майстра (з вёскі Олтуш) яскрава назіраецца сінтэз featuresрознабаковых уплываў: поствізантыйскага і італьянскага эпохі Рэнесанса, што было характэрна для беларускай культуры з пачатку XVI ст. Першы назіраецца ў статычным рытме фігураў Апосталаў і аблокаў на нябёсах, трактаваных накшталт чоўнаў, а таксама ў малюнку дывана. У архітэктурным стафажы, наадварот,

відавочныя рысы італьянскага рэнесансу: класічны карынфскі ордэр, багата дэкараваныя атыкі і паўцыркульныя аркі. Але адначасова ў крыху няўмелай спробе перадаць перспектыву, формах вежаў і франтонаў жылых дамоў адчуваецца традыцыйнае мясцовае бачанне архітэктуры з элементамі паўночнага рэнесансу. Зусім адметна тут выканана выява серафіма на залатым фоне: ён пазбаўлены антрапаморфнага твару, а яго крылы маюць цёмна-вохрысты колер, таму ўся выява нагадвае сонца ў атачэнні жалобных пратуберанцаў, што стварае адпаведны эмацыйны настрой абраза: нібы само сонца смуктуе па Божай Маці і адначасова радуецца за Яе.



Абраз «Успенне Маці Божай» з Мікалаеўскай царквы ў Крычаве.

Абраз «Успенне Маці Божай» з Мікалаеўскай царквы ў Крычаве мае больш выразныя прыкметы сталага беларускага барока, так званага сармацкага. У гістарычных сярэдневяковых хроніках Еўрапейскай Сарматыяй звалі тэрыторыю ад Віслы да Дона[3]. Відавочна, што ў яе цалкам уваходзіла тэрыторыя сучаснай Беларусі. Для сармацкага барока характэрны асаблівы пранікнёны рэлігійны настрой, мясцовы каларыт і саслоўная знакавасць літаральна ва ўсіх відах мастацтва. Каларыстычны лад крычаўскага абраза пабудаваны на выразным спалучэнні асноўных колераў па законах геральдыкі: залаціста-вохрыстага з белым і чырвонага з сінім. Анёлаў і Апосталаў у нябесных сферах у гэтым абразе няма, таму больш важнае кампазіцыйнае значэнне мае вогненны серафім на залатым арнаментаваным фоне, які ў захапленні і радасці нібыта пляскае ўзнятымі ўгору крыламі і трапеча прасцёртымі бакавымі крыламі. Раней невялікая група Апосталаў тут пераўтворана ў бязлікі натоўп, што сімвалізуе перамогу хрысціянства. Мясцовы каларыт абразу надаюць рэалістычны тыпаж Апосталаў, арнаментаваная кветкамі посцілка савана і архітэктурны стафаж, які мае рысы беларускага рэнесансу і барока. Гэта, у першую чаргу, дэкаратыўна-абарончыя атыкі з плоскімі арачнымі нішамі, якія меліся ў той час у манументальных палацава-замкавых ансамблях Вільні, Гродна, Ляхавічаў і іншых гарадоў Вялікага Княства Літоўскага, а таксама сакральныя высотныя дамінанты — шмат’ярусныя пуката-ўвагнутыя барочныя купалы-«бані» (ад лац. *baneum* — посуд для рытуальнага амавення) і старажытныя крапасныя вежы з пірамідальнымі шатрамі-«каўпакамі». Новазапаветны багародзічны сюжэт непасрэдна пераносіцца іканапісцам у рэаліі свайго часу.

Абраз «Успенне Маці Божай» з Іллінскай царквы ў Бешанковічах датуецца 1730-мі гадамі і ўжо мае стылёвыя прыкметы позняга барока, характэрнага для мастацтва гэтага часу. У ім узрастае дынаміка кампазіцыі, асабліва ў верхняй, нябеснай частцы, якая насычана шматлікімі анёламі і кучавымі аблокамі, што амаль закрываюць умоўна рэалістычны архітэктурны стафаж. Хаця каларыстыка абраза складаецца ўсё з тых жа асноўных колераў, тут у ёй дамінуюць залаты і белы колеры, з’яўляюцца невялікія ўкрапленні пяшчотнага светла-зялёнага, што надае твору асабліва вытанчаны характар. Белы саван Багародзіцы аздоблены белым карункавым падзорам. Спалучэнне белага з белым і золатам характэрна для эстэтыкі ракако. У той жа колеравай гаме і стылістыцы выканана выява серафіма з прыгожым анёльскім тварам і залатымі валасамі, што распрасцёр белыя крылы над зямной сферай.

Этымалогія назвы «херубім» ў анёлалогіі не вызначана, але прызначэнне гэтага анёльскага чына — быць сакральнай калясніцай Усявышняга і ахоўваць шлях да Дрэва Жыцця. Лічыцца, што першыя тэраталагічныя выявы херубімаў маюць усходняе ірана-персідскае паходжанне. Водгукам усходніх культураў з’яўляецца крылаты леў (сімвал евангеліста Марка). У адрозненне ад серафімаў, херубімы часам маюць чатыры крылы. Іканаграфія наступных чыноў анёльскіх (прастолаў, гасподстваў, сілаў, уладаў і пачаткаў) не вызначана для кожнага з іх. Магчыма, яны аб’яднаны агульнай іканаграфіяй у выглядзе двухкрылых антрапаморфных галовак, што прысутнічаюць у вялікай колькасці ў многіх іканапісных сюжэтах. Іх набліжанасць да Усявышняга наіўна і выразна адлюстраваная ў інсітным абразе «Бог Айцец» канца XVIII ст. з царквы св. Аляксан-

дра Неўскага з вёскі Стрэльна Іванаўскага р-на. Бог-Саваоф з трохвугольным німбам, дзяржавай і скіпетрам у левай руцэ правай благаслаўляе вернікаў[4]. Яго трон пастаўлены на ярка-чырвонай посцілцы і шчыльна абкружаны па перыметры шматлікімі двухкрылымі галоўкамі анёлаў. Яны ж прысутнічаюць звычайна ў сюжэце «Новазапаветнай Тройцы», напрыклад, у абразе 1790 г. з Прачысценскай царквы вёскі Чарняны Маларыцкага р-на[5].

Найбольш набліжаныя да людзей і актыўна прымаюць удзел у іх старазапаветнай і новазапаветнай гісторыі анёлы і арханёлы. Раннехрысціянская іканаграфія мусіла дадаць да вербальнага зместу Старога Запавету рэалістычны візуальны антрапаморфны вобраз анёла. У III–IV стст. н.э., на самых першых выявах у хрысціянскіх катакомбах, анёлы паказаны ў выглядзе бяскрылых юнакоў, апранутых у рымскае адзенне — доўгія тунікі-далмацікі і плашчы-паліумы (рымскі адпаведнік грэчаскага гімацыя). Падобныя бяскрылыя анёлы прадстаўлены ў мазаіцы «Гасціннасць Абрагама» ў саборы Сан-Вітале ў Равэне (гэты сюжэт пазней вызначаецца як «Старазапаветная Тройца»). Іканаграфія антрапаморфных анёлаў з крыламі ўзыходзіць да антычных правобразаў крылатых геніяў і герояў (Гермес, Амур, Персей). Упершыню крылаты антраморфны анёл быў адлюстраваны ў мазаіцы конхі апсіды рымскай базылікі Санта-Пудэнцыяна ў канцы IV ст. як сімвал евангеліста Мацвея, затым, пачынаючы з V ст., у розных відах выяўленчага мастацтва анёлаў сталі паказваць як крылатых андрагінных істотаў, з німбамі, апранутымі ў далмацікі і паліумы, у лёгкіх рымскіх сандаліях.



Абраз «Успенне Маці Божай» з Іллінскай царквы ў Бешанковічах.

Шанаванне анёлаў увайшло ў практыку хрысціянства з самага пачатку, але канчаткова яно сцвердзілася толькі пасля Другога Нікейскага альбо Сёмага Сусветнага Сабору (787 г.), ініцыяванага візантыйскай імператрыцай Ірынай, на якім быў дадзены адпор іканаборству. Ва Усходняй Рымскай імперыі ў гэты час пашыраюцца выявы анёлаў, апранутых у адзенне прыдворных візантыйскага імператарскага двара — парчовыя далмацікі, упрыгожаныя перламі і каштоўнымі камянямі. У лацінскай традыцыі анёлы былі апранутыя як рымскія дыяканы, у белыя далмацікі, дапоўненыя клавамі — вертыкальнымі чырвонымі паласамі, што сімвалізавалі Пакуты Хрыста, з каймой. Іканаграфія анёлаў суправаджаецца шэрагам атрыбутаў, сярод якіх: так званыя *слухі* — свабодныя канцы галаўных павязак-торакаў, каб чуць волю Божую, *лабарумы* — штандары з сімвалам Хрыста, *зярцалы* — празрыстыя сферы, з дапамогай якіх праз адлюстраванне анёлы глядзяць на Бога-Саваофа. Да таго ж у руках яны могуць мець царскія жэзлы, посахі, скруткі, стужкі з сакральнымі тэкстамі, вянцы, факелы, прылады жарсцяў, мярылы, трубы, медальёны з выявай Хрыста-Эммануэля і інш. Напрыклад, у абразах «Маці Божая Бялыніцкая» сярэдзіны XVII ст. з вёскі Сноў Нясвіжскага р-на, «Маці Божая са св. Францішкам Асізскім і Бэрнардам Сіенскім» (т. зв. «Мадонна Сапегаў») і «Маці Божае Замілаванне» з Успенскай царквы г. Століна (абодва сярэдзіны XVIII ст.)[6] анёлы трымаюць над амафорам Багародзіцы кароны — сярэдневяковы сімвал святасці, мастацкія характарыстыкі якіх дазваляюць больш дакладна акрэсліць час стварэння абразоў.

Інтэрпрэтацыя вобраза анёла мянялася ў залежнасці ад філасофска-эстэтычнага «клімату эпохі», пануючых мастацкіх стыляў. У познім Сярэднявеччы (XIII–XV стст.) пашырыліся выявы анёлаў у манаскай вопратцы (пазней яны сустракаюцца толькі ў іконаграфічнай кампазіцыі «Страшны Суд») і ў рыцарскіх даспехах (апошняе найчасцей тычыцца выявы арханёла Міхала, вобраз якога як кіраўніка нябеснага воінства ў іканаграфіі анёлаў найбольш сацыяльна адаптаваны). Сакральнае мастацтва Новага часу захавала метафізічны андрагінны вобраз анёла, аднак пашырыла спектр яго тыпалагічных, кампазіцыйных і каларыстычных варыянтаў. З узмацненнем свецкага гуманістычнага пачатку і арыентацыяй на ўзоры антычнасці ў эпоху Адраджэння ў розных жанрах мастацтва атрымаў распаўсюджанне вобраз анёла ў выглядзе аголенага дзіцяці з крылцамі, так званага *пуцці*, якія ў хрысціянстве

сімвалізуе беззаганнасць дзяцінства, але мае, па сутнасці, міфалагічны алегарычны кантэкст. Асабліва шырока вобраз анёла-пуцці пачаў выкарыстоўвацца ў пышнай скульптурнай пластыцы ў тэхніцы стука (штучнага мармуру), якой багата аздабляліся інтэр'еры каталіцкіх касцёлаў эпохі Барока ва ўсёй Еўропе. Адпаведна вобраз анёла-пуцці пашырыўся і ў тагачасным беларускім сакральным жывапісе. Напрыклад, на абразе «Маці Божая з Дзіцем» 1-й паловы XVIII ст. з касцёла Яна Хрысціцеля ў вёсцы Правыя Масты Мастоўскага р-на і на уніяцкім абразе «Маці Божая Замілаванне» са Століна[7] карону над Багародзіцай падтрымліваюць анёлы-пуцці, што сведчыць пра ўплыў тагачаснай стуккавай пластыкі каталіцкіх касцёлаў. Пуцці прысутнічаюць у рознасюжэтных абразах хрысталагічнага цыклу розных канфесій, напрыклад, у абразах «Нараджэнне Хрыстова» з праваслаўнага Баркалабаўскага манастыра Быхаўскага р-на, «Звеставанне» і «Святая Сям'я» з касцёлаў Гродзенскага р-на (усе XVIII ст.)[8]. Абраз «Маці Божая Снежная» 2-й паловы XVIII ст. з капліцы ў в. Боўгары Пінскага р-на, які паходзіць з пінскага кляштара даміканцаў[9], мае прыкметы стылю ракако. На ім прадстаўлены ўкленчаныя анёлы-пуцці, якія працягваюць Багародзіцы палымнеючыя сэрцы вернікаў. Тая ж ідэя адлюстраваная ў абразе «Святы Аўгустын» XVIII ст. з г. Слоніма (?)[10] — вялікі тэолаг трымае ў руцэ палымнеючае сэрца, перададзенае яму анёлкам-пуццем.



Абраз «Бог Айцец»
з царквы Аляксандра Неўскага
ў в. Стрэльна Іванаўскага р-на.

Духоўны свет эпохі Барока, які спалучаў геданістычны эмацыянальны пачатак з глыбокім рэлігійным пачуццём, яскрава адлюстраваны ў абразе «Багародзіца з хорам анёлаў» пачатку XVIII ст. з Петрапаўлаўскай царквы ў в. Гарадзішча Камянецкага р-на[11]. У цэнтры кампазіцыі прадстаўлена Маці Божая, якая гуляе з Дзіцяткам Хрыстом, што ляжыць у яе на каленях. Вакол Яе ў тры ярусы размешчаны крылатыя анёлы, якія спяваюць па нотах, граюць на віяланчэлі, арфе, флейце, кларнеце і іншых музычных інструментах. Над гэтай ідылічнай карцінай у залатым ззянні, што пранізвае аблокі, Бог Айцец з узнятымі рукамі, нібыта дырыжор, кіруе хорам анёлаў. У часы барока ў арыстакратычным асяроддзі былі надзвычай пашыраны прыдворныя аркестры — такім чынам атмасфера абраза набліжае евангельскае паданне да сучаснага яму грамадства.

Радасць духоўнага служэння Богу, аскезы адлюстраваная ў абразе «Святы Ануфрый у пустыні» (1750-я гг., мастак Тамаш Міхальскі)[12] праз вобраз анёла, які насычае пустэльніка Божымі дарамі. У цэнтры кампазіцыі — укленчаны святы Ануфрый з надзвычай доўгімі валасамі і барадой, перад якім на воблаку стаіць крылаты анёл з радасным тварам і корміць яго лыжачкай са святой чашы. За гэтым дзеяннем назіраюць Бог Айцец і Сын Божы, што сядзяць на воблаках у правым верхнім вуглу гэтай самабытнай іканаграфічнай кампазіцыі з яскравымі рысамі інсітнага мастацтва.

Арханёлы ў сваім служэнні ажыццяўляюць нябачнае кіраўніцтва духоўным светам, ахоўваюць яго адзінства і гармонію, адкрываюць людзям Божы замысел. Старажытныя юдэйскія паданні суадносяць арханёлаў з нябеснымі свяціламі, планетамі, у тым ліку і з Месяцам, са стыхійнымі і звышстыхійнымі з'явамі. Паводле Кнігі Енаха, існуе сем арханёлаў: *Урыіл*, які валадарыць над нябеснымі свяціламі; *Рагуіл*, які ажыццяўляе пакаранне над імі; *Рафал*, уладар чалавечых думак; *Міхал*, кіраўнік нябеснага воінства; *Сарыіл*, кіраўнік над духамі, якія спакушаюць людзей; *Габрыэль*, ахоўнік раю і духаў, што дапамагаюць людзям; *Ерахміл*, які назірае за ўваскрашэннем памерлых[13]. Існуе меркаванне, што дадзеная класіфікацыя арханёлаў з'яўляецца водгукам касмаганічных уяўленняў старажытных персаў і вавілонцаў. У хрысціянскай анёлалогіі кананічнымі лічацца толькі арханёлы Міхал і Габрыэль. Астатнія імёны арханёлаў вядомыя паводле старазапаветнага падання і некананічных пісьмовых крыніцаў.

Паводле Бібліі, арханёл Міхал лічыўся апекуном ізраільскага народа, пазней — усіх хрысціянскіх народаў, асабліва ён шанаваўся як нябесны апякун Вялікага Княства Літоўскага, што знайшло адлюстраванне ў пашыранасці і разнастайнасці яго іканаграфіі. Невыпадкова пераваж-



Абраз «Маці Божая Бялыніцкая» сярэдзіны XVII ст. з в. Сноў Нясвіжскага р-на.



Абраз «Маці Божая з Дзіцем» з касцёла Яна Хрысціцеля ў в. Правыя Масты Мастоўскага р-на.



Абраз «Маці Божая Замілаванне» са Століна.

ная большасць храмаў усіх канфесій на Беларусі асвячоная ў гонар арханёла Міхала, а яго выява з'яўляецца адным з улюбёных іконаграфічных сюжэтаў, дзе арханёл прадстаўлены амаль пакаленна, з мячом у правай руцэ і магутнымі крыламі, прыўзнятымі за плячамі вакол німба. Варыянты гэтага сюжэта прадстаўлены абразамі з белагрудскага касцёла св. Міхала на Лідчыне, Мікалаеўскай царквы г. Маларыта і Спаса-Праабражэнскай царквы ў вёсцы Олтуш Маларыцкага р-на (два апошнія 2-й паловы XVII ст.)[14], з царквы Параскевы Пятніцы ў вёсцы Альшаны (2-й паловы XVII ст.) і Юр'еўскай царквы ў вёсцы Лядзец Столінскага р-на, царквы святых Казьмы і Дзям'яна з вёскі Гарадок Глускага р-на (два апошнія сярэдзіны XVIII ст.)[15]. Каларыстычная гама абразоў і адзенне арханёла вар'іруецца ў залежнасці ад эстэтычнай канцэпцыі свайго часу, мастацкай задумы і прафесійнасці іканапісцаў.

Алтарная карціна з Міхайлаўскага касцёла дамініканцаў у Наваградку датуецца 1640-мі гадамі[16]. На ёй у ззянні Божага Святла прадстаўлены арханёл Міхал, які перамагае Зло. Кампазіцыя карціны, напісанай алеем, надзвычай дынамічная, насычаная глыбокай сакральнай семантыкай. Фігура арханёла апранута ў незвычайную сярэбраную шату, што складаюць багата дэкараванае кветкавым арнаментам адзенне, галаўны ўбор з плюмажам, крылы, меч і аголеныя босыя ногі, якія папіраюць д'ябла. У стылістыцы алтарнай карціны выразна спалучаюцца рысы высокага мастацтва барока з этнічным эстэтычным пачуццём.

Найбольш яскрава і таленавіта рысы нізавога барока выяўлены ў цудоўным абразе «Нараджэнне Хрыстова» так званага латыгаўскага майстра, дакладна датаваным 1746 годам[17]. Выява арханёла Міхала ў гэтым сюжэце з'яўляецца нekананічным аўтарскім прыёмам, але пры гэтым ёй адведзена амаль чвэрць кампазіцыі. Правую яе палову займаюць фігуры Маці Божай і св. Юзафа, прадстаўленыя ў поўны рост і ў буйным маштабе на фоне хлява, пакрытага саломай. Перад імі — спавітае Дзіцятка з німбам у ззянні Спаса-Праабражэння. Злева ад Яго прадстаўлены тры каралі з падарункамі, а над імі — на цёмным воблаку, што нібыта робіць яго нябачным для ўсіх, арханёл Міхал у рыцарскіх даспехах, з мячом і распрасцёртымі крыламі, які асвятляе радасную падзею Бэтлеемскай зоркай. Вогненна-чырвоныя плашчы на Маці Божай і арханёлу Міхалу арнаментаваныя залатымі шасціканцовымі зоркамі, сімвалізуючымі гармонію Сусвету, што адносіць іх да найвышэйшай нябеснай іерархіі. Крыху наіўная трактоўка сюжэта з ролевай акцэнтацыяй, выяўленай у рознамаштабнасці персанажаў, тым не менш вельмі даходліва даводзіць простаму верніку глыбокую семантыку гэтай сакральнай падзеі.

Іерархія нябесных сфераў самабытна адлюстраваная тым жа латыгаўскім майстрам на крыху больш раннім абразе «Узнясенне прарока Іллі» 1744 года[18]. У ніжняй частцы кампазіцыі на фоне барвова-чырвонай навальнічнай хмары прадстаўлена калясніца з прарокам Іллёй. Каля яго ног укленчаны праведнік (надпіс — св. Аляксей), які моліць аб дажджы. У хрысціянстве прарок Ілля з'яўляецца трансфармацыяй галоўнага ўсходнеславянскага язычніцкага боства

Перуна, уладара маланкі і грому. Характэрна, што на абразе калясніцай прарока кіруе не ён сам, а арханёл Міхал з узнятым ўгору мячом і распрасцёртымі крыламі, размешчаны ў верхняй правай частцы кампазіцыі. Злева, крыху вышэй за арханёла, за кучавым воблакам схаваны нябачны Бог Айцец з чатырохвугольным німбам (сімвалам Першатворцы Сусвету), з дзяржавай у левай руцэ і благаслаўляючай правай рукой. Такім чынам дыдактычна паказана вяршэнства веры ў Адзінага Бога над запозненымі язычніцкімі пантэістычнымі вераваннямі.

Сюжэт абразоў з выявай хораў анёльскіх звычайна завецца «Саборам Архістратыга Міхала», хаця ў ім парытэтна, нароўні, выступаюць арханёлы Міхал і Габрыэль, што вымагае двухбаковай (білатэральнай) сіметрыі кампазіцыі. У цэнтры яе знаходзіцца выява Хрыста-Эммануэля ў круглым медальёне, ахопленым ззяннем, што нагадвае нябеснае свяціла. Вышэй і ніжэй за яго па восі кампазіцыі размешчаны шасцікрылыя серафімы, а па баках арханёлы Міхал і Габрыэль, за якімі выступае сонм анёльскі. Выдатным прыкладам абраза з гэтым сюжэтам з'яўляецца твор столінскага майстра, выяўлены ва уніяцкай Міхайлаўскай царкве ў вёсцы Рубель (датаваны 2-й паловай XVII ст.)[19]. Абраз мае характэрны для таго часу разьбяны па ляўкасе залаты фон з буйным раслінным арнаментам. Аснову каларыстыкі твора складае геральдычнае спалучэнне белага і вохрыстага (залатога), чырвонага і сіняга колераў, уласцівае сармацкаму барока. Кожны з гэтых лакальных колераў выконвае знакавую ролю, а іх адценні надаюць тэмпернаму жывапісу лёгкую святлаценевую мадэліроўку. Характэрна, што на гэтым абразе арханёлы Міхал і Габрыэль прадстаўлены амаль аднолькава: у сініх далмацыках і кароткіх белых туніках. Арханёла Міхала вылучае не вайсковая экіпіроўка, меч і даспехі, а вогненныя крылы, якія кантрастуюць з белым паліумам. Арханёл Габрыэль мае чырвоны паліум і крылы блакітнага колеру. Больш цёмным сіне-блакітным колерам вылучаны духі, што саграшылі супраць Бога і спакушалі людзей. Уражвае малітоўна-задуменны стан і выраз твараў анёлаў, якія смуткуюць над людскімі грахамі.

Хрысціянская іканаграфія арханёла Габрыэля найбольш markедraзнабакова распрацаваная ў сюжэце «Звеставанне Найсвяцейшай Панне Марыі», дзе ён з'яўляецца абавязковай дзейнай асобай. У адрозненне ад арханёла Міхала з характэрнай вайсковай атрыбутыкай, адзенне арханёла Габрыэля звычайна складаюць далмацік і кароткая туніка розных колераў, амаль абавязкова з чырвоным плашчом-паліумам. Характэрным атрыбутам арханёла Габрыэля з'яўляецца кветка лілеі, якая сімвалізуе беззаганнасць Панны Марыі, што можна адзначыць ва уніяцкіх абразах 2-й паловы XVIII ст. з Пакроўскай царквы ў вёсцы Чыжэвічы Салігорскага р-на (1761 г., мастак Маркіянавіч), Троіцкай царквы ў вёсцы Зёлава Драгічынскага р-на, Прачысценскай царквы ў



Абраз «Маці Божая са св. Францішкам Асізскім і Бэрнардам Сіенскім» (т. зв. «Мадонна Сапегаў»).



Абраз «Святая Сям'я» з касцёла Гродзенскага р-на.



Абраз «Маці Божая Снежная» з пінскага кляштара дамініканцаў.

мястэчку Шарашова Пружанскага р-на[20] і інш.

Сюжэт «Звеставанне Найсвяцейшай Панне Марыі» кананічна павінен быць прадстаўлены ў верхняй частцы створак царскай брамы праваслаўных і уніяцкіх іканастасаў, што абумовіла яго шырокую распаўсюджанасць у беларускім сакральным мастацтве XVI–XVIII стст. Адзін з найбольш ранніх і яркіх прыкладаў інтэрпрэтацыі сюжэта «Звеставання» дадзены ў тэмперным роспісе пачатку XVII ст. царскай брамы з Троіцкай царквы в. Дабраслаўка Пінскага р-на[21], дзе праз інсітнае светаўспрыманне мастака прагледжваюцца рысы мясцовага рэнесансу і ранняга барока. На правай створцы прадстаўлена статычная постаць Панны Марыі ў малітоўным стане, на левай — арханёл Габрыэль з узнятымі крыламі, што надаюць яго вобразу рухомасць і ўсхваляванасць. Палымяная адданасць удзельнікаў падзеі Богу падкрэслена незвычайным фігурным абрысам брамы, які нагадвае языкі полымя над іх галовамі. У малюнку навакольнага асяроддзя відавочныя элементы італьянскага ўплыву: сталы з абрусамі паказаны ў сярэдневяковай адваротнай перспектыве, калі ўмоўная кропка сыходжання паралельных ліній знаходзіцца нібыта ў зрэнках мастака. Але адначасова ўмоўна рэалістычны архітэктурны стафаж дадзены ў прамой лінейнай перспектыве, г.зн. з кропкай сыходжання на ўмоўным гарызонце карціны. Такая будова зрокавай перспектывы вынайдзена, як вядома, мастакамі італьянскага рэнесансу.

На абразе «Звеставанне са святой Параскевай» 1740-х гг. надзвычай самабытнага латыгаўскага майстра (твор мае незвычайны гарызантальны фармат 63х112 см)[22] арханёл Габрыэль прадстаўлены на воблаку ў цэнтры кампазіцыі, укленчаным перад Паннай Марыяй і благаслаўляючым Яе правай рукой. Над імі ў атачэнні аблокаў лунае Святы Дух у выглядзе голуба. У правай частцы кампазіцыі буйным планам паказана святая Параскева Пятніца з крыжам і разгорнутым скруткам з тэкстам малітвы ў руках. Для гэтага самабытнага майстра характэрны тэалагічная дыдактычнасць і адначасова свабода мастацкай задумы. Актыўнае ўзаемадзеянне з нябеснымі сферамі падкрэслена арыгінальнай кампазіцыяй твора, сімвалічным спалучэннем яркіх лакальных колераў (чырвонага, зялёнага, вохрыста-залатога), шматлікімі надпісамі і абавязковымі аблокамі, што мяжуюць зямное і нябеснае.

Надзвычай цікава і неардынарна адлюстравана місія арханёла Габрыэля на абразе «Звеставанне Найсвяцейшай Панне Марыі» канца XVII ст. з касцёла Перамянення Пана ў в. Новая Мыш Баранавіцкага р-на. Тут гістарычная прастора і час метафізічна спрасаваныя ў адно імгненне. Дзеля гэтага ў кампазіцыі абраза сумяшчаюцца адначасова некалькі сюжэтаў. Уверсе кампазіцыі ў ззянні над аблокамі прадстаўлена новазапаветная Тройца: Бог Айцец, Бог Сын і Святы Дух у выглядзе голуба, перад імі — празрыстая сфера-зярцала, праз якую ўкленчаны арханёл успрымае волю Усявышняга. Для лепшага прачытання гэтай тэмы арханёл смела прадстаўлены мастаком у контражуры, спінай да вернікаў, такім чынам накіроўваючы іх позірк да галоўнага. Ніжэй за іх, на воблаках у тры ярусы, размешчаны шматлікія крылатыя анёлы, якія граюць на розных музычных інструментах і спяваюць хвалу Усявышняму. У цэнтры гэтага сюжэта франтальна прадстаўлены, відавочна, арханёл Міхал з малітоўна складзенымі рукамі, які кіруе хорамі анёльскімі. За яго плячыма бачны бясконцы сонм анёлаў. У ніжняй частцы кампазіцыі абраза на залатым фоне з буйным раслінным арнаментам, што ў дадзеным выпадку стварае своеасаблівую кантактную зону паміж зямлёй і нябеснымі сферамі, у гэткіх жа залатых німбах прадстаўлены Найсвяцейшая Панна Марыя і ўкленчаны перад Ёю арханёл Габрыэль з кветкай лілеі ў руцэ. У кучавым воблаку, на якім прыбыў арханёл, таксама бачны крылатыя галоўкі анёлаў, штоназіраюць за падзеяй. Мастацкія вартасці гэтага абраза надзвычай высокія. Вытанчаная мадэліроўка твараў, багатая колеравая палітра, выразная шляхетнасць жэстаў, дакладны малюнак праз-



Абраз «Звеставанне Найсвяцейшай Панне Марыі» з Пакроўскай царквы ў в. Пінкавічы Пінскага р-на.

рыстага вэлюма, што ахінае твар Панны Марыі, сведчаць пра высокую прафесійнасць мастака еўрапейскага ўзроўню. Адначасова твор нясе генетычныя рысы мясцовага сармацкага барока.

Надзвычайнай барочнай дынамікай, уласцівай позняму барока, вызначаюцца абразы «Звеставанне» сярэдзіны XVIII ст. з Пакроўскай царквы ў в. Пінкавічы Пінскага р-на і Спаса-Праабражэнскай царквы ў в. Коматава Гродзенскага р-на[23]. Першы з іх напісаны алеем паверх больш ранняга абраза, які цалкам не рэстаўраваны, што ўскладняе прачытанне кампазіцыі. Тут у ёй дамінуе нябесная сфера, дзе на воблаку прадстаўлены Бог Айцец і Святы Дух, абкружаныя хорамі анёльскімі, якія ўсхваляваныя падзеяй. Па волі Божай арханёл Габрыэль імкліва накіроўваецца на зямлю, дзе яго чакае ўкленчаная Дзева Марыя. Імклівасць руху арханёла падкрэсліваюць дынамічныя складкі барвова-чырвонага паліума, несіметрычны размах крылаў, жэсты рук і ног, якія нібы пераадольваюць прастору.



Абраз «Звеставанне Найсвяцейшай Панне Марыі» са Спаса-Праабражэнскай царквы ў в. Коматава Гродзенскага р-на.

Яшчэ большая дынамічнасць падзеі назіраецца ў абразе «Звеставанне» з в. Коматава, дзе імклівасць з'яўлення на воблаку арханёла з узнятымі ўгору крыламі і раскручаным паветрам плашчом быццам крыху здзіўляе і палохае Дзеву Марыю. Тут сюжэт прадстаўлены мастаком досыць тэатралізавана: з кулісамі, анёлкамі-пуццямі, што сыплюць зверху кветкі, з элементамі тагачаснага арыстакратычнага антуражу (шкура рысі на падлозе, столік з гнутымі разьбянымі пазалочанымі ножкамі, сукенка Марыі з рукавамі-буфамі). Відавочна, што евангельскі сюжэт адаптаваўся мастаком да рэалій і стылістыкі яго часу.

Іканаграфія чыноў анёльскіх з'яўляецца важным кампанентам беларускага сакральнага выяўленчага мастацтва XVI–XVIII стст. Старазапаветнае вербальнае вучэнне пра анёлаў у раннім хрысціянскім мастацтве было трансфармаванае ў матэрыяльныя зрокавыя вобразы, у якіх спалучыліся архетыпы антычнай і ўсходніх культураў. Да грэчаскай і рымскай антычнасці ўзыходзіць найбольш пашыраны вобраз антрапаморфнага андрагіннага анёла з крыламі, наяўнасць якіх дапамагала растлумачыць яго хуткаснае перамяшчэнне ў прасторы. Метафізічны вобраз анёла ў старажытнарымскім адзенні існуе ўжо на працягу стагоддзяў, амаль двух тысячагоддзяў, аднак інтэпрэтацыя гэтага вобраза мянялася ў залежнасці ад філасофска-тэалагічнага і эстэтычнага светапогляду сацыяльна-культурных эпохаў. У беларускім сакральным жывапісе XVI–XVIII стст. у іканаграфіі анёлаў адбіліся выразныя рысы высокага (прафесійнага) і нізавога (інсітнага) барока, што дазваляе больш дакладна атрыбутаваць мастацкія творы таго часу і раскрыць іх духоўную семантыку.

---

[1] Христианство. Энциклопедический словарь // Под ред. С.С. Аверинцева. – Т. 1. – Москва, 1993. – С.73–75; Аверинцев С.С. София-Логос. Словарь.– Київ, 2006. – С.47–51; Мифы народов мира. – Т.1. – Москва, 1987. – С.76–78; Православная Энциклопедия. – Т. II. – Москва, Церковно-научный центр Русской Православной Церкви «Православная Энциклопедия», 2001. — С. 289–305; Глаголев А. Ветхозаветное Библейское учение об Ангелах. – Киев, 1900.

[2] Сакральная живопись Беларуси XV—XVIII веков: Альбом / Сост. Н.Ф.Высоцкая. – Минск, 2007. – 38, 57, 94.

[3] Источники истории: Матвей Меховский. Сказание о двух Сарматия. Сокровенное сказание монголов. – Рязань, 2009. – С.10. Сарматыяй Азіяцкай лічылася тэрыторыя ад Дона да мерыдыяна Каспійскага мора.

[4] Музей старажытнабеларускай культуры: Альбом. / Уклад. А.А. Ярашэвіч. – Мінск, 2004. – С.126.

[5] Тамсама. С.114.

[6] Тамсама. – С. 33, 76, 91.

[7] Тамсама. – С. 62, 91.

[8] Тамсама. – С. 82, 89, 92.

[9] Тамсама. – С. 98.

[10] Тамсама. – С. 95.

[11] Тамсама. – С. 54, 55.

[12] Тамсама. – С. 71.

[13] Христианство. Энциклопедический словарь // Под ред. С.С. Аверинцева. – Т. 1. – Москва, 1993. – С. 131.

[14] Музей старажытнабеларускай культуры: Альбом. – С. 37, 38.

[15] Сакральная живопись Беларуси XV–XVIII веков. – 98, 139, 149.

[16] Тамсама. – 29. У альбоме абраз памылкова адносіцца да фарнага наваградскага касцёла.

[17] Тамсама. – 115.

[18] Музей старажытнабеларускай культуры: Альбом. – С. 68.

[19] Сакральная живопись Беларуси XV–XVIII веков. – 86.

[20] Тамсама. – 149, 159, 166.

[21] Музей старажытнабеларускай культуры: Альбом. – С. 51.

[22] Тамсама. – С. 69.

[23] Тамсама. – С. 87, 89.

# Дзеля маральнасці і натхнення

Дзейсная лучнасць Уладзіслава Сыракомлі (1823–1826) з беларускай культурнай сітуацыяй выяўлялася найперш праз арыентацыю, паводле ягоных словаў, на «братоў у капоце і братоў у сярмязе», таму творчая шматграннасць лірніка вясковага, як называлі яго сучаснікі, і яго зварот да рэлігійных тэмаў былі натуральным працягам шчырых стасункаў пісьменніка з уласным сумленнем. Многія з духоўных вершаў У. Сыракомлі публікаваліся на асобных лістах у Вільні і распаўсюджваліся сярод вернікаў. Пазней яны былі надрукаваныя пад назваю «Малітвы на абразах» — па аналогіі з нотнымі выданнямі «Хатняга спеўніка» і зборнікам літургічных спеваў «Песні нашага касцёла» Станіслава Манюшкі. Будучы семнаццаць гадоў арганістам віленскага касцёла святога Яна, кампазітар разам са спеваком Ахілесам Банольдзі заснаваў Таварыства святой Цэцыліі, якое ставіла задачу наблізіць сучасную выканаўчую культуру да мясцовых музычных традыцый.

Вершаваны тэкст Уладзіслава Сыракомлі «Гімн да Пана Езуса», напісаны ў 1855 годзе, Станіслаў Манюшка паклаў на музыку 22 лютага 1872 года. Аднак кампазітарскія прачытанні верша мелі пэўныя паўторы і пераносы ў сувязі з логікай матывацыі вобразаў. Таму пры перакладзе неабходна было вярнуцца да Сыракомлевага першаўзору, прытрымліваючыся пры гэтым сілабічнага вершаскладання, гэтаксама і ва ўсіх астатніх выпадках для ўзнаўлення арыгінала.

*Уладзімір Мархель*

Уладзіслаў СЫРАКОМЛЯ

# МАЛІТВЫ НА АБРАЗАХ

**Да Багародзіцы**
*У Слуцкай браме**

О, Багародзіца! Ты праз сталецці
У літасцівасці не змружыш вочы
На варце ў браме, каб Твае ўсе дзеці
Тут чуліся ў бяспецы ўдзень і ўночы.
Пільнуй святыні, дзе Твой Сын салодкі
Бярэ ад нас ахвяры неадменна,
Пільнуй дамы і вежаў шыхт каменны,
Руіны — даўні гарадок Сіроткі.

*1844 2001, 2009*

**Гімн да Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай**

Ты ўзносішся высока
Над нашымі мурамі!
Кінь, Маці, промень вока,
Глянь на зямлю пад намі.
Няма сканчэння ліху
Ані бядзе, ні гору —
То гучна, то пацішу
Плыве мальба ў прастору;
Таму спадзеў — ад Маці
Нам літасць прычакаці.

І што на думку ўпала,
Чым сэрцы ахінуты —
Ты тайну мук спазнала,
Сама прайшла пакуты!
Хто ж надзяляе льготай:
Твой Сын — Бог-Чалавек.
Ён праменем дабротаў
Нам слёзы сцёр з павек;
Таму падтрымку Маці
Праз Сына нам чакаці.

*1855 2009*

* Над адзінай у Нясвіжы брамай, названай Слуцкаю, ёсць капліца Найсвяцейшай Панны Марыі з алтаром, што нагадвае Вострую браму ў Вільні.

## Гімн да Пана Езуса

З Ойчам Адвечным дзеліць прастолы,
І прыпадаюць прад Ім Анёлы,
Імем Ягоным пекла ўстрывожым:
    Гэта Сын Божы.

Крыжам распяты ў кароне з церняў,
Здзек у людзей неміласэрны,
Кроў сцякае з чала, слёзы з павек:
    Гэта Чалавек!

Ты, ўзяўшы людства ў сваю апеку,
Даў трыванне Богу-Чалавеку!
Йдзі ў наша сэрца, хай яно будзіць
    Любасць у людзях.

А як у нашым быццёвым коле
Крыж разапне нас, а церні ўколюць,
Каб шлях адолець годна цярністы,
    Дай помач, Хрыстэ!

*1855 1990, 2009*

## Першыя думкі ў Дзень Уваскрасення

Хрыстос уваскрэс — хрысціянскія звоны
    Разнеслі па свеце шчаслівую весць;
Хрыстос уваскрэс — ідзі дух засмучоны:
    Ўваскрэснуць жа з Богам, то ў неба ўзляцець.

Магільны тут камень, дзе шлях да загіну, —
    З грудзей адвалі і жывы тады ўстань:
Анёл стаў на варце каля дамавіны
    І ўбачыў, як золакам станецца рань.

Хрыстос уваскрэс, таму з Хрыстусам разам
    І сонца ідзе хмарам наперакор:
Цяпло заіскрыла — з Ягоным наказам
    Снягі паліліся падталыя з гор.

Зімою зямля расцяпляецца вольна,
    Жыццё йдзе ў траве — там Ягоная кроў;
Душа чалавека, хіба ты няздольна,
    Азяблая раз, расцяпліцца ізноў?

Паўстань, душа, з беднага Лазара ложа,
    Арліных вачэй у цямноцці не змроч;
Хоць сэрца ў людзей замарозіцца можа —
    Ды цёплыя слёзы пачнуць падаць з воч.

Няхай галаве прадчуваць прасвятленне,
    Няхай новых думак праложыцца ніць;
Няхай сэрцы нашы ад Дня Ўваскрасення
    Жыццю будуць новаму новы такт біць.

Вясна перад намі! Да плуга, да плуга —
    І хто якім плугам арэ свой загон!
Дасць Божа жніва — таму плён і заслуга
    І мёд з малаком прыйдуць нам наўздагон.

Мы з Хрыстусам крыж узнімалі таксама,
    Прабілі нам бок, схавалі ўжо нас;
Хрыстос уваскрэс, там адзіная брама
    Нябесная, дзе Ён чакаць будзе нас.

Але няма неба без чыну, без волі,
    Без слёз і без працы для будучых лет;
Датуль нашы сэрцы чуваюць у болю,
    Пакуль у надхмарны паднімемся свет!

Не раз яшчэ нашы павіснуць галовы,
    І кропляй крыві абмыюцца грудзі;
Але хоць параняць каронай цярновай,
    Пасля ўваскрасення лепей нам будзе.

Паганец у муках быцця ўпасці змушан
    Сярод стаіцызму нястрыманых цнот;
Боль стане крыламі ў хрысціянскіх душах,
    Адтуль распачнецца арліны палёт.

У нас двое крылаў цяпер прамяністых,
    Над намі шчэ ёсць надпаветраны край...
О, Сонейка наша, Збавіцель наш Хрыстэ!
    Арліную сілу вачам нашым дай!

А там, на прасторах шырокага неба,
    Імгла ёсць і хмары, і віхар там дзьме:
Ды пільнае вока ў палёце нам трэба,
    Каб Сонейка мы не згубілі ў імгле...

*1858 2009*

*Пераклад з польскай мовы*
*Уладзіміра Мархеля.*

---

**Уладзімір Мархель** — літаратуразнаўца, перакладчык. Аўтар шматлікіх літаратуразнаўчых працаў, у тым ліку кніг «Лірнік вясковы: Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні» (1983), «Прадвесце: Беларуска-польскае літаратурнае ўзаемадзеянне ў першай палавіне XIX ст.» (1991), «Шлях да Беларусі: Адам Міцкевіч — прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры» (2003) і інш. На беларускую мову пераклаў паасобныя творы А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Чачота, В. Каратынскага, Я. Лучыны, Я. Каханоўскага, Л. Стафа, Ю. Тувіма і інш. Выдаў кнігу ўласных выбраных паэтычных перакладаў з польскай мовы «Водгулле» (2000), зборнікі санетаў «Згадкі Нясвіжа» У. Сыракомлі і «Зніч любові» Я. Купалы (абодва ў 2002 г.) — на мове арыгінала і ў сваім перакладзе на беларускую мову, а таксама зборнік выбранай лірыкі «Але...» (2007). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1988 года. Уганараваны прэміямі Polcul і прэзідэнтаў трох акадэмій навук (Беларусі, Украіны, Малдовы). Жыве ў Мінску.



Алесь Разанаў

# Вачам хочацца ўбачыць Бога...

## Пункціры

**Алесь Разанаў —**
паэт. Нарадзіўся 5 снежня 1947 года ў в. Сялец Бярозаўскага раёна на Берасцейшчыне. У 1970 г. скончыў Брэсцкі педінстытут. Напісаў кнігі паэзіі «Адраджэнне» (1970), «Назаўжды» (1974), «Каардынаты быцця» (1976), «Шлях-360» (1981) і інш. У апошнія гады ў выдавецтве І. П. Логвінава выйшлі «Кніга ўзнаўленняў» (паэтычныя ўзнаўленні старабеларускіх тэкстаў), «Лясная дарога» (версэты), «Каб мелі шчасце ўваскрасаць і лётаць» (паэмы), «Дождж: возера ў акупунктуры» (пункціры), «Пчала пачала паломнічаць» (вершаказы), «Сума немагчымасцяў» (зномы). Напісаў дзве кнігі на нямецкай мове: «Wortdichte», «Der Zweig zeigt dem Baum wohin er wachsen soll». Лаўрэат Дзяржпрэміі імя Я. Купалы, прэміі імя Гердэра. Жыве ў Мінску.

*

Ці ўсё разумееш?
Чытае дождж
зімовыя піктаграмы.

*

Мо сто, а мо дзвесце —
выйшлі
на вуліцу постаці,
каб увесці
некага ў весніцы:
плот.

*

Свае, ды высока:
сочаць
за мною бярэзіна
і сасна.

*

Мае ключы —
адмыкае
скалу ручай.

*

З кубачкамі —
пераходзіць
вулачку гаспадарыня:
пахне
кавай і цеплынёй.

*

Адолелі:
дзьмухаўцы
ўздымаюць з-пад долу
сонцы.

*

Мяняюцца месцамі
сосны і сны:
у белай
кароне гара
тамсама.

*

Кумкаюць —
з неба
сцягваюць жабы
дождж.

*

Развітваецца
і зноў
вітаецца вецер з сасной —
кахае?!.

*

З вайны?!.
Валуны
гояць у рэчцы раны.

*

Вуліцы ў шыбінах:
піша
пальцамі пісьмы
дождж.

*

Слуп светлы,
слуп цёмны —
нябёсы
ўгрунтоўваюцца ў зямлю.

*

Світае:
выходзяць
бярозы з лесу,
ўваходзяць
яліны ў лес.

*

Зрушыўся камень —
сцежку
паказвае некуды нацянькі.

*

З клёкам у дзюбах:
клякочуць
на коміне —
ад самоты
лекуюць хату —
буслы.

*

Мост у замках,
а рэчка
струменіцца —
па ключы?!.

*

Ва ўсе бакі вокі —
аблокі
у лета наймаюцца
ў пастухі.

*

Пад сподам гаспода:
вартуе
дрыгву аер.

*

З глыбіняў хвіліны —
дзяўбе
дзяцел хваіну.

*

Апранута ў дождж —
ідзе
вуліцай прыгажуня.

*

Спыняюся:
прытуляюся
спіной да яліны —
да вышыні.

*

Сцежка плыве.
«Сюдою
хадзі!..» — трыпутнік
абапал выслаў сляды.

*

Трэскае сук —
вяду
у небяспеку прасеку.

*

Адліў і прыліў:
у камень
хаваецца глыбіня,
у глыбіню — камень.

*

Свеціцца вецер —
здзімае
з бярэзіны прамяні.

*

Звоніць —
зжынае
бажніца час.

*

З нагі на нагу:
дамоў
вяртаецца вечар.

*

Імжа:
расплылася мяжа
між тым, што было,
што будзе.

*

Падае —
у падзеі
пытаецца: «Дзе я?»
ліст.

*

Парушаны —
мур
гутарыць нема
з некім.

*

Канаты святла:
з цемрыні
цягнуцца вуліцай
аўтамабілі.

*

Брава-выява:
ўвабраўся
ў мелодыю барваў
лес.

*

Прыгожая —
у абдымкі
вецер бярэ бярозу:
«Ляцім са мной!..»

*

Глыбокія вокны:
вачам
хочацца ўбачыць
Бога.

*

Рашае задачы:
і адымае,
і прыкладае
восень лісты.

*

Ні долаў, ні высяў —
перамагліся:
кружляюць
арлы ў імгле.

*

Вісяць у паветры
лісты —
масты
між тым, што было,
і будзе.

*

Сонца цярушыцца,
свеціцца дождж —
змяшала
найменні восень.

*

Застаўся —
пільнуе ў пустцы
зялёны палын
зіму.

*

Змяняецца гразь
на каменне —
мароз
паказвае розум.

*

У шэрані схілы:
з'язджае
з высачыні зіма.

*

Скавалася азярына —
схавалася:
расхінае
вецер чарот.

*

Поле ўзарана:
ідзе з сяўнёю
снегу зіма.

*

Снежань:
кунежацца
сосны ў сне.

*

І хто тут жывы?!. —
У лядах
чытае сляды
зіма.

*

Слізка:
за плот
трымаецца вецер.

*

Сёння — не ўчора:
да новай
высновы з дуба
хіліцца ліст.

*

Увальваюся ў хвалу
з галавой:
завея
наставіла хорамаў
там і тут.

*

У высі ўзняліся?!.
Бялее
на дахах снег.

*

Навокал абрывы:
ў душы
вышукваю крылы.

Пётр Вайль

# На пачатку: Джотто

...Падуя знакамітая не толькі сваімі мастацкімі скарбамі. Тут ёсць кавярня, якая ўваходзіць у прызавую італьянскую тройку, а дзве іншыя — «Грэко» на віа Кандоцці ў Рыме і «Фларыян» на венецыянскай п’яцца Сан-Марко.

У падуанскай кавярні «Пэдроккі» ўсё сімвалічна. І яе размяшчэнне: наўскось ад другога ў свеце (пасля балонскага) па старшынстве (1222 год) і самага аўтарытэтнага ў эпоху Рэнесанса універсітэта — як усюды і заўсёды, рассадніка вальнадумства. І яе неакласічнае аблічча з порцікамі — прыкметаю вольных антычных узораў архітэктуры. І яе інтэр’ер другога паверха, дзе ў егіпецкай, усходняй і іншых залах дзіўна змяшаліся пышнасць і наіўнасць — адвольнасць выбару. Адным словам — не дарэмна менавіта ў «Пэдроккі» ў 40-я гады XIX стагоддзя выспяваў студэнцкі бунт супраць аўстрыйцаў, які ў рэшце рэшт абярнуўся вызваленнем і аб’яднаннем Італіі. Зноў вайна, якая вызначыла лёс і аблічча горада, але на сто гадоў раней і не такая страшная. У «Пэдроккі» на сцяне адной з залаў ніжняга паверха срэбнаю таблічкаю пазначаны след ад кулі тых часоў, а насупраць, на бронзе, — цытата з «Пармскай абіцелі» Стэндаля з апісаннем кавярні. У меню тут мноства кактэйляў з гарачай кавы і халодных лікёраў — нідзе, відаць, іх не робяць гэтак вытанчана.

Адразу за «Пэдроккі» — рынак на дзвюх плошчах, п’яцца дэлла фрутта і п’яцца дэлле Эрбэ, Фруктовы і Травяны, размешчаныя паабапал будынка суда, палаццо дэлла Раджыонэ — аднаго з самых эфектных і велічных грамадзянскіх будынкаў краіны, з лоджыямі і дахамі ў выглядзе перавернутага карабельнага кіля. Па маляўнічасці дэкарацыяў у маім рынкавым рэйтынгу падуанскі рынак займае высокае месца, услед за венецыянскім Рыальто і рымскім на кампо дэль Ф’ёры і побач з веронскім на п’яцца дэлле Эрбэ.

Калі вы пройдзеце ў паўднёвую частку горада, знойдзеце там плошчу Прато дэлла Валле з каналам, мосцікамі, фантанамі і мноствам статуяў (зразумела, сярод іх і Джотто), а дакладней, вы знойдзеце сябе на гэтай плошчы, бо яна самая вялікая ў Паўночнай Італіі.

Дзіўна, як шмат «самага» ў горадзе, дзе жыве дзвесце з нечым тысяч чалавек: Падуя — як Падольск.

На краю Прато дэлла Валле — агромністы касцёл Санта-Джусціна, ад якога цікава ісці ўздоўж батанічнага саду і бачыць, як, паступова вырастаючы, вымалёўваюцца ўперадзе купалы Сан-Антоніо. Абодва гэтыя храмы злёгку нагадваюць венецыянскі Сан-Марко, і гэта натуральна: чатыры стагоддзі Падуя была пад Венецыяй, аб чым не даюць забыць бясконцыя выявы крылатага ільва святога Марко на будынках.

Касцёл святога Антонія, перад якім і стаіць данатэллаўскі Гаттамелата, тут называюць проста — дэль Санто: маўляў, які ж яшчэ можа быць святы. За гэтым пакланеннем, што прыцягвае сюды пяць мільёнаў пілігрымаў у год, — захапляльнае жыццё, прыгодніцкі раман.

Антоні Падуанскі нарадзіўся ў канцы XII стагоддзя ў Лісабоне ў рыцарскай сям’і. З 15 да 25 гадоў вывучаў багаслоўе ў кляштары, і якраз у гэты час у Каімбру, старажытную сталіцу Партугаліі, прывезлі парэшткі пяці францішканскіх манахаў, забітых за веру ў Марокка. Антоні ўступіў у ордэн Францішка Асізскага і вырушыў у Афрыку, каб паўтарыць подзвіг гэтых мучанікаў. У Марокка ён захварэў на ліхаманку і паплыў назад, але бура прыбіла карабель да берагоў Сіцыліі. Так пачаліся вандраванні па італьянскіх кляштарах, дзе Антоні мыў посуд, пакуль яму не давялося аднойчы замяняць прапаведніка, які недзе затрымаўся: багаслоўскія веды і дар прамоўніцтва Антонія вельмі ўразілі манахаў. Гэта класічная гісторыя для тэатральнага свету: статыст замяняе захварэўшага саліста і становіцца зоркаю. Антоні стаў першым слынным францішканскім вучоным, які аб’ехаў са сваімі казаннямі розныя краіны, збіраючы ў аўдыторыях да 30 тысяч слухачоў. Апошні год жыцця ён правёў каля Падуі, у своеасаблівай келлі, зробленай у галінах арэхавага дрэва. Тут ён і памёр у 36 гадоў. У той час не

*Заканчэнне. Пачатак у 4 за 2009 г.*

было сённяшніх строгіх правілаў кананізацыі, і ў 1232 годзе, менш чым праз год пасля смерці, Антонія абвясцілі святым. Пры пераносе яго парэшткаў было засведчана, што язык Антонія — асноўная прылада працы прапаведніка — застаўся нятленным (ён і цяпер захоўваецца ў спецыяльным рэліквярыі).

Якое ж адданае праяўленне веры — гэтыя людзі, што паўзуць да труны святога і цалуюць мармур, гэтыя сотні падзячных запісак і фатаграфій скалечаных аўтамабіляў, матацыклаў, веласіпедаў, гаспадары якіх ацалелі ў аварыях: «Дарагі святы Антоні, мяне выратавала твая прысутнасць са мной у гэтай машыне». Ёсць запіскі іншага зместу: «Уратуй ад хваробы маю бабулю», «Я нарадзілася вельмі маленькаю — 660 грамаў, мая сястрычка Лючыя ўжо ў раі. А я буду жыць. Дзякуй табе святы Антоні». Мовы і алфавіты тут самыя розныя, і вельмі многа дэванагары — напэўна, у Падуі або паблізу жыве вялікая індыйская супольнасць. Мноства срэбраных і іншых выяваў сэрца, лёгкіх, рук, ног — як у віленскай Вострай Браме, як у пражскім Іезулатку. Наглядная псіхатэрапія. Можна ўявіць, што тут робіцца 13 чэрвеня — у дзень успаміну святога Антонія.

У саборнай капэле Сан-Фелічэ знаходзіцца шматфігурная фрэска «Укрыжаванне» работы Альцік'еро. Ён нарадзіўся паміж 1320 і 1330 гадамі каля Вероны, лічыцца адным з заснавальнікаў веронскай школы, але там не захавалася нічога, апрача адной фрэскі ў касцёле святой Анастазіі. На шчасце, лепшыя творы з Альцік'еро засталіся ў Падуі, дзе ён шмат працаваў, і вельмі цікава бачыць, як гэты мастак увасабляў запаветы Джотто за які-небудзь кіламетр ад Скравэны. Можна сказаць, што ў Джотто не было больш таленавітага і ўдумлівага паслядоўніка. На той жа саборнай плошчы стаіць капліца святога Джорджыо (*Oratorio San Giorgio*), дзе знаходзіцца 21 фрэска Альцік'еро, і іх размяшчэнне, і сам апавядальны стыль — зноў-такі джоттаўскія. Але зусім не эпігонскія: гэта творчая перапрацоўка. Твары ўжо больш індывідуалізаваныя, жывёлы больш рэалістычныя, пейзаж больш натуральны, каларыт больш мяккі і прыглушаны. Натоўп у сцэне Укрыжавання дасягае больш чым васьмідзесяці чалавек — у той час так яшчэ не пісалі (можа, адзінае выключэнне — «Укрыжаванне» П'етро Ларэнцэцці ў Ніжнім касцёле базылікі Сан-Франчэско ў Асізі, дзе намалявана каля паўсотні персанажаў). Гэта ўжо кватрачэнто стала густа насяляць евангельскія сюжэты «лішнімі» персанажамі, выклікаючы пратэсты касцёльных іерархаў.

У трэчэнто Альцік'еро шмат у чым быў наватарам, апярэдзіўшы кампазіцыйнае майстэрства мастакоў пазнейшых стагоддзяў. 80 гадоў, што раздзяляюць падуанскія фрэскі Джотто і падуанскія фрэскі Альцік'еро, не прайшлі дарэмна. Паслядоўнік у многім пайшоў далей за свайго папярэдніка — так і павінна быць. Аднак велічы Джотто, што пранізвае кожную яго сцэну, Альцік'еро ўсё ж не дасягае — ды і хто яе дасягне? І потым Джотто быў, як-ніяк, амаль на стагоддзе раней.

Альцік'еро хутчэй нагадвае маладога Джотто, які паўстае ў базыліцы Сан-Франчэско ў Асізі, дзе яму прыпісваюцца 28 фрэсак у Верхнім касцёле — жыццё святога Францішка. «Прыпісваюцца», таму што дакументы не захаваліся: францішканцы былі акуратныя ў складанні дамоваў, але паперы знішчылі напалеонаўскія войскі, якія зрабілі ў базыліцы канюшню. Калі гэта ўсё ж такі фрэскі Джотто, то працаваў ён там гадоў за дзесяць да Падуі, і ў Асізі яго магутнасць яшчэ толькі акрэсліваецца, але свежасць жывапісу такая, быццам мастак пісаў з натуры. Падобна да таго, што Францішак увогуле ўспрымаўся такім: да таго часу ён памёр параўнальна нядаўна, у 1226 годзе, а яго біяграфію, пакладзеную ў аснову джоттаўскага цыклу, святы Бо-



Пакланенне трох каралёў. Фрэска Джотто.



Выгнанне гандляроў з храма. Фрэска Джотто.

навентура напісаў у 1266-м — усяго за чвэрць стагоддзя да стварэння фрэсак, таму іх персанажы пазбаўленыя біблейскай велічнасці — яны ўспрымаюцца як сучаснікі аўтара, а атрымліваецца, што і нашы.

У гэтым Джотто быў першы, і па асізскіх роспісах відаць, чаму менавіта ён стаіць на пачатку Рэнесанса.

Да яго жывапіс у касцёлах існаваў асобна ад архітэктуры — Джотто натуральна змясціў свае сюжэты ў міжаконных праёмах. Ён першы намаляваў рэальныя будынкі: Палаццо Публіко і храм Мінервы на п'яцца дэль Каммунэ ў Асізі на фрэсцы «Юродзівы прадказвае хуткую славу маладому святому Францішку». У «Падараванні плашча беднаму двараніну» зноў паказаны Асізі з яго зубчатымі сценамі і касцёлам Сан-Даміяно. Але найбольш эфектны горад, актыўна задзейнічаны ў драматычнай калізіі — у «Выгнанні дэманаў з Арэцца». Тут горад паказаны, як Нью-Ёрк у артыкулах савецкіх журналістаў: дом каля дома, ні прасвету, ні травінкі — толькі дэманы могуць жыць у такім бяздушным месцы.

У Джотто першага з'явілася такая рэзкая натуральная жэстыкуляцыя персанажаў. У фрэсцы «Адмаўленне ад маёмасці» разгневаны бацька кідаецца да Францішка, каб, напэўна, ударыць яго, але сябра ці нехта з родных утрымлівае бацьку за руку. У «Цудоўным адкрыцці крыніцы» манах імкліва апускаецца на рукі, прыпадаючы да вады. У «Казанні перад папам Ганорыем III» святы па-прасцецку паказвае вялікім пальцам некуды ўверх, напэўна, апелююча да Бога.

Якая чароўная драбяза: паміж «Цудоўным адкрыццём крыніцы» і «Казаннем для птушак» — Мадонна з Дзіцем, і Дзіця ўсміхаецца — гэта першая ўсмешка ў італьянскім жывапісе.

Ледзьве заўважна, нечакана і дзіўна ўсміхаецца Джоттава Мадонна Аньіссанці ў галерэі Уфіцці — так, што паміж чырвонымі вуснамі бачныя беласнежныя зубы. У часы жорстка пануючага канону на такую вольнасць патрабавалася немалая адвага.

Пад канец жыцця Джотто, відаць, адчуваў сябе ўсё больш свабодным. У паліптыху Стэфанэскі (Ватыканскі музей) у сцэне ўкрыжавання святога Пятра на першым плане намаляваны хлопчык у чырвоным, які ўзбуджана і радасна паказвае на ўкрыжаванага: цікава ж, ну ладна, укрыжавалі, але чаму ўверх нагамі? Праз стагоддзе, у кватрачэнто і пазней, гэта стала частым прыёмам — змяшчаць наперадзе кагосьці, хто не мае непасрэднага дачынення да сюжэту, зніжаючы такім чынам трагізм і ўзмацняючы праўдападобнасць. Аднак першым быў Джотто.

У тым паліптыху, заказаным у 1320 годзе кардыналам Якопо Стэфанэскі для рымскага сабора святога Пятра, сам кардынал паказаны двойчы: на пярэднім баку — каля ног Хрыста, а на адвароце — каля ног святога, якому ён уручае гэты самы паліптых. Такім чынам, тут не проста партрэт данатара, а сённяшні дзень, які ўрываецца ў Святое Пісанне. І калі ў Асізі Джотто асучасніваў нядаўняе мінулае праз аблічча, адзенне і жэстыкуляцыю персанажаў, то ў гэтым паліптыху ён наўпрост спалучыў сучаснасць з вечнасцю.

Мяркуючы па водгуках Петраркі і іншых, такімі ж смелымі былі і яго не дайшоўшыя да нас работы ў Неапалі. Там Джотто падняўся яшчэ вышэй у сацыяльным статусе, калі ўвайшоў у «блізкае кола» караля Роберта Анжуйскага, паэта і апекуна мастацтваў, і пазнаёміўся з найлепшымі прадстаўнікамі неапалітанскага двара.

Пасля вяртання ў Фларэнцыю Джотто быў прызначаны кіраўніком будаўніцтва катэдральнага сабора (*magister et gubernator*) і засярodзіў у сваіх руках адміністрацыйны, фінансавы і мастацкі кантроль над

усімі працамі. Гэта пры тым, што ён быў не архітэктарам, а жывапісцам — такая нечуваная пашана і такі агромністы аўтарытэт. Зрэшты архітэктарам ён стаў таксама: паводле яго чарцяжоў пабудавалі саборную званіцу «Вежа Джотто», пра якую Джон Рэскін сказаў так: «Сярод хрысціянскіх збудаванняў няма ніводнага больш дасканалага». Абліцаваная каляровым мармурам, нязвыкла прамавугольная, стройная, яна і сапраўды на дзіва прыгожая, гэта фларэнційская кампанілла, і ўзабрацца на яе варта, каб паглядзець на горад і, што больш важна, на сабор, які проста цудоўны ў гэтым ракурсе. Адкуль Джотто мог ведаць пра гэта, калі купал Брунэллескі завяршылі праз сто з лішнім гадоў пасля яго смерці?


Пацалунак Юды. Фрэска Джотто.

У 70-я гады XX стагоддзя падчас раскопак у падмурку сабора знайшлі тое, пра што пісаў Вазары, — парэшткі Джотто. У 2000 годзе іх вельмі ўважліва даследавалі і выявілі павышаную прысутнасць у касцях мыш'яку, свінца і іншых рэчываў, якія ўваходзілі ў склад фарбаў. Пярэднія зубы былі зусім сцёртыя — напэўна, ад звычкі трымаць у іх запасныя пэндзлі. Дэфект шыі сведчыць пра тое, што чалавек праводзіў шмат часу, моцна адхіліўшы галаву назад. Галава аказалася непрапарцыянальна вялікаю ў параўнанні з зусім маленькім тулавам — рост 125 сантыметраў. Гэта пра яго — «метр з кепкай». Божа, якія пакуты і мукі, колькі насмешак і здзекаў, якое мноства свінняў збівала яго з ног на працягу сямідзесяці гадоў жыцця! Як жа ён вырастаў над сабою і над усімі, адкідваючы галаву, узносячы свае вочы да святых скляпенняў, сціскаючы пэндзаль у пальцах і ў зубах. І які ж гэта быў трыумф з вышыні славы і пашаны, які пераможна-радасны позірк на ўсіх гэтых сучасных яму і будучых ліліпутаў, што корпаюцца каля падножжа яго 85-метровай званіцы!

У фларэнційскім касцёле Санта-Крочэ на адной з джоттаўскіх фрэсак намаляваны карлік, які даўно лічыцца аўтапартрэтам мастака, — магчыма, так яно і ёсць. Статуя Джотто ў нішы будынка галерэі Уффіцы, вылепленая ў XIX стагоддзі Джаванні Дзюпрэ, моцна прыхарошвае арыгінал: стаіць такі ладненькі задуменны мужычок, няхай і не прыгажун, але вельмі нават нічога сабе.

Замова кардынала Стэфанэскі, Неапаль, сабор, кампанілла, пашана і павага — усё гэта было ўжо пасля Падуі і дзякуючы Падуі, дзе Джотто дасягнуў сваёй вяршыні.

Капэла Скравэны — асабліва не з фасада, а ў профіль — не вельмі вытанчаная і нават злёгку нагадвае фабрычны корпус. Увесь клопат быў пра яе ўнутранае ўбранне. Сам будынак узвялі вельмі хутка: 25 сакавіка 1303 года прайшла цырымонія закладкі першага каменя, а ў канцы года Джотто ўжо ўзяўся за роспіс. Другая назва гэтай капліцы — капэла дэль Арэна, бо на той зямлі, якую купіў падуанскі дваранін Энрыко дэлы Скравэны, у старажытнарымскія часы знаходзіўся амфітэатр, арэна. Скравэны задумаў збудаваць сямейную пахавальню, а заадно прынесці ахвяру выкуплення за свайго бацьку Рэджынальдо, якога Дантэ змясціў у сёмае кола пекла разам з іншымі ліхвярамі.

Калі азірнуцца на тыя слынныя стагоддзі, стане зразумела, што ахвяра ўдалася. І пакаленне, і выратаванне — усё ў руках мастакоў. Рэджынальдо Скравэны на вякі застаўся ў Дантавым пекле, а сын замольвае яго грахі ў капэле Джотто — таксама вякамі. Калі, вядома, не здарыцца новая вайна і бомба не трапіць у іншы касцёл каля моста.

У сцэне «Страшны суд» Энрыко Скравэны, стоячы на каленях, падае Мадонне мадэль капэлы — зноў, як у паліптыху Стэфанэскі, спрацоўваў джоттаўскі фокус сумяшчэння рэальнасці са Святым Пісаннем. Але галоўнае — сам данатар: хутчэй за ўсё, гэта першы партрэт у еўрапейскім жывапісе. (У скульптуры ён з'явіўся на чвэрць стагоддзя раней: Арнольфо ды Камбіо ў 1277 годзе зрабіў ста-

тую Карла Анжуйскага, якая знаходзіцца цяпер у Капіталійскім музеі Рыма.)

Як самастойны жанр партрэт узнік значна пазней, а да гэтага на замоўленых карцінах маляваліся тыя, хто даваў на жывапіс грошы. І гэта цалкам зразумела і справядліва. У сакральных кампазіцыях данатары звычайна намаляваныя маленькімі: паводле законаў іканапісу, хто больш галоўны, той і больш вялікі. Аднак Скравэньі ў Джотто намаляваны ў адзін рост з анёламі і святымі.

І з самага пачатку — разгул кумоўства. У сцэне «Нараджэнне Марыі» прыгожая жанчына ў блакітнай з залатою аблямоўкаю сукенцы перадае спеленанае дзіця Ганне — гэта, напэўна, партрэт жонкі Энрыко Скравэньі. А яму самому дапамагае трымаць макет касцёла Альтэградо дэ Каттанэі — канонік падуанскага катэдрала і прыяцель данатара. Мы можам толькі здагадвацца пра тое, колькі сваіх сапраўдных знаёмых намаляваў Джотто ў розных месцах. Напрыклад, у капэле Перуцці ў фларэнційскім касцёле Санта-Крочэ намаляваны настолькі жывыя галовы ў шасцівугольных рамачках, што некаторыя знаўцы лічаць іх партрэтамі сям'і Перуцці. Невыпадкова ж Мікола Ге адназначна гаворыць «пра свайго калегу з трэчэнто»: «Ён партрэтыст». І дадае: «У самыя ўзвышаныя прадметы ён адразу ўносіў самае звыклае жыццё з сучаснымі яму партрэтамі, адзеннем і абстаноўкаю».

У сцэне «Шлюбнае вяселле ў Кане» такая знаёма-рэалістычная фігура пузатага распарадчыка вяселля, які пацягвае віно з бакала. Цалкам дакладная ілюстрацыя да побытавага боку Езусавага цуду ператварэння вады ў віно: «І калі распарадчык скаштаваў вады, якая зрабілася віном... (ён) кліча маладога і гаворыць яму: кожны чалавек падае спачатку добрае віно, а калі паўпіваюцца, тады горшае; а ты добрае віно збярог дагэтуль» (пар. Ян 2, 9–10). Парадуемся заадно здароваму сэнсу евангельскага пасажу: што ж гэта робіцца, калі ўсё роўна ніхто з п'яных вачэй ужо не разбярэ смаку віна! У джоттаўскага таўстуна нават вочы скасіліся ад здзіўлення.

У сцэне «Уваход у Ерузалем» — камічная фігура чалавека, які заблытаўся ў адзенні, у спешцы здымаючы яго праз галаву, каб кінуць пад ногі Хрысту: «Многія слалі адзенне сваё па дарозе...» (пар. Мц 21, 8). Забаўныя і юнакі, што ўзабраліся на дрэвы: «Іншыя зразалі галінкі з дрэваў і пасцілалі па дарозе» (пар. Мц 21, 8). Намаляваныя на фрэсцы тонкія дрэўцы яўна не могуць вытрываць такога цяжару, таму маладыя людзі нібы лунаюць у паветры, як анёлы. Іронія і гумар вельмі рэдкія ў жывапісе Адраджэння, і я старанна збіраю такія прыклады — пазней мы пагаворым пра гэта асобна.

А якая непасрэдная размова двух пастухоў з анёлам у эпізодзе «Нараджэнне Хрыстова»! Марыя з дапамогаю павітухі (адкуль узялася? прыйшла з пастухамі?) укладвае Дзіця. Юзаф, як яму і належыць, самотны, дрэмле сярод жывёлы. А гэтыя двое пастухоў, нягледзячы на эпахальную падзею, балбочуць з нябесным пасланнікам, які завіс над імі ў фігуры найвышэйшага пілатажу.

Нават алегорыі Дабрадзейнасці і Заганы, якія мастак пусціў знізу, выглядаюць не павучальна, а вельмі жвава. Хіба ж прагнулася б жэрдка, на якой павесіўся Адчай, калі б гэта была абстрактная загана, а не проста жанчына. Тут Джотто нібы выхваляецца сваім майстэрствам «падманкі»: манахромныя, шэра-карычневыя па белым, яго карціны здаюцца барэльефамі. Як заўсёды, заганы больш выразныя: той жа Адчай; Гнеў у выглядзе жанчыны, якая раздзірае сукенку на грудзях; Глупства, паказанае як камедыянт у дурацкім убранні; Зайздрасць з мярзотнаю змяёю, што вылазіць з рота і джаліць у пераноссе.

Як цікава суседнічае ў Джотто яшчэ ранейшая «візантыйская» статычнасць з новаю натуральнасцю! Наглядна бачна, як ён пераадольваў старыя традыцыі, часам саступаючы ім. У


Езуса кладуць у грабніцу. Фрэска Джотто.

«Хросце Хрыста» — ненатуральная пукатасць вады, быццам яна цвёрдая: гэта сярэднявечная ўмоўнасць, паводле якой нельга было маляваць Хрыста аголеным, яго трэба прыкрыць хаця б вадою Ярдана. Зрэшты, у арыянскім баптыстэрыі Равэнны ёсць мазаіка VI стагоддзя, на якой голае цела Хрыста — з выразна намаляванымі геніталіямі! — прасвечвае цераз гэтак жа ненатуральна прыпаднятую раку.

У капэле дэль Арэна ў «Страшным судзе» аголенасць паказана амаль парнаграфічна. Справа ад крыжа, сіметрычна Мадонне, якая прымае дар ад Энрыко Скравэны, два чорты валакуць у пекла грэшніка, сцягваючы з яго адзенне так, што агаляюцца яго палавыя органы вельмі вялікага памеру.

Заўважна, як Джотто ў сваіх гісторыях-фрэсках змяняе рытм і стыль.

Ёсць у яго на дзіва банальныя побытавыя эпізоды, як, напрыклад, «З'яўленне анёла святой Ганне», дзе жанчына з прасніцаю застыла за дзвярыма, падслухоўваючы звеставанне; ці, скажам, «Нараджэнне Марыі» з яго мітуснёю вакол дзіцяці; або «Noli mi tangere» з Езусам, які мякка адштурхоўвае Марыю Магдалену — адна з самых рухомых сцэнаў, нягледзячы на тое, што ў ёй большасць персанажаў спіць, але і яны таксама жывыя.

А яшчэ ёсць архаічна застылае «Пакланенне вестуноў» з пралятаючай над яслямі каляднаю зоркаю — напэўна, Джотто намаляваў камету Галлея, якая была бачная ў Еўропе ў 1301 годзе (пасланую ў космас міжпланетную станцыю для даследавання каметы Галлея назвалі «Джотто»).

Ёсць і манументальнае (хоць усе фрэскі аднолькавыя — 1,35 на 2 метры) «Уваскрашэнне Лазара».

Ёсць драматычны і хвалюючы да сэрцабіцця «Пацалунак Юды» — з позіркам здрадніка і прададзенага ім вочы ў вочы.

Ёсць велічны поступ восліка, які ўвозіць Марыю з Немаўляткам у Егіпет. Па-ранейшаму самотны Юзаф, аглядаючыся, ідзе з кошам спераду, а Марыя ўрачыста ўссядае, як на троне, і трохвугольная скала ззаду дублюе трохкутнік, утвораны спінаю восліка, Немаўляткі на руках і прамой фігурай Багародзіцы. І калі б паднялася рука расстаўляць сцэны паводле ранжыру, я паставіў бы на першае месца «Уцёкі ў Егіпет» — эрас, створаны мінімалістычнымі сродкамі.

Дарэчы, пра вослікаў. Прынята лічыць, што вослік ва «Уцёках у Егіпет» і асабліва асліца ва «Уваходзе ў Ерузалем» сімвалізуюць пакору. Аднак гэта самая сапраўдная мадэрнізацыя, перанос пазнейшых уяўленняў у іншы час і месца. На Усходзе нават правіцелі перамяшчаліся на восліках, а на конеи — жывёлаў баявых, а не рабочых — перасаджваліся толькі для войнаў і парадаў. Водгук гэтай завядзёнкі адлюстраваны, напрыклад, у «Трох мушкецёрах», калі Партос выцыганьвае ў закаханай у яго пракуроршы грошы на экіпіроўку. «Конь для слугі? — нерашуча паўтарыла пракурорша. — Прыгожы мул часам выглядае не горш за каня...» — «Добра, няхай будзе прыгожы мул», — сказаў партос, згаджаючыся на гібрыд восліка і кабылы. Што ж датычыцца «Уваходу ў Ерузалем», дык згадаем, што ўезд верхам быў знакам рэдкага шанавання Езуса, бо ўсе паломнікі ўваходзілі ў гарадскую браму пехатою: не з-за недахопу сродкаў, а ў адпаведнасці з агульнапрынятым звычаем.

37 сцэнаў жыцця Езуса і Багародзіцы (плюс вялікі «Страшны суд») размясціў Джотто ў капэле, якая стала ад гэтага прасторнаю, хоць яе памеры усяго 20,5 метраў на 8,5 метры — як у школьнай актавай залы.

Толькі вось вышыня храмавая — 18,5 метры. У вялікім Верхнім касцёле Асізі трэба ісці ўздоўж фрэсак, каб разгледзець іх. У Падуі можна ўстаць у цэнтры і ахапіць позіркам усё разам. Вось тады і становіцца ясным найвысачэйшае майстэрства Джотто-апавядальніка. Ужо потым былі майстры, якія не горш за яго валодалі майстэрствам апавядальніцтва, — Гірландайо, Пінтурыккіо, Карпаччо. Але ж ён быў першым, зноў першым — і ў гэтым таксама. Магчыма, гэта і ёсць галоўнае дасягненне Джотто — адкрыццё мастацтва захапляючага жывапіснага аповеду. Пры гэтым ён захаваў іканапісную значнасць, адступіўшы пазней перад націскам рэалізму.

З усіх хрысталагічных цыклаў у сусветным мастацтве гэты, у капэле Скравэны, уражвае наймацней. І чамусьці здаецца, што менавіта Джотто натхніў Баха на яго араторыі і Пазаліні — на яго фільм.

Пры капэле была званіца, і манахі з суседняга касцёла Эрэмітані падалі фармальны пратэст біскупу Падуі. Аднак у сапраўднасці ўвагу парафіянаў адцягваў зусім не перазвон: іх вабіла прыгажосць роспісаў новай капэлы, людзі ішлі туды, каб разглядаць іх, захапляцца, станавіцца перад імі на калені і маліцца.

...Павольна паварочваючыся вакол сваёй восі пасярод капэлы, усведамляеш, як успрымаў Джотто сваё тварэнне ў цэлым — і апавядальна, і каларыстычна. Напрыклад, столь, грувасткая і нават вульгарная, калі разглядаць яе асобна, стварае агульнае радаснае покрыва для ўсіх выкладзеных на сценах гісторый. Гэтак жа і сінеча з залатымі зоркамі весяліць вока ў купалах суздальскіх цэркваў.

Можа, не дарэмна па-руску назва капэлы Скравэны гучыць так цёпла, інтымна — «сокровенно».

*Пераклад з рускай мовы*
*Лідзіі Камінскай.*
*«Иностранная литература», № 6, 2009.*



# МОСТ СВЯТОГА ФРАНЦІШКА

Святы Францішак будаваў касцёл з каменняў, якія трымаў рукамі ў стыгматах, — плата за «Сонечную песню, або пахвалу стварэнняў», якую ён спеў у родным Асізі 800 гадоў таму назад — паміж малым касцёлікам, Парцьюнкуле, і Божым Валадарствам, калі на крылах птахаў сам узнімаўся ў нябёсы Італіі, сустрэўшы сястру сваю цялесную смерць...

У Гародні ў 2008 годзе пабудавалі мост святога Францішка. Гэты мост злучае духоўныя глыбіні з яснымі глыбінямі неба.

Мост святога Францішка вяртае ў стары горад, у той час, калі хадзілі па мосце францішкане — святы Максіміліян Кольбэ, духоўны пераможца ў Другой сусветнай вайне, Слуга Божы Мельхіёр Фардон, брат Аўгустын Кісялеўскі, шмат айцоў і братоў францішканаў, а над імі нязменна ў нябёсах — святы Францішак са святой Кларай з Асізі, святы Антоні з Падуі; святы брат Бэрнард чакаў іх на правым беразе Нёмана ў бэрнардынскім касцёле, а святы Дамінік лавіў на шнурочак ружанца зоркі, якія падалі ў Нёман... Дамініканскі касцёл і кляштар з гімназіяй і бібліятэкай быў разбураны 15 красавіка 1874 года, а на іх месцы пабудавалі залу для спорту. Але і залы гэтай ужо няма.

Мост святога Францішка выводзіць з фальшы да шчырасці.

Пыха — гэта хранічная хвароба, ад якой няма лякарства, але можна пазбыцца яе ўтаймаваннем сваіх эмоцый і пакорай.

Мост святога Францішка злучае берагі ракі і дарогі паміж Краінамі будучыні, між якімі запануе павага і ўзаемнае прабачэнне за ўсе крыўды мінулага.

Хто ходзіць па мосце святога Францішка, той набіраецца любові да людзей як да сваіх суайчыннікаў, сучаснікаў, сяброў і братоў. Гэтак жа — да жывёлаў, птахаў, жывуноў і паўзуноў, да сваіх меншых братоў і сёстраў, працягвае да іх рукі і адчыняе сэрца, ведаючы, што яны надзеленыя розумам і душой, як і людзі.

Хадзіце па мосце святога Францішка, каб быць людзьмі! Сустракайце на мосце святога Францішка сваё прызначэнне!

Пазбірайце ўсё, што згубілі ў хвалях жыццёвага мора, складайце на мосце. Масціце духоўны мост песняй любові!

Мост святога Францішка ў хвалі Нёмана зло не скідае, але калі моцна нехта жадае расквітацца са злом, на левым баку Нёмана на горцы святога Францішка дапамогуць духоўныя яго паслядоўнікі — ойча Юзаф і яго вікарыі, так падобныя да святога Францішка, — яны прышлюць калі не малога Анёла, то белага галубка...

Уздымуць над вашай слабасцю рэлікварый з рэліквіямі святога Францішка і яго святога сябра Антонія, дакрануцца да вашых вуснаў — і вы падужэеце... Пацалунак, якому восем стагоддзяў, кожны аўторак можна атрымаць у францішканаў пасля навэнны да святога Антонія ... А як святы Антоні містычным спосабам дапамагае Маці Божай песціць Дзіцятка Езуса, то гэта — і Езусаў пацалунак.

...Першую ноч у Гародні мне давялося начаваць на вуліцы, вуліца Падольная прывяла мяне ўночы на мост... Так мост прытуліў вясковую прастату да еўрапейскай бяссонніцы!

Мост святога Францішка адной асобе не належыць, мост злучае людзей думкамі, ды не заганяе ў самоту...

На мосце святога Францішка цалавацца нязручна, надта вялікі рух. Зручна на мосце сустракацца з тымі, хто высока ў нябёсах, — таму я назвала сваю кнігу пра любоў і сяброўства так — «Мост святога Францішка»...

Калі б змог пісьменнік Васіль Быкаў вярнуцца ў Гародню, мы з ім сустрэліся б зноў на мосце святога Францішка...

Не трэба плакаць на мосце — не муціце слязьмі Нёман, ён і так залішне зялёны ад слёз дубоў і ракітаў.

Гэты мост шырока праклалі — ім злучаюцца ўсе магістралі. Але ж вочы глядзяць у вочы, вочы пазнаюць вочы на мосце святога Францішка.

Можаце па-савецку называць гэты мост старым ці мостам злучэння Беларусі ў адну дзяржаву БССР — мост нават не скаланецца, бо гэта — мост святога Францішка.

«Благаслаўлёныя тыя, каго пераследуюць за справядлівасць, бо іх ёсць Валадарства Нябеснае!»

Мы ходзім па мосце святога Францішка — і ў мінулае XIX стагоддзе, і ў будучае. Усё вяртаецца разам з Езусам, нанова ўсё пачынаецца, але нічога не паўтараецца.

Распавяла вам, усім, пра свой шлях на мост святога Францішка.

Буду чакаць разам з вамі Езуса Хрыста тут, у Гародні, на мосце святога Францішка. Яго мост узвышае Гародню над усімі, над местамі і прыстанкамі, над вёскамі і засценкамі, над фальваркамі і хутарамі! Вылучае Гародню і над сталіцамі, асабліва над тымі, якія на ўсход ад Гародні.

*Данута Бічэль*

---

**Данута БІЧЭЛЬ** нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты – гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008).



М. Бутаўт-Анджэйковіч.
«Кардынал Джаванні Медычы і Пампоні Лэт на рымскіх раскопках» (1878 г. ),
Нацыянальны музей у Варшаве.

# «Мужчынскі талент» маладой мастачкі

## Марыя Магдалена Бутаўт-Анджэйковіч

Творчы дэбют першай у Беларусі прафесійнай мастачкі XIX ст. Марыі Магдалены Бутаўт-Анджэйковіч адбыўся на выставе ў Кракаве ў 1876 г. , дзе яна экспанавала гістарычнае палатно «Ян Каханоўскі над памерлай Уршулькай» , напісанае ў Мюнхене. У гэты час маладой мастачцы было толькі 24 гады! З гэтай выставы і цягам усёй кароткай па часе мастацкай дзейнасці творы Бутаўт-Анджэйковіч мелі вялікую зацікаўленасць аматараў мастацтва і крытыкі, якая адзначала іх незвычайную моц, тэхнічную дасканаласць, унікальнае пачуццё гармоніі ў стварэнні выразных шматфігурных кампазіцый і «мужчынскі талент» маладой мастачкі, выпускніцы прэстыжнай еўрапейскай вучэльні — Мюнхенскай Каралеўскай акадэміі мастацтваў.

Час пасля паўстання 1863 г. у гісторыі беларускага мастацтва вызначыўся актыўным засваеннем здабыткаў еўрапейскага мастацтва праз навучанне маладых талентаў з Беларусі ў вядомых мастацкіх акадэміях Еўропы, сярод якіх найбольш прывабнай для нашай мастацкай моладзі, як і для прадстаўнікоў усіх земляў былой Рэчы Паспалітай, стала Мюнхенская акадэмія.

Мюнхен вабіў імёнамі славутых прафесараў акадэміі, такіх як Карл Пілаці, не толькі прафесар, але і рэктар акадэміі, які ў сваіх пафасных гістарычных карцінах здолеў спалучыць наватарскія каларыстычныя франка-бельгійскія здабыткі з характэрнай для бідэрмаера арганізацыяй пышнай кампазіцыі. Майстрам гістарычнага жанру ў яго пабытовым, больш камерным увасабленні быў у акадэміі Вільгейм Дзіз, які актыўна перадаваў сваім вучням жывы французскі каларызм. І, зразумела, для многіх беларускіх і польскіх студэнтаў Мюнхенскай акадэміі бясспрэчным аўтарытэтам быў Аляксандр Вагнер, які жыва, эмацыянальна раскрываў сваім вучням таямніцы жывапіснай тэхнікі і асабістую маэстэрыю ў панарамных гістарычных кампазіцыях. Разам з тым Мюнхен — гэта не толькі акадэмія з яе адкрытасцю на самыя новыя тэндэнцыі і кірункі еўрапейскага мастацтва, але і дынамічны мастацкі асяродак, які стваралі шматлікія прыватныя мастацкія школы, мастацкія атэлье, выставачныя залы і антыкварныя крамы, у якіх выстаўляліся і актыўна набываліся мастацкія творы. Мюнхен XIX ст. вылучаўся і шчодрым мецэнацтвам валадароў Баварыі Вітэльсбахаў, і зычлівай ветлівасцю каталіцкага насельніцтва. Усё гэта гарантавала не толькі плённую навуку, але і захаванасць нацыянальнай і мастацкай самабытнасці прадстаўнікоў самай вялікай іншаземнай супольнасці Мюнхена, якіх тут называлі палякамі, але якія, насамрэч, прадстаўлялі ўсе гістарычныя рэгіёны былой Рэчы Паспалітай.

Пасля студзеньскага паўстання колькасць студэнтаў і

мастакоў, якія паходзілі з земляў былой Рэчы Паспалітай, значна павялічылася і перавысіла 80 чалавек. Важна адзначыць, што нашыя землякі ў Мюнхене не сталі эмігрантамі, яны навучаліся ў акадэміі і прыватных мастацкіх студыях, супрацоўнічалі з мюнхенскімі мастацкімі арганізацыямі, выстаўляліся на шматлікіх выставах і пры гэтым трымалі сталы кантакт з Бацькаўшчынай і яе творчымі асяродкамі, а потым, у пераважнай большасці, вярталіся на Радзіму і мацавалі падмуркі маладых нацыянальных мастацтваў. Так, браты Макс і Аляксандр Герымскія, Юзаф Бранд, Ян Матэйка і іншыя мюнхенцы далі значны імпульс для развіцця польскага мастацтва; Валенці Ванькові́ч, Казімір Альхімовіч, Марыя Магдалена Бутаўт-Анджэйковіч, Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, браты Альфрэд і Эдвард Ромеры і іншыя працавалі на станаўленне і развіццё беларускага і літоўскага мастацтваў.

Ля вытокаў актыўнага мастацкага жыцця Мюнхена XIX ст. стаяў першы кароль Баварыі Макс I Ёзэф, які ў 1809 г. адчыніў Каралеўскую акадэмію мастацтваў (*Königliche Akademie der Bildenden Künste*). Пры яго панаванні была заснавана і першая арганізацыя мюнхенскіх мастакоў *Münchener Kunstverein* (далей, Кунстферайн), якая дзейнічала пад патранатам караля і праводзіла шырокую выставовую дзейнасць у процівагу акадэміі з яе афіцыйнымі выставамі. Але традыцыйна творцам Мюнхена як цэнтра мастацтва і ў значнай меры сённяшняга урбаністычна-архітэктурнага аблічча горада лічыцца старэйшы сын Максіміліяна I Людвік I, жыццёвай пасіяй якога было мастацтва. Менавіта пры ім былі пабудаваны Гліптатэка, якая сабрала антычныя скульптуры, Старая і Новая Пінакатэкі, у якіх, адпаведна, экспанаваліся еўрапейскі жывапіс (да XIX ст. ) і жывапіс XIX ст. , у асноўным нямецкі. Манарх, падтрымоўваючы мастакоў і купляючы іх творы, стварыў аснову багатай калекцыі сучаснага еўрапейскага і нямецкага жывапісу, якая і сёння прыцягвае ў Мюнхен мільёны аматараў мастацтва і проста цікаўных турыстаў.

У сваю чаргу, Людвік II, сябра Рыхарда Вагнера, найбольш паспрыяў развіццю музычнага і тэатральнага мастацтва. Для пластычных мастацтваў, асабліва жывапісу, гэты час адметны ўзмацненнем мецэнацтва з боку мяшчанства, якое пачынае актыўна апекаваць мастакоў і купляць іх творы. У 1869 годзе ў мюнхенскім Шкляным палацы адбылася Першая Міжнародная выстава мастацтва, якая абвясціла перамогу рэалізму ў еўрапейскім мастацтве і распачала ў Мюнхене рэгулярныя мастацкія імпрэзы міжнароднага ўзроўню. Менавіта ў часы панавання Людвіка II у Мюнхен прыбыла самая вялікая колькасць мастакоў з земляў былой Рэчы Паспалітай [3, с. 5–26].

У гэты благаслаўлённы для мастацкага жыцця час у Мюнхенскай акадэміі навучалася наша зямлячка, народжаная ў Баландычах, каля Гродна, Марыя Магдалена Бутаўт-Анджэйковіч (1852 — 1933 гг. ). Сам факт навучання жанчыны ў афіцыйнай Каралеўскай акадэміі быў выключным для таго часу, паколькі Мюнхенская акадэмія была тады адзінай у Еўропе навучальнай установай падобнага ўзроўню, у якой дазвалялася навучацца жанчынам. Забарона жанчынам навучацца ў мастацкіх акадэміях тлумачылася вельмі банальна — акадэмічная мастацкая адукацыя патрабавала працы з аголенай натурай, а жанчынам падобны занятак забараняўся дыскрымінацыйнай афіцыйнай мараллю таго часу. Але дазвол на мастацкую адукацыю для жанчын у Мюнхенскай акадэміі дадаў прывабнасці Мюнхену, куды пацягнуліся за адукацыяй таленавітыя, маладыя, мэтанакіраваныя і смелыя пані з Германіі, Аўстра-Венгрыі, Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны.

Бацька Марыі Магдалены за ўдзел у паўстанні 1863 г. быў высланы ў Пензенскую губерню, дзе прайшло дзяцінства мастачкі. У 1872 — 1874 і 1876 — 1879 гг. яна была студэнткай жывапісу ў Мюнхенскай акадэміі, што задакументавана ў *Matrikelbücher* (афіцыйныя спісы студэнтаў) акадэміі [3, с. 28]. Яе мастацкая асабовасць фармавалася пад уплывам вядомага нямецкага педагога Аляксандра Ліцэн-Маера, прызнанага майстра гістарычных кампазіцый, прадстаўніка шматлікага і вядомага ў Мюнхене мастацкага роду, мастака Макса Адама, які таксама быў прызнаным майстрам гістарычнага жанру. Будучы студэнткай акадэміі, Марыя Магдалена стала сябрам Кунстферайна і экспанавала свае карціны ў Мюнхене разам з сябрамі арганізацыі [3, с. 81].

Пасля вяртання на Бацькаўшчыну ў 1881 г. мастачка жыла ў Варшаве і недалёка ад Ваўкавыска ў бацькоўскім маёнтку Гарнастаевічы, які яна наследавала пасля смерці бацькі і пазней перапісала сваяку Генрыку Канстанціну Бутаўту-Анджэйковічу, апошняму ўладальніку маёнтка.

Мастацкі дэбют Бутаўт-Анджэйковіч на кракаўскай выставе 1876 г. распачаў актыўную выставовую дзейнасць мастачкі. Яе творы экспануюцца ў Мюнхене, Варшаве, Кракаве і Вільні. Працавала Бутаўт-Анджэйковіч пераважна ў жанры гістарычнай



Мюнхенская акадэмія мастацтваў.
Сучасны выгляд. Фота Н. Маліноўскай-Франке.

ямі, не пазбаўленымі пэўных праяваў акадэмізму, паўплываў на фармаванне візуальнай культуры Беларусі, Літвы і Польшчы, карыстаўся папулярнасцю сярод мастакоў і прыхільнасцю аматараў жывапісу. Да канца жыцця мастачка заставалася прызнаным аўтарытэтам сярод маладшых калегаў і амаль да 20-х гг., жывучы ў Гарнастаевічах, здолела ўдзельнічыць ў мастацкім жыцці Вільні.

Напрыканцы 20-х гг. XX ст. завязалася творчае сяброўства Марыі Магдалены з вядомым беларускім мастаком, акадэмікам Пецярбургскай акадэміі мастацтваў Станіславам Жукоўскім, родныя мясціны якога былі непадалёку ад Гарнастаевічаў, куды да старэйшага па мастацкім цэху калегі Жукоўскі завітваў штогод на летнія пленэры 1929–1933 гадоў. У маёнтку Бутаўтаў-Анджэйковічаў Жукоўскі напісаў некалькі партрэтаў у інтэр'еры старасвецкага гарнастаевіцкага дома. Гэта алейны партрэт Гелены Бутаўт-Анджэйковіч, жонкі Генрыха Канстанціна на фоне «каміннага» салону і два партрэты дачок панства Бутаўтаў-Анджэйковічаў, выкананыя ў тэхніцы малюнку. Не абышоў увагай майстар і сваю калегу. Марыю Магдалену ён напісаў разам з пляменнікам за сталом у інтэр'еры сталовага пакою. Але, на жаль, карціны, як і партрэтныя малюнкі дзяўчынак,

карціны і ў сакральным жывапісе, радзей пісала партрэты і побытавыя сцэнкі. У музеях Польшчы захоўваюцца дзве гістарычныя кампазіцыі мастачкі: «Кардынал Джаванні Медычы і Пампоні Лэт на рымскіх раскопках» (напісаная ў 1878 г. і цяпер знаходзіцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве) і «Уладзіслаў Лакотак у Айцове» (напісаная ў 1881 г., захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве). Пра іншыя карціны мастачкі можна меркаваць толькі на падставе тагачаснай крытыкі і апублікаваных рэпрадукцый.

Карціна «Кардынал Джаванні Медычы і Пампоні Лэт на рымскіх раскопках» вельмі характэрны для мастачкі твор, у якім яна прадэманстравала ўласцівыя яе аўтарскаму стылю якасці: здольнасць да неардынарнай святлаценевай пабудовы кампазіцыі, выкарыстанне мюнхенскага совусу, які дапамог у вырашэнні каларыстычных задачаў, падкрэсліваючы выразнасць цэнтральнай фігуры пры змякчэнні колеру кардынальскага адзення і ствараючы аўру таямніцы вакол постаці археолага Лэта і ўсёй кампазіцыі, што парушыла агульную акадэмічную сцэнаграфію твора.

У сувязі з небяспекай страты зроку напрыканцы 80-х гг. XIX ст. мастачка перастала пісаць і занялася філантрапічнай і педагагічнай дзейнасцю, выкладаючы курс жывапісу для жанчын у Варшаве. Апошні раз мастачка выстаўляла свае творы ў варшаўскай «Захэнце» ў 1888 годзе. Жывапіс Бутаўт-Анджэйковіч, які вызначаецца добрым малюнкам, багатымі святлоценевымі эфектамі і таленавіта пабудаванымі шматфігурнымі кампазіцыямі, не пазбаўленымі пэўных праяваў акадэмізму



Сядзібны дом у Гарнастаевічах.
Здымак да 1914 г.

загінулі ў 1939 — 1941 гг. [2, с. 213].

Тут жа, у ваколіцах Гарнастаевічаў, Жукоўскі стварыў шмат эцюдаў і завершаных карцінаў з краявідамі палёў і лугоў над любай яму і роднай з дзіцячых гадоў Россю ў розныя поры года («Пачатак зімы», 1929 г.), з адмысловай назіральнасцю адлюстроўваў у сваіх пейзажах суседнюю, добра вядомую яму як паляўнічаму, Свіслацкую пушчу (цыкл «Свіслацкая пушча»), а таксама сядзібны дом Бутаўтаў-Анджэйковічаў у карціне «Восеньская раніца», якая сёння захоўваецца ў Днепрапятроўскім мастацкім музеі і не вызначана датай напісання [1, с. 201]. Ведаючы, што Жукоўскі прыязджаў да Бутаўт-Анджэйковіч у 1929–1933 гг., мы можам абмежаваць час напісання карціны гэтымі гадамі.



С. Жукоўскі, «Восеньская раніца» (1929–1933 гг.), Днепрапятроўскі мастацкі музей.

На карціне мастак паказаў фрагмент галерэі галоўнага фасада гарнастаевіцкага дома, уязную, характэрную для Ваўкавышчыны, драўляную браму на мураваных і атынкаваных слупах, дрэвы восеньскага саду і апошнія кветкі, якія прытуліліся да асвечаных сонцам калонаў. Дом Бутаўтаў-Анджэйковічаў не захаваўся. Ён быў значна пашкоджаны яшчэ падчас Першай сусветнай вайны, таму сям'я ў міжваенны перыяд жыла ў афіцыне, а дом чакаў рамонту і ўлетку прымаў гасцей гаспадароў маёнтка. Пасля Другой сусветнай вайны дом разабралі, а цэглу выкарысталі на патрэбы пасляваеннага калгаснага будаўніцтва. Толькі некалькі фотаздымкаў і вытанчаны па настроі і звонкі па жывапісе пейзаж С. Жукоўскага даносяць да нас аблічча радавога гнязда слаўнага роду Бутаўтаў-Анджэйковічаў, якія падаравалі нашаму мастацтву таленавітую мастачку, педагога і культурнага дзеяча Марыю Магдалену Бутаўт-Анджэйковіч.

У 1933 г. ціхім і прыгожым чэрвеньскім днём пасля цяжкай хваробы, без скаргаў і просьбаў для сябе Марыя Магдалена памерла ў сваім гарнастаевіцкім доме і была пахаваная сваякамі ў сямейным склепе ў Поразаве.

...Сёння, калі ў адзіноце блукаеш сярод старых дрэваў гарнастаевіцкай сядзібы, можна прыцішыцца і пачуць у шапаценні верхавінаў высачэзных ліпаў, ва ўсхваляваным журчанні Росі на ўскрайку старога саду і журботным гудзенні ветру ў касматых ялінах аповед пра даўнія чысы, пра шаноўную панну мастачку і яе захапленне навакольным светам, пра яе ўменне прыцягваць да сябе людзей, пра ціхія жнівеньскія вечары на тэрасе старога дома пад высокім зорным небам, калі старэнькая сівая жанчына павольна працягвала адвечны дыялог мастака з Панам Богам на тэму мастацкай творчасці і «creatio ex nihilo»...

*Таццяна Маліноўская,*
*Наталля Маліноўская-Франке*

Літаратура


1. Горелов, М. И. Станислав Юлианович Жуковский. Жизнь и творчество 1875 — 1944 / М. И. Горелов. — Москва : Искусство, 1982. — 271 с.
2. Aftanazy, R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / R. Aftanazy. — T. 2 : Województwa nowogródzkie, brzesko-litewskie. — Wrocław-Warszawa-Kraków : Ossolineum, 1993. — 472 s.
3. Stępień, H. Artyści polscy w środowisku monachijskim w latach 1824 — 1914. Materiały źrodłowe / H. Stępień, M. Liczbińska. — Kraków : CHORS, 1994. — 315 s.



**Таццяна Маліноўская** – культуролаг. Закончыла гісторыка-педагагічны факультэт Гродзенскага педінстытута і аспірантуру Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Працуе старэйшым выкладчыкам на кафедры беларускай культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Даследуе архітэктуру Гродзеншчыны, беларускае народнае мастацтва і выяўленчае мастацтва.

**Наталля Маліноўская-Франке** – мастацтвазнаўца. Закончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы (1996) і аспірантуру Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Працавала выкладчыкам у дзіцячай мастацкай школе ў Гродне. Даследуе беларускі жывапіс. Займаецца публіцыстыкай.

## CONTENTS

Article *Rembrandt. Denial of St. Peter* by art critic Valery Buival opens this edition of *Our Faith*, in which the author tells us about one of the famous works of Netherlandish painting (p. 2-3).

Readers are invited to read the text of the speech of Holy Father Benedict XVI during general audience for the Catholic Bishops of Belarus within the visit *Ad limina apostolorum*. Archbishop Tadeush Kandrusevich suggests his arguments about this visit in the article *To the Thresholds of the Apostles* (p. 4-8).

Under the title *Priesthood is Love of Heart of Jesus* we place excerpts from the letter of Pope Benedict XVI for the Year of Priesthood, which is dedicated to St. Jean Marie Vianney (p. 9-12).

In column *Translations* we print continuation of *The Flowers of St. Francis* translated by Aksana Danilchyk (p. 13-16).

In column *Ad fontes* we place continuation of the famous work of Thomas a Kempis *The Imitation of Christ* translated into Belarusian by d. Stanislau Grynkevich in the 30-es of the last century (p. 17-19).

To the 120th anniversary of priest Kanstantin Stepovich (poet Kazimir Svayak) we publish articles by Irina Bagdanovich *Two Vocations: Kazimir Svayak — Priest and Poet*, and by Alena Glagouskaya *Picture of Kazimir Svayak from Zakopane*, as well as a selection of poems of this talented poet and priest (p. 20-28).

In column *Art* we print the research of Alaxander Yarashevich *Subject of Presentation of Jesus in the Temple* in the Belarusian art (p. 29-33).

In column *Year of Priesthood* Zhanna Nekrashevich-Karotkaya tells us about priest Witald Zhylvetra (p. 34-37).

*To Be Means to Learn* is the name of the article by priest Alaxander Amyalchenya, which encompasses topics of the new evangelization in the modern world (p. 38-43).

In column *Faith and Culture* we publish the first part of the article by priest Piotra Rudkouski OP *Language as a Cultural and Ethical Issue* (p. 44-46).

Doctor of Art Tamara Gabrus prepared for readers of the magazine her article *Heralds of God. Iconography of Choirs of Angels in the Belarusian Sacred Painting of the 16th-18th centuries* (p. 47-55).

In column *Translations* we place poems by Uladzislau Syrakomlya translated by Uladzimir Marhel (p. 56-57).

In this edition of *Our Faith* we publish the poetry of the famous Belarusian creator Ales Razanau (p. 58-60).

The article by Peter Wail *In the Beginning — Giotto* tells us about the famous Italian artist of the Renaissance (p. 61-66).

*Bridge of St. Francis* is the title of the new essay by Belarusian poet Danuta Bichel (p. 67).

In column *Art* we print the article by Tatiana Malinouskaya and Natalia Malinouskaya-Franke *'Male Talent' of the Young Paintress*, which tells us about the oeuvre of the first in Belarus professional paintress Maria Magdalena Butaut-Andzheykovich (p. 68-71).

## RESÜMEE

Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit dem Artikel des Kunstwisenschaftlers Walery Bujwal „Rembrandt. Apostel Petrus verleugnet Christus", in dem der Autor über eines der berühmten Werke der niederländischen Malerei erzählt (S. 2-3).

Der Aufmerksamkeit der LeserInnen wird die Rede des Heiligen Vaters Benedikt XVI. angeboten, die er während der Audienz für alle katholischen Bischöfe von Belarus im Rahmen seines Besuches *Ad limina apostolorum* gehalten hat. Seine Überlegungen über diesen Besuch bietet Erzbischof Tadeusz Kondrusiewicz im Artikel „An die apostolischen Schwellen" an (S. 4-8).

Unter dem Titel „Das Priestertum ist die Liebe des Herzens zu Jesus" befinden sich Auszüge aus dem Brief von Benedikt XVI. für das Jahr des Priestertums, das der Person des heiligen Johannes Maria Vianney gewidmet ist (S. 9-12).

In der Rubrik „Übersetzungen" ist die Fortsetzung der „Blümchen des heiligen Franziskus" in der Übersetzung von Aksana Daniltschyk veröffentlicht (S. 13-16).

In der Rubrik *Ad fontes* befindet sich die Fortsetzung des berühmten Werkes von Thomas von Kempen „Nachfolge Christi" in der belarussischen Übersetzung, die von Dr. Stanislau Grynkewitsch in den 30er Jahren des 20. Jahrhunderts ausgeführt wurde (S. 17-19).

Anlässlich des 120. Geburtstages des Priesters Kanstanzin Stepowitsch (des Poeten Kasimir Swajak) sind der Artikel von Iryna Bagdanowitsch „Zwei Berufungen: Kasimir Swajak als Priester und Poet" und der Artikel von Alena Glagouskaja „Das Foto von Kasimir Swajak in Zakopane" gedruckt sowie eine Reihe von Gedichten des talentierten Priesters und Poeten (S. 20-28).

In der Rubrik „*Kunst*" ist die Untersuchung von Aljaksandr Jaraschewitsch „Das Sujet der Opferung des Herrn in der belarussischen Kunst" veröffentlicht (S. 29-33).

In der Rubrik „*Das Jahr des Priestertums*" erzählt Shanna Nekraschewitsch-Karotkaja über den Vater Witald Shilvetru (S. 34-37).

„Sein heißt lernen" heißt der Artikel des Priesters Aljaksandr Amjaltschenja, der die Problematik der „neuen Evangelisierung in der modernen Welt" berührt (S. 38-43).

In der Rubrik „*Glaube und Kultur*" ist der erste Teil des Artikels von Pjotr Rudkouski OP „Sprache als kulturelles und ethnisches Problem" gedruckt (S. 44-46).

Doktorin der Kunstwissenschaft Tamara Gabrusj hat für die LeserInnen der Zeitschrift den Artikel „Die Boten des Gottes. Die Ikonographie der Engelschöre in der belarussischen sakralen Malerei in den XVI. – XVIII. Jahrhunderten" vorbereitet (S. 47-55).

In der Rubrik „*Übersetzungen*" sind die Gedichte von Uladzislau Syrakomlja in der Übersetzung von Uladzimir Marhel untergebracht (S. 56-57).

In dieser Nummer ist die Lyrik des bekannten belarussischen Autors Alesj Rasanau gedruckt (S. 58-60).

Der Artikel von Pjotr Wajl „Anfänge: Giotto" handelt vom bekannten italienischen Maler der Renaissance (S. 61-66).

„Die Brücke des heiligen Franziskus" heißt der neue Essay der belarussischen Lyrikerin Danuta Bitschel (S. 67).

In der Rubrik „*Kunst*" befindet sich der Artikel von Tazzjana Malinouskaja und Natallja Malinouskaja-Franke «"Das männliche Talent" der jungen Malerin», der vom Schaffen der ersten professionellen Malerin in Belarus Maria Magdalena Butaut-Andshejkowitsch handelt (S. 68-71).

## PODSUMOWANIE

Numer otwiera artykuł historyka sztuki Waleryja Bujwała pt. „Rembrandt. Zaparcie się świętego Piotra" w którym autor opowiada o jednym z najbardziej znanych dzieł sztuki holenderskiej (s. 2-3).

Uwadze Czytelników proponuje się tekst przemówienia na audiencji ogólnej Ojca Świętego Benedykta XVI dla biskupów katolickich Białorusi podczas wizytacji *Ad limina apostolorum*. Rozważania o tej wizytacji proponuje arcybiskup Tadeusz Kondrusiewicz w artykule „Do progów apostolskich" (s. 4-8).

„Kapłaństwo jest miłością Serca Jezusowego" pod takim tytułem ukazują się fragmenty listu papieża Benedykta XVI na Rok Kapłaństwa poświęcony osobie św. Jana Marię Vianneya (s. 9-12).

W rubryce *„Tłumaczenia"* drukuje się ciąg dalszy „Kwiatków świętego Franciszka" w tłumaczeniu Aksany Danilczyk (s. 13-16).

W rubryce *„Ad fontes"* Czytelnicy znajdą ciąg dalszy słynnej pracy Tomasza a Kempis „O naśladowaniu Chrystusa", która została przetłumaczona na język białoruski przez dra Stanisława Hrynkiewicza w latach 30-tych minionego stulecia (s. 17-19).

Z okazji 120-lecia z dnia urodzin księdza Konstantego Stepowicza (poety Kazimierza Swajaka) drukują się artykuły Iryny Bahdanowicz „Dwa powołania: Kazimierz Swajak — kapłan i poeta" i Aleny Hłahouskaj „Zdjęcie zakopiańskie Kazimierza Swajaka", oraz niektóre wierszy tego utalentowanego kapłana i poety (s. 20-28).

W rubryce *„Sztuka"* umieszczona została praca badawcza Alaksandra Jaraszewicza „Motyw Ofiarowania Pańskiego w sztuce białoruskiej" (s. 29-33).

W rubcyce *„Rok Kapłaństwa"* Żanna Niekraszewicz-Karotkaja opowiada o ks. Witoldzie Żylwietrze (s. 34-37).

„Istnieć to znaczy uczyć się"— pod takim tytułem ukazuje się artykuł ks. Alaksandra Amialczeni dotyczący problematyki „nowej ewangelizacji w świecie współczesnym" (s. 38-43).

W rubryce „*Wiara & Kultura*" drukuje się część pierwsza artykułu Piotra Rudkouskiego OP „Mowa jako problem kulturowy i etyczny" (s. 44-46).

Doktor historii sztuki Tamara Gabruś przygotowała dla Czytelników czasopisma artykuł „Zwiastuny Pana Boga. Ikonografia chórów anielskich w białoruskiej sztuce sakralnej XVII-XVIII ww." (s. 47-55).

W rubryce *„Tłumaczenia"* umieszczone zostały wiersze Władysława Syrakomli w tłumaczeniu Uładzimira Marchela (s. 56-57).

W tym numerze drukuje się poezja znanego białoruskiego twórcy Alesia Razanowa (s. 58-60).

W artykule Piotra Wajla „Na początku: Giotto di Bondone" opowiada się o włoskim artyście epoki Renesansu (s. 61-66).

„Most świętego Franciszka" — taki tytuł ma nowy esej białoruskiej poetki Danuty Biczel (s. 67).

W rubryce *„Sztuka"* drukuje się artykuł Tacciany Malinouskiej i Natalli Malinouskiej-Frankie «"Talent męski" młodej artystki», w którym autorki opowiadają o twórczości pierwszej na Białorusi fachowej artystki Maryi Magdaleny Butaut-Andrzejkowicz (s. 68-71).

## SOMMARIO

Questo numero di "Naša vera" inizia con la pubblicazione dell'articolo del critico d'arte Valery Bujval "Rembrandt. La negazione di Pietro" in cui l'autore racconta del capolavoro di pittura olandese (p. 2-3).

All'attenzione dei lettori si sottopone il testo del Discorso di Santo Padre Benedetto XVI ai presuli della Conferenza episcopale di Bielorussia in visita *Ad limina apostolorum*. Si allegano le riflessioni sulla visita dell'arcivescovo Tadeusz Kondrusevič sotto forma dell'articolo intitolato "Alle soglie apostoliche" (p. 4-8).

Sotto il titolo "Il Sacerdozio è l'amore del cuore di Gesù" sono collocati i brani di lettera del Papa Benedetto XVI dedicata all'Anno Sacerdotale e alla personalità di Gian Maria Vian (p. 9-12).

Sotto la rubrica *Traduzioni* continua la pubblicazione dei *Fioretti* di San Francesco tradotti da Aksana Danilchyk (p. 13-16).

Nella rubrica *Ad fontes* all'attenzione dei lettori si sottopone la parte successiva del famoso saggio di Tommaso da Kempis *l'Imitazione di Cristo* tradotto in bielorusso da Stanislau Hrynkevič negli anni trenta del secolo scorso (p. 17-19).

Al 120° anniversario della nascita del sacerdote Kazimir Stepovič (poeta Kazimir Svajak) sono dedicati i due articoli: di Iryna Bagdanovič „Le due vocazioni: Kazimir Svajak — il sacerdote e il poeta" e di Alena Glagouskaja „La fotografia di Kazimir Svajak da Zakopane" con la rassegna delle poesie del medesimo (p. 20-28).

Sotto la rubrica *Arte* si pubblica lo studio del critico d'arte Aliaksandr Jaraševič "Il sacrificio del Signore nell'arte bielorussa" (p. 29-33).

Sotto la rubrica *L'Anno Sacerdotale* Žanna Nekraševič-Karotkaja racconta del padre Vitald Žilvetra (p. 34-37).

L'articolo del padre Aliaksandr Amialčenia si chiama "Essere significa studiare" e analizza il problema "dell'evangelizzazione nuova al mondo moderno" (p. 38-43).

Sotto la rubrica *Fede e cultura* si pubblica la prima parte dell'articolo di Piotr Rudkouski OP "La lingua come problema culturale ed etico" (p. 44-46).

La Dottoressa di ricerca in arte Tamara Gabrus ha preparato per i lettori della rivista l'articolo "I messaggeri del Signore: L'iconografia dei cori degli angeli nella pittura sacra bielorussa dei secoli XVI–XVIII" (p. 47-55).

Nella rubrica *Traduzioni* sono collocate le poesie di Uladzislau Syrakomlia tradotte da Uladzimir Markhel (p. 56-57).

In questo numero si pubblicano le poesie del famoso artista bielorusso Ales Rasanau (p. 58-60).

Nell'articolo di Piotr Vail "All'inizio: Giotto" si racconta del celebre pittore italiano del Rinascimento (p. 61-66).

Il nuovo saggio della poetessa bielorussa Danuta Bičel si chiama "Il ponte di San Francesco" (p. 67).

Sotto la rubrica *Arte* si pubblica l'articolo di Tattsiana Malinouskaja e Natallia Malinouskaja-Franke "Il talento "maschile" di giovane pittrice" in cui si racconta dell'attività della prima pittrice professionista in Bielorussia Maria Maddalena Butaut-Andžejkovič (p. 68-71).

---

На 1-й старонцы вокладкі — абраз «Арханёл Міхал» з в. Парахоньск Пінскага р-на. МСБК, ІМЭФ НАН Беларусі. Фота М. Новікава.


*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 1 (51)/2010.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*

*Падпісаны да друку 02.03.2010 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 500 экз. Зак №        .*

*Надрукавана ў друкарні ТАА «Прамкомплекс» ЛП № 02330/0494121 ад 25.02.2009.*

*вул. Бехцерава, 10-402, 220021 г. Мінск.*

# *Вестуны Пана Бога*

## Іканаграфія хораў анёльскіх у беларускім сакральным жывапісе XVI—XVIII стст.

(артыкул Т. Габрусь чытайце на старонках 47–55)



Абраз «Святы Аўгустын» са Слоніма.



Абраз «Святы Ануфрый у пустыні» (1750-я гг., мастак Тамаш Міхальскі).



Алтарная карціна «Арханёл Міхал, які перамагае Зло» з Міхайлаўскага касцёла дамініканцаў у Наваградку.



Абраз «Нараджэнне Хрыстова» з в. Латыгава Віцебскага р-на.



Абраз «Узнясенне прарока Іллі» латыгаўскага майстра.



Абраз «Звеставанне са святой Параскевай» латыгаўскага майстра.



Абраз «Багародзіца з хорам анёлаў»
з Петрапаўлаўскай царквы
ў в. Гарадзішча Камянецкага р-на.